

# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

29 СТУДЗЕНЯ 1999г. № 5/3985 КОШТ 12 000 РУБ.



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы!*

*Калі хто з Вас яшчэ не паспеў падпісацца на наш штотыднёвік, то гэта зрабіць можна і сёння. Кошт падпіскі на люты — **50 тысяч рублёў**, да канца I квартала — **100 тысяч**, на чатыры месяцаў — **200 тысяч рублёў**.*

**Наш індэкс — 63856.**




*Г. МАЦУР. Францыск Скарына. 1989.*

# Жыццё і гісторыя краіны

**У Нацыянальнай мастацкай галерэі адкрылася выстава беларускага друкаванага плаката — першая такая ёмістая і абагульняючая за ўсе гады існавання гэтага віду мастацтва ў Беларусі. Гледачу прадстаўлена "стагоддзе" беларускага плаката самых розных накірункаў, ад насычанага ідэалагічнай сімволікай да культуралагічнага, створанага з дапамогай сучасных камп'ютэрных тэхналогій. Тут і плакаты Эль Лісіцкага, і Я. Тараса, і Л. Замаха, і былых навучэнцаў Віцебскага мастацкага тэхнікума, і сучасных мастакоў, сярод якіх В. Цеслер, С. Войчанка, А. Шэлюта, А. Кітаева, С. Плотнікаў, С. Саркісаў, С. Еўлампіеў, Ю. Дзееў, Л. Наважылаў... На жаль, попыт нашага грамадства на плакат сёння зусім невялікі. І справа тут не ў змене кіруючай ідэалогіі альбо адсутнасці грошай на культуру і мастацтва. Задавальняе ж некага шэрасць і аднолькавасць акаляючага графічнага асяроддзя. Ад яе не пазбавілі наша грамадства ні энтузіясты "мастацтва ў масы" ў 20-я гады, ні лепшыя сённяшнія беларускія плакатысты, адзначаныя прызамі на прэстыжных міжнародных выставах. Але і на такім бязрадасным фоне беларускі плакат цікавы сваёй гісторыяй, што ішла побач з гісторыяй краіны, ён абнадзейвае сваім сённяшнім высокім узроўнем.**

**Пра гэта гутарка нашага карэспандэнта з мастацтвазнаўцам і мастаком Міхалам БАРАЗНО:**

*(Працяг на стар. 4)*



*Т. ГАРДАШНІКАВА, Д. СУРСКІ. Кадры вырашаюць усё. 1989.*




*А. КІТАЕВА. УНОВИС. 1989.*



## КОЛА ДЗЁН

***Заканчваецца першы месяц усё яшчэ пакуль што новага, 1999 года. На жаль, спадзяванні і жаданні, якія звязвалі з ім людзі ў навагоднюю ноч, не спраўджваюцца. І наўрад ці спраўдзяцца. Паляпшэння нашага жыцця і гэты год, уже відавочна, не прынясе. Наадварот: працэс збяднення народа набірае абароты. Сведчанне гэтага — нястрымны рост цэн. На працягу студзеня ён перавысіў 20 працэнтаў. Заробкі і пенсіі адстаюць усё больш і больш, так званы спажывецкі кошык беларуса раз ад разу пусцее і пусцее, у ім усё менш мяса, кілбас, масла, сыру, рыбы ды іншых неабходных і паўнавартасных прадуктаў, людзі ўсё больш пераходзяць на хлеб, бульбу, грэцу, алей ды ваду...***

### ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

25 студзеня вялікім святочным канцэртам на сцэне тэатра оперы і балета адзначыў свой 25-гадовы юбілей Беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль "Харошкі" пад кіраўніцтвам знанай спадарыні Валянціны Гаявой. Гучалі хвалюючыя, шчырыя словы віншаванняў, прывітанняў, пажаданняў. Зала грымела апладысментамі і воклічамі захаплення. Не захапляцца было нельга. Харошкаўцы дэманстравалі найвысокі густ і прафесіяналізм, спалучаныя з найвялікшай самааддачаю, запалам, весялосцю, нязмушанасцю, палымянасцю, агністасцю, задорнасцю, лёгкасцю, віртуознасцю, бляскам. Паланілі, уразілі і касцюмы, асабліва ў "Сакалiным паляванні" і "Свяце ў прадмесці". У тым ліку — багаццем, нават раскошаю. Ажно хацелася верыць, што Беларусь наша сёння — квітнеючая краіна, хоць заслуга ў гэтым найперш добрых людзей з аднолькавым для ўсіх нянаскім "прозвішчам" — Спонсар...

### ІНІЦЫЯТЫВА ТЫДНЯ

Беларусь усё ж недарэмна называюць "савецкім (ці камуністычным) запаведнікам". Колішнія савецкія традыцыі тут і праўда, мусіць, самыя моцныя. Многія з іх паспяхова аднаўляюцца. Стварающца і новыя, але таксама акурат па ўзоры ранейшых. Брэсцкі аблвыканкам, напрыклад, прыняў спецыяльнае рашэнне аб прысваенні паletкам калгасаў і саўгасаў імён заслужаных сельскіх працаўнікоў. Рэкамендуецца ставіць на краю поля спецыяльны памятны знак. А яшчэ — плаціць механізатарам, якія будуць абрабляць такія палеткі, на 10 працэнтаў больш. Што ні кажыце, а несмяротная яна, чыноўніцкая творчасць...

### МІТЫНГ ТЫДНЯ

Вулічныя грамадскія акцыі, так ужо склалася, звычайна праводзяцца вясной і восенню. Прынамсі, пік іх прыпадае на гэтыя поры года. Сёлета ж, выдае на тое, традыцыя будзе парушана. 27 студзеня ў Мінску адбыўся мітынг, наладжаны буйнейшымі прафсаюзнымі аб'яднаннямі краіны. Лозунг, які сабраў людзей ля Палаца спорту, красамоўны: "Не — збядненню народа!" Ды не толькі эканамічныя цяжкасці паклікалі рабочых на мітынг, пра што сведчылі хоць бы бел-чырвона-белыя палотнішчы, што лунаді над людскім морам. Дзіўна, але чамусьці каментарый вядучага БТ да гэтай падзеі быў нязвычна памяркоўны, без ляманту. Што б гэта, як той казаў, значыла?..

### ПРЫНЦЫПОВАСЦЬ ТЫДНЯ

На нарадзе па праблемах аграрнага сектара эканомікі і на выніковай калегіі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання гучала нямала пераможных рэляцый і лічбаў пра поспехі і здабыткі. Маўляў, павялічыліся вытворчасць і закуп жывёлы і птушкі, створаны неабходны рэзерв прадуктаў на зімовы перыяд, вытворчасць прамысловай прадукцыі АПК вырасла на 14,4 працэнта, тавараў народнага спажывання — на 13,2 працэнта... І поруч з гэтым — горкае прызнанне, што наша сельская гаспадарка — адзіная галіна, якая не выканала гадавыя заданні сацыяльна-эканамічнага развіцця ні па адным параметры. Недабор збожжа склаў больш чым 2 мільёны тон. Колькасць стратных гаспадарак падвоілася. Знізілася вытворчасць валавой прадукцыі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў ва ўсіх абласцях, за выключэннем Гродзенскай. Скарацілася пагалоўе жывёлы, рэнтабельнасць галіны знізілася настолькі, што не дазваляе весці расшыранае ўзнаўленне вытворчасці... Тым не менш, на самым высокім узроўні гучыць высnова, што ў Беларусі, "няма неабходнасці ў шматукладнай эканамічнай сістэме", што нас ратуюць ад эканамічнага краху рэшткі савецкай сістэмы, якія мы не паспелі зламаць...

### АХВЯРЫ ТЫДНЯ

За мінулы тыдзень у краіне зарэгістраваны 232 пажары. Вынік іх — жахлівы! У агні і дыме загінуў 21 чалавек. Полымя знішчыла ці пашкодзіла 149 будынкаў, 9 адзінак тэхнікі, 125 тон сена. Агульныя матэрыяльныя страты склалі 4 з паловай мільярды рублёў. І гэта — толькі на працягу аднаго студзеньскага тыдня! Хто і калі спыніць гэтую страшную вогненную статыстыку?

### ПАРАЛЕЛІ ТЫДНЯ

"Народная воля" днямі надрукавала даведку пра заробкі і цэны ў суседняй Летуве. Заробкі — ад 120 долараў (няня ў дзіцячым садку) да 350-400 (інжынер-праграміст). Сярэдняя пенсія ў суседзяў-жамойтаў — 125 долараў. А цэны — на сёе-тое (яблыкі, апельсіны, мандарыны, бананы) прыкладна такія ж, як і ў нас, на масла і вараныя кілбасы ў паўтара-два разы большыя, на свініну — большыя на 30 працэнтаў, на цукар — на 50 працэнтаў, на рыбу — такія ж, на яйкі — на 20-30 працэнтаў большыя. Даведка — добрая спажыва нам, беларусам, для роздуму пра ўласнае жыццё-быццё...

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"...нашы продкі пры царызме мелі тыя самыя праблемы, якія і мы цяпер маем: ашуканства ўлад, п'янства, зладзейства, пагарда да роднай мовы, малое зацікаўленне кніжкамі і шмат чаго іншага. Пра гэта ў "Нашу ніву" пісалі карэспандэнты з нашых ваколіц і яны не лгалі. Падобнае і цяпер пішам мы, карэспандэнты, мо толькі на крыху іншай мове. А факт астаецца адзін: наш народ (і хіба кожны чалавек) застаецца такім, якім быў і калісьці. Сёння, праўда, маем дэмакратыю, і тыя, якія намі правяць, — яны на ласцы і волі нашай. Бяда заключаецца, аднак, у тым, што мы не патрапім адрозніць мякіны ад пшаніцы і часта выбіраем на высокія пасады розных прайдзісветаў замест добрых і гуманных сваіх людзей. А добрыя і адданыя патрыёты-беларусы ёсць, бо, як гаворыцца, свет не без добрых людзей... Хаця мы духова мяккія, аднак палякам далёка да нас. І хачу прывесці праўдзівыя факты: да нашых дзяўчат-беларусак напрыходзілі ў прымы хлопцы-палякі з Польшчы і кажуць, што мы народ залаты, бо каб прыйшлося беларусу аднаму прыжыць у польскай вёсцы са сваёй, ужо польскаю, сям'ёй — ён прапаў бы, як рудая мыш. А ў нас шавінізму няма; хай ведаюць усе!"

*(Мікалай Панфілюк, "Наша натура", тыднёвік беларусаў у Польшчы "Ніва" за 24 студзеня 1999 года, г. Беласток)*




# У музея, як і ў краіны, — усё наперадзе

Нацыянальнаму мастацкаму музею Рэспублікі Беларусь сёлета спаўняецца 60 год. Кропкай адліку бярэцца 24 студзеня 1939 года, калі ўрад Савецкай Беларусі прыняў пастанову аб стварэнні Дзяржаўнай карцiннай галерэі. А фактычна Галерэя існуе з лістапада таго ж года. У 1957 годзе яна становіцца Дзяржаўным мастацкім музеем БССР, пераязджае ў новае памяшканне — у будынак, які пабіўся спецыяльна для размяшчэння экспазіцыі і фондаў ДМ БССР. Праўда, па праекце будынак музея меўся быць удвая большым, але выдаткаваных грошай хапіла толькі на тое, што ў рэшце рэшт атрымалася. Ужо ў часе будаўніцтва давялося перараблядь праект у бок памяншэння кошту.

Па сутнасці, пасля вайны музей адраджаўся з нічога. Не ведаю, што канкрэтна з разрабаваных акупантамі скарбаў Дзяржаўнай карцiннай галерэі Беларусі было вернута на радзіму — але ведаю, што няшмат. Тое, чым валодае музей сёння, сабрана ў пасляваенныя дзесяцігоддзі. Гэта 22 з паловай тысячы адзінак захоўвання. Сярод іх каля 15 з паловай тысяч — беларускае мастацтва XIV—XX стагоддзяў; крыху болей за 5 тысяч — рускае мастацтва XVIII—XX стагоддзяў, крыху больш за 2 тысячы — мастацтва Заходняй Еўропы і Усходу. Наведвальнікі ж бачаць толькі малую частку таго, што ёсць. Сёння супрацоўнікі музея ладзяць шэраг перасоўных выстаў, каб хоць неяк чынам "разгрузіць" фонды і ўвесці музейныя каштоўнасці ў культурны абарот.

Афіцыйнае святкаванне 60-годдзя музея распачалося 24 студзеня. У гэты дзень уваход у музей быў бясплатным для ўсіх катэгорый наведвальнікаў. Праводзілася спецгашэнне паштовых марак з выявамі твораў, што належаць музею. Да гонару Беларускай пошты трэба адзначыць, што ўжо выйшла ў свет некалькі серый, якія прапагандуюць выяўленчае мастацтва Беларусі. Тры з іх (іканапіс, жывапіс, драўляная скульптура) прысвечаны якраз Нацыянальнаму мастацкаму музею.

Асноўныя святочныя мерапрыемствы мяркуецца здзейсніць летам — восенню. У кастрычніку плануецца наладзіць міжнародную канферэнцыю "Нацыянальны мастацкі музей у кантэксце нацыянальнай мастацкай культуры на мяжы стагоддзяў". Да канферэнцыі будуць прымеркаваны дзве выставы "Беларускае мастацтва XX стагоддзя з фондаў музея" і "Новыя паступленні з фондаў музея". Выставы тыя будуць зарыентаваны ў большай ступені на спецыялістаў, на тых, для каго мастацтва — прафесія. Між тым, наколькі мне вядома, у кіраўніцтва Нацыянальнага мастацкага музея ёсць намер як мага шырэй азнаёміць, так бы мовіць, "звычайную" публіку з тым, чым музей валодае. Такую выставу немагчыма размясціць у залах музея, для яе патрэбны Палац мастацтваў альбо Нацыянальны выставачны цэнтр (былая ВДНГ БССР). Такая выстава, дарэчы, паспрыяла б пастаноўцы (а мо і вырашэнню) пытання: што, уласна кажучы, мы лічым сваёй класікай, якіх творцаў і творы да яе далучаем? Што лічыць "залатым фондам", што "цікавай з'явай", а што можна без страты для нацыянальнай культуры і культуралогіі прадаць на аўкцыёне (калі, зразумела, у нашай краіне альбо за яе межамі знойдзецца прыватны калекцыянер альбо музей, зацікаўлены мець творы "сталінскага ампіру" альбо "суровага стылю"). Можа, я і прыспешваю падзеі, але рана ці позна Нацыянальнаму мастацкаму музею давядзецца рабіць рэвізію сваіх набыткаў, сваіх сховішчаў.

Хацелася б, каб юбілей стаў для музея пачаткам новай эпохі. 60 год — для музея не ўзрост. Славутыя музеі свету маюць ад часу заснавання не адно стагоддзе. Наш Нацыянальны мастацкі — адносна малады. З гэтага можа вынікаць, што ў яго, як ва ўсёй нашай краіны, усё наперадзе.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**




# Аб'яднацца, каб выжыць...

Мастаку ў Беларусі сёння кепска. Дзяржаўнага заказу ў той форме, якім ён быў калісьці, ужо няма, а прыватны заказчык малакольканы, ды і не да мастацтва яму зараз (іншыя клопаты мае — ад падатковай інспекцыі да інфляцыі грошы захаваць). Таму і не дзіўна, што імкнецца беларускі мастак на Захад — грошай зарабіць, а калі пашчасціць, дык і ўвогуле там атабарыцца. Без радзімы, зразумела, цяжка, але без сродкаў да існавання яшчэ цяжэй...

Напярэдадні мінулага года ў офісе "Наша Ніва" сабраліся прадстаўнікі незангажаванага дзяржавай мастацтва, каб абмеркаваць, як жыць далей. Сходка мела характар сцэнічнага дзейства. Большасць прысутных былі апранутыя ў халаты — тыя, хто ў каляровых, іграў ролю "хворых", а тыя, хто ў белых, — "урачоў". А называлася ўсё гэта "кансіліум", дзе ставіўся "дыягназ" хвораму беларускаму мастацтву. Прысутныя адзначылі крытычны стан хворага: прыпыненне дзейнасці большасці незалежных мастацкіх асяродкаў, поўную адсутнасць незалежных крыніц фінансавання ўнутры краіны, змену ідэалагічных канцэпцый дзяржаўнай культурнай палітыкі (свайго роду вяртанне ў "сацрэалізм", прыгда, у "інтэграцыйнай", "славянскай" абгортцы), ізаляванасць сучаснага беларускага арт-працэсу ад еўрапейскага і сусветнага культурнага кантэксту, адсутнасць у Беларусі незалежнага перыядычнага арт- і культурнага друку, адкрытая цынічнае стаўленне рэжыму да многіх дзеячаў культуры.

Усё гэта штурхае беларускіх творцаў "шукаць долі" за мяжою. Асабліва балюча за творчую моладзь, якая не бачыць для сябе перспектывы на радзіме, губляе культурную ідэнтыфікацыю, знікае ў беларускай культурнай прасторы. Далей — горш. Магчымасць знікнення інтэлектуальнай і мастацкай эліты нацыі і як следства — агульная дэградацыя беларускага грамадства.

Што ж рабіць? Аб'яднацца, каб выжыць. Каб выжыць на радзіме. Стварыць інфармацыйна-каардынацыйны цэнтр, праз які маглі б ажыццяўляцца праграмы сацыяльнай дапамогі, выставачная і выдавецкая падтрымка; цэнтр, які даў бы магчымасць станоўча ўплываць на культурны і мастацкі працэс. "Кансіліум" вырашыў стварыць Асацыяцыю сучасных мастацтваў (АСМ). Быў утвораны аргкамітэт. "АСМ мусіць быць няўрадавай грамадскай арганізацыяй, якая імкнецца аб'ядноўваць у сваіх шэрагах мастакоў, літаратараў, музыкаў, крытыкаў і гісторыкаў мастацтва, куратараў галерэй, культуролагаў, журналістаў, калекцыянераў, бізнесоўцаў — усіх тых, хто працуе ў актуальных формах мастацтва, актыўна ўдзельнічае ў сучасным культурным працэсе Беларусі альбо зацікаўлены ў ягоным развіцці.

Мэтаю стварэння АСМ ёсць пабудова інфраструктуры, неабходнай для існавання ў Беларусі рэальнага і свабоднага культурнага працэсу.

**П. В.**

# Не адмовімся ад роднай мовы

***Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны прыняў зварот да суайчыннікаў, да ўсіх грамадзян Беларусі. У ім, у прыватнасці, гаворыцца:***

"Набліжаецца перапіс насельніцтва нашай краіны. Кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь паспрабуе выкарыстаць яго як яшчэ адзін рычаг далейшага ўціску карэннай нацыі і яе мовы.

Перапісныя лісты, зацверджаныя Міністэрствам статыстыкі і аналізу, аддрукаваныя толькі па-руску, што груба парушае канстытуцыйны статус нашай роднай беларускай мовы. Выступаючы на расійскім тэлебачанні, Прэзідэнт А. Лукашэнка сцвярджаў, што ў Беларусі 25% насельніцтва — рускія, а яшчэ 25% дзеці змешаных шлюбаў, праводзячы тым самым думку, што беларусы на сваёй спрадвечнай зямлі сталі нацыянальнай меншасцю. Перапіс і заклікаціны афіцыйна "пацвердзіць" гэтае сенсацыйнае "адкрыццё".

Нагадваем, што паводле перапісу 1989 года, з 10,3 мільёна жыхароў Беларусі 7,9 мільёна з'явіліся беларусамі і 74,5% усіх грамадзян лічылі роднай мовай беларускую. Калі ўявіць што прыведзеныя А. Лукашэнкам дадзеныя з'яўляюцца праўдай, дык у Беларусі ў апошнія гады ідзе катастрафічнае скарачэнне прадстаўнікоў тытульнай нацыі і распачаты этнацыд беларускага народа.

Пад лозунгам інтэграцыі з братняй Расіяй на самым вышэйшым узроўні зневажаецца і ігнаруецца дзяржаўная беларуская мова. Яна ўжо дэманстратыўна не выкарыстоўваецца ў дыпламатычнай практыцы, як гэта было пры падпісанні ў Маскве 25 снежня мінулага года чарговых "саюзных" дакументаў. Яна нахабна выціскаецца са справаводства, з дзейнасці судоў, пракуратуры, дзяржаўных устаноў, тэле- і радыёвяшчання. Ідзе знішчэнне беларускага школьніцтва — у Мінску колькасць першакласнікаў, якія навучаюцца па-беларуску, з 58,6% у 1994 годзе скарацілася да 4,8% у 1998 годзе.

Такім чынам разбураецца наша нацыянальная дзяржаўнасць, ідзе масіраваная падрыхтоўка да ліквідацыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. І ўсё гэта пры абвальным пагаршэнні жыцця людзей. Сярэдняя зарплата ў нас зараз складае 20-30 даляраў, а сярэдняя пенсія — каля 10 даляраў. Для параўнання: у суседняй Літве мінімальны заробак — 100 даляраў, а сярэдняя пенсія — 125 даляраў.

Шаноўныя суайчыннікі, грамадзяне Беларусі!

Патрабуйце пры правядзенні перапісу насельніцтва афармлення дакументаў на дзяржаўнай беларускай мове!

Ні пад якім націскам, ні пад якой агітацыяй не адмаўляйцеся ад мовы Купалы і Коласа як роднай мовы!

Абаронім сваю нацыянальную годнасць!

Захаваем суверэнітэт нашай дзяржавы!

ЧАСОПІСЫ-99

# У хадзе

***Пра планы і творчыя намеры часопіса “Маладосць” на 1999 год расказвае галоўны рэдактар Генрых ДАЛІДОВІЧ***

“Маладосць”, як і іншыя нашы літаратурныя выданні, мела і мае за клопат змяшчаць усё лепшае з творчых здабыткаў сучаснага працэсу творчасці, зразумела, з адным пастаянным ухілам — з няспыннай увагай да твораў маладых.

Першы нумар — дружнае шэсце дэбютантаў, асабліва ў паэзіі. І далей, як толькі на рэдакцыйны стол трапіць штосьці яркае ад пачаткоўца — адразу ж, без ніякай чаргі, гэта ў друк: у тым — не наша добрая воля, а наш абавязак. У гэтай сувязі прыемна адзначыць, што ўсё часцей пачынаюць друкавацца старшакласнікі (П. Міцкевіч з Гомеля, школьнікамі пра сябе заявілі Я. Лайкоў і П. Гаспадыніч, А. Нінько з Міншчыны, А. Дубасава, В. Курбека з Мінска, а Валерыя Кустава яшчэ сямікласніца, але ўжо мае зборнік вершаў “Кроў Сусвету”). Мы ўжо крыху пазнаёміліся з “племем маладым, незнаёмым”, а цяпер рыхтуем сустрэчу з ім і для чытача. Яго чакае прыемнае знаёмства з віцябчанамі Т. Бондаравай і З. Бабраўцом, брэстаўчанкай Я. Дашынай (яна, дарэчы, першы лаўрэат прэміі імя Яўгеніі Янішчыц для лепшых дэбютаў на ўсерэспубліканскім конкурсе), з гродзенцам А. Кацапавым, з бабруйчанкай С. Крачко, мінчанамі Д. Хвастоўскім, В. Алісевічам, В. Ліцвінавым і Г. Сянькоўскім. А ад тых, хто ўжо надрукаваўся раз-другі, не меней сотні паэтычных падборак, што і радуе, і турбуе, як усё гэта змясціць, бо нас не абыходзяць увагай і выдатныя нашы паэты — М. Лужанін, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, В. Зуёнак, М. Маляўка і іншыя, вершы якіх надрукаваць — вялікі гонар для кожнага выдання. Наш загадчык аддзела паэзіі падрыхтаваў ужо вялікі канверт з надпісам “Ганаровы 2000 год”, але пакуль што яшчэ 1999-ы, дык трэба найперш гаварыць пра яго, не зусім ганаровы, але існы.

У прозе, асабліва ў жанры аповесці і рамана, канечне, дэбютантаў менш, тут патрэбна большае веданне жыцця, гісторыі і сучаснасці, чалавека, большае валоданне мовай і яе выяўленчымі сродкамі. Ды і з празаікамі-пачаткоўцамі знаёмства гарантуем: з А. Бычкоўскім з Магілёўшчыны, А. Паўлухіным з Гомельшчыны, П. Валодзіным з Брэстчыны, Т. Супруновіч і М. Прохарам з Гродзеншчыны і з іншымі, а ім дапамогуць падтрымаць высокі ўзровень прозы старэйшыя — У. Дамашэвіч заканчэннем аповесці “Лішняе дзіця” (агаваруся, тут аўтар не звыкла вясковы, а зусім новы, гарадскі), а таксама аповесцямі “Дон Жуан” у эпоху рызыкі” А. Дзялендзік, “Вяртанне” В. Шабалтас, “Успамінамі” І. Новікаў, “Дзённікамі” У. Ліпскі, дэтэктыўным раманам В. Праўдзін, які папраўдзе глыбока даследуе нашу рэчаіснасць і хораша расце ад твора да твора.

Будзем працягваць публікацыю “Старажытнай Беларусі” М. Ермаловіча — кнігі, якая прынесла славу і аўтару, і “Маладосці”, і, без перабольшвання, Беларусі. Рыхтуем вельмі цікавыя ўспаміны гісторыка М. Улашчыка. Хораша прагучыць пушкінская тэма ў выкананні Я. Сіпакова і В. Зуёнка.

Паколькі прамаўляю ад двух выданняў, то папрашу і яшчэ ўвагі, каб сказаць пра “Бібліятэку часопіса “Маладосць”. У яе серыі выйшла болей 120 кніг, цяпер па іх пераважна прымаюць маладых аўтараў у сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў. Курс у гэтай справе ранейшы: кнігі — маладым. Гэта не можа не радаваць моладзь: але для яе ёсць і ўмовы: не толькі раз-другі надрукавацца ў часопісе, каб зрабіць належную творчую заяўку, але і самім шукаць пэўную частку сродкаў, а таксама рабіць і падпіску на свой нумар (у 1998 г. аўтары ў асноўным справіліся з гэтым). Цікавыя кнігі маладых (паэзія, дэтэктыўная, гістарычная і сучасная проза, лірычныя запісы) будуць і ў 1999-ым. У гэтай сувязі хачу агаварыцца: той-сёй адносіць “Маладосць” да традыцыйных выданняў, не бачыць у ёй ультрамоднасці. Гэта — няпраўда, па-першае, тут амаль усё залежыць ад аўтараў, а па-другое, мы не звужваемся да нейкага аднаго літнакірунку, а то і да групоўкі, а даём шанц развівацца ўсім плыням і стылям. Калі ласка, дзейнічайце, эксперыментуйце, абы ўсё было не антычалавечае і на значным мастацкім узроўні!

Вядомыя публіцысты А. Марціновіч, А. Мяснікоў, І. Валасевіч, М. Хамец, А. Карлюкевіч, М. Васькоў, Я. Конеў, а таксама і іншыя разнастайнымі матэрыяламі пра мінулае і сённяшняе годна прадставяць публіцыстыку, Г. Каржанеўская, У. Саламаха, А. Ненадавец, А. Наркевіч, маладыя вучоныя — крытыку, мастацтва, навуку. Як і заўсёды, будзе прадстаўляцца творчасць маладых мастакоў, артыстаў і кампазітараў, архітэктараў, дзеячаў кіно.

Каб не падацца вельмі бадзёрым, трэба сказаць і пра нашы турботы. Пачнём з таго, што выданне “Маладосці” і яе “Бібліятэкі” — задача не толькі жменькі рэдакцыйных супрацоўнікаў, а наш усеагульны клопат. Адпаведна, калі не ўсе, дык многія могуць падтрымаць і падпіскай, і спонсарскай дапамогай ці пошукам добрых людзей, што маглі б матэрыяльна памагчы маладым аўтарам (наш адрас: 220013, г. Мінск, в. Б. Хмяльніцкага, 10А. “ДП Дом прэсы”, р/р 3630202930029 Славянскае аддзяленне Белбізнесбанка, код 834. Для часопіса “Маладосць”). Тут мы вельмі чакаем пачатку працы нашых абласных пісьменніцкіх арганізацый, якія могуць нам памагчы. Так сказаць, з глыбінкі. Вось, скажам, адзін з недарэчных, нават прыкрых фактаў, які нядаўна выклікаў смех на калегіі Дзяржкамітэта па друку і варты таго, каб трапіць у кнігу рэкордаў Гінеса: тыраж “Маладосці” і яе “Бібліятэкі” фактычна вызначаюцца па падпісцы, поступ у розніцу-продаж вельмі абмежаваны, дык адзін з апошніх маладосцеўскіх нумароў, да слова, у кіёскі Гомельскай вобласці трапіў у колькасці... двух экземпляраў. Адзін купілі, другі спісалі. Адпаведна, аж пяцьдзесят працэнтаў спісання розніцы! Так, смешна, але і горка, сорамна за такое! Больш чым упэўнены, што не ўсе ж не толькі з арміі выкладчыкаў гомельскіх ВНУ, тэхнікумаў і вучылішч, школ і бібліятэк, іншых устаноў, нават з гомельскай суполкі літаратараў выпісваюць “Маладосць”, і пры гэтым дапусціць, каб адзін з двух нумароў паслалі ва ўтыль!!! Прашу: шаноўны Васіль Ткачоў з калегамі, шаноўныя кіраўнікі іншых абласных пісьменніцкіх арганізацый, маладыя аўтары, усе, хто мае свядомасць, не толькі памажыце нам утрымаць “Маладосць” і яе “Бібліятэку”, але і пасля іх выхаду не палічыце за абразу альбо ганьбу зайсці ў ваш абласны, раённы саюздрук і пацікавіцца, ці была, ці ёсць “Маладоасць” у кіёску, ці выкупілі яе, і такім чынам не дапусціце спісання нават “пяцідзесяці працэнтаў”, а набудзьце той нешчаслівы адзін экземпляр і перадайце яго ў бібліятэкі ці школы! Знойдзецца ж разумны спонсар, які выдзеліць сродкі на гэта, тым больш, што нумар “Маладосці” каштуе нашмат менш пачкі цыгарэт! Паверце, ні я, ні іншыя супрацоўнікі проста не ў стане аб’ехаць, абысці не толькі кожны кіёск краіны, але нават кожны раённы горад, ды і вельмі ж шмат патрацім на камандзіроўкі. Адну ж справу робім! Разам!

А на заканчэнне дадам як і старшыня камісіі Саюза пісьменнікаў па рабоце з маладымі: спадзяёмся, што ў першай палове гэтага года пасля зацяжнога перапынку, можа, удасца правесці чарговы ўсебеларускі семінар маладых літаратараў. Маладосцеўскія аўтары — безумоўна ж, прэтэндэнты ў яго ўдзельнікі.




# Вамі багатыя

***Пра сяголетнія планы і задумы часопіса “Крыніца” распавядае Леанід ГАЛУБОВІЧ, загадчык аддзела сучаснай літаратуры:***

— У нашым часопісе *такая дэмакратыя*, што не мае розніцы, хто гаршчок, абы ў печ... Няважна — хто наш Някляеў, важна — што наш часопіс...

Даверылі мне. Таму ад імя рэдакцыі кажу шчыра: “Крыніца” з новага года ўцісне цца, як воз *рублём* — будзе менш фарматнай, хоць, можа, не менш аб’ёмнай, але, спадзяёмся, больш вабнай для тых, хто насмеліцца прагнуць яе... Хацелася б з гэтага года *аддавацца* чытачу па-ранейшаму перыядычна, але штомесячна і своечасова. Нам хочацца гэтага, неўзіраючы на юбілейныя 50, амаль паліграфічна адбітыя на нашым знешнім абліччы...

Што ж маракуем выдаць мы ў гэты свет, калі дажывем у ім з суверэннай дзяржавай да сваіх *пенсійных* 60-ці? Што атрымаецца з нашага *намеру* і якія яшчэ *нумары* ў працэсе мы можам выкінуць — адзін Бог ведае, а ты, чытач, яшчэ ўведаеш...

Вось што будзе мець той, хто будзе мець нас у 1999 годзе:

— з “постацяў” Я: Ф. Янкоўскага, Ан. Луцкевіча, М. Багдановіча, Л. Геніюш, А. Моркаўку, А. Куляшова, А. Адамовіча...

— з “постацяў” ТЫ: С. Адамовіча, А. Бембеля, А. Жука, А. Наварыча, В. Чаропку...

— з “постацяў” ЁН: Г. Мілера, І. Бродскага, С. Малармэ, У. Эка, Э. Паўнда...

Маюцца быць У НАС са сваімі новымі творамі: І. Сідарук, У. Дамашэвіч, В. Жыбуль, Ю. Гумянюк, М. Купрэеў, І. Клімянкоў... Гэта — з тутэйшых.

Будуць ЯНЫ і здалёку, перакладзеныя па-нашаму: А. Стрындберг, А. Гофман, П. Зюскінд, Г. Маркес, Арыстафан, Э. Ратэрдамскі, В. Гётэ...

Адчувальна здрабнела за апошні час, калісьці актыўна распачатая рэдакцыяй, рубрыка МЫ. Аднак лічым, што гэта не самае галоўнае, чаго бракуе часопісу...




Запрашаем літаратараў да больш актыўнага супрацоўніцтва з намі. Зможа толькі той, хто намагаецца. Пра гэта вам скажуць і Я. Гучок, і Р. Тармола, і П. Прыходзька... Наша рубрыка ЯНО *сохне* па Вас. Адказвайце на нашы анкеты. На працягу месяца просім Вас назваць 21 верш 21 беларускага паэта гэтага стагоддзя, а з больш працяглым тэрмінам — і 21 апавяданне 21 нашага пісьменніка — гэткія Вашы суб’ектыўныя анталогіі...

І ўвогуле — заходзьце з усім, што ёсць! Вамі й багатыя...

АБСЯГІ

ГРОДНА...

## Чарговая персанальная

У зале выстаў Гродзенскага аддзялення СБМ свае работы дэманструе малады мастак, выкладчык Гродзенскага вучылішча мастацтваў Дзмітрый Кузняцоў. Творчасць гэтага аўтара вядома не толькі гродзенцам, але і жыхарам іншых гарадоў Беларусі. Кузняцоў удзельнічаў у рэспубліканскай выставе ў Мінску, выстаўляў свае працы ў Віцебску і Гродне. У прыватнай галерэі “У майстра” два гады таму адбылася першая персанальная выстава мастака, якая мела назву “Метамарфозы”. Сённяшняя выстава стала сапраўдным адкрыццём для аматараў мастацтва. Асноўнае ў творах Дзмітрыя Кузняцова — не форма або вобраз, а хутчэй эмоцыя, народжаная імі.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

ВІЦЕБСК...

## На шляху да свабоды слова

Днямі ў Віцебску прайшоў семінар журналістаў “Прававая аснова дзейнасці СМІ”, які арганізавалі Беларуская асацыяцыя журналістаў і Расійскі фонд абароны галоснасці. Удзельнікі семінара пазнаёміліся з механізмам дзейнасці расійскага заканадаўства аб СМІ. Аб ім расказаў адзін з распрацоўшчыкаў закона Уладзімір Энцін. Аб неабходнасці рэфармавання заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб сродках масавай інфармацыі гаварыў дырэктар цэнтра прававой абароны СМІ Міхаіл Пастухоў. У прыватнасці, у вядучых еўрапейскіх краінах амаль не засталося дзяржаўных газет, дзяржаўных тэлерадыёканалаў. Цэнтр прававой абароны ўжо сёлета падрыхтуе пакет дакументаў па раздзяржаўленні сродкаў масавай інфармацыі на Беларусі, забяспечваючы тым самым натуральнае месца прэсы ў жыцці грамадства. На думку Міхаіла Пастухова, усе віды СМІ павінны мець роўныя ўмовы, а дзяржаўныя органы не павінны засноўваць свае газеты. Недапушчальная ў якасці абавязковай і якая-небудзь ідэалогія. Неабходна таксама забарона на цэнзуру, яе можа замяніць дзейсны грамадскі кантроль. Усё гэта дазволіць Беларусі хутчэй уключыцца ў агульнаеўрапейскую інфармацыйную прастору.

Журналісты, якія прыехалі на семінар з розных гарадоў краіны, пазнаёміліся з работай незалежнай газеты “Витебский курьер”.

## Фільм аб Машэраве

У Віцебскім дзяржуніверсітэце, які носіць імя Пятра Машэрава, адбылася прэзентацыя фільма “Беларусь была яго лёсам” кінатрылогіі “Пётр Машэраў”. Аўтар і прадзюсер стужкі Марыя Кір’янава расказала аб гісторыі яе стварэння. На прэзентацыю былі запрошаны былыя вучні Пятра Міронавіча, яго партызанскія сябры. Яны выказалі падзяку за твор высокага грамадзянскага гучання.

**Святлана ГУК**

ГОМЕЛЬ...

## Палессе яднае славянства

Гомель стаў рэгіянальным цэнтрам трох братніх народаў — беларускага, рускага і ўкраінскага. Мясцовыя грамадскія арганізацыі праводзяць вялікую работу па ўмацаванні сувязей, па развіцці народных славянскіх традыцый. Сярод гэтых арганізацый і Таварыства Кірылы Тураўскага. Менавіта яно арганізавала і правяло ў Гомелі сімпозіум на тэму “Палессе, якое звязвае славянства на рубяжы XI стагоддзя”. У сімпозіуме прынялі ўдзел работнікі культуры і навукоўцы з трох рэспублік.

## Музыка свету

У абласным культурным цэнтры адбыўся канцэрт сімфанічнага аркестра тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь. У яго выкананні прагучалі праграмы “Вечар вальса”, “Мелодыі аперэт”... У канцэрце прыняла ўдзел вядучая салістка нацыянальнай оперы Алена Шведава.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

МАГІЛЁЎ...

## Фестываль працягваецца

24 студзеня ў абласным цэнтры народная артыстка Расіі Алена Камбурава і Маскоўскі тэатр песні і паэзіі адкрылі чарговы трэці каляндны фестываль. Падрыхтаваны абласной філармоніяй, ён працягнецца да другога лютага. Відовішча абяцае быць цікавым і разнастайным. Аматараў музыкі і спеваў чакае сустрэча з аркестрам Дзяржаўнага тэатра оперы і балета, мужчынскім яўрэйскім хорам з Масквы “Хасіцкая капэла” і беларускімі “Песнярамі”. У межах фестывалю выступіць танцавальны калектыў “Харошкі” са сваёй юбілейнай праграмай.

Дзве вечарыны каляднага фестывалю пройдуць у касцёле Святога Станіслава, дзе аматары арганнай музыкі змогуць пачуць выступленне Мінскага камернага хору “Санорус” і вядучага беларускага арганіста Канстанціна Шарова. А завершаць фестываль балеты “Лебядзінае возера” і “Шчаўкунчык” у выкананні артыстаў Санкт-Пецярбургскага тэатра класічнага балета — славутай Марыінкі.

## “Беларускія маршы і песні”

Сапраўдным падарункам аматарам музыкі і гісторыі Беларусі з’явіўся сумесны праект мужчынскага камернага хору “Унія” Магілёўскай абласной філармоніі і беларускай газеты “Наша ніва” — музычны збор “Беларускія маршы і песні”. Разам са зборам выпушчаны аўдыёкасеты і кампактдыскі з творамі ў выкананні хору. Акрамя маршаў і гімнаў, у гэты збор уключаны лепшыя беларускія патрыятычныя песні.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

БРЭСТ...

## Вобласць святкуе юбілей

Да знамянальнай даты часу яшчэ быццам шмат. Свой 60-гадовы юбілей Брэсцкая вобласць адсвяткуе аж чацвёртага снежня. Але ўжо зараз мясцовыя работнікі культуры рыхтуюцца да гэтага дня. Складаецца святочная праграма, падбіраюцца сцэнарыі, рыхтуюцца самыя розныя па накірунках мерапрыемствы... Днямі ўпраўленне культуры абвесціць конкурс на лепшы музычны і літаратурны твор, прысвечаны юбілею. У траўні ў рамках абласных урачыстасцяў пройдзе на Брэстчыне фестываль творчасці ветэранаў, свята духавой музыкі “Берасцейскія фанфары-99”.

**Святлана ГУЛЯЕВА**

### У РЭДАКЦЫЮ “ЛіМа”

Шаноўны спадар рэдактар!

Дазвольце праз штотыднёвік “Літаратура і мастацтва” выказаць падзяку ўсім грамадскім арганізацыям, дзяржаўным установам, замежным пасольствам і прадстаўніцтвам, асобным людзям, вучням і сябрам, якія павіншавалі мяне з 60-гадовым юбілеем.

**Народны мастак Беларусі Васіль ШАРАНГОВІЧ**

ЧАСАПІС

## Эмацыянальнасць і філасафізм



**Скульптар Аляксандр Крахалёў нарадзіўся ў 1943 годзе. У 1972 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Вучыўся ў класікаў нашага мастацтва — Анікейчыка, Бембеля,**



**Глебава, Гумілеўскага. З 1967 года бярэ ўдзел у выставах. Ён аўтар шэрагу мемарыяльных знакаў, прысвечаных драматычным падзеям Вялікай Айчыннай вайны, а таксама станковых скульптур эмацыянальнага і філасофскага характару. Апошнія гады ў творчасці ён аддае перавагу абстрагаваным формам.**

**Ягоная персанальная выстава на працягу тыдня, з 1 па 7 лютага, будзе працаваць у Музеі сучаснай беларускай культуры імя А. Бембеля.**

## Адзін з горада майстроў

**Кіназказка "Горад майстроў" ("Беларусьфільм", 1965 г.) захапляе ў любым узросце. Будучы дарослым, заўважаеш, як у кадрах ажываюць карціны Брэйгеля, як натхнёна іграюць акцёры М. Вярцінская (прыгажуня Вераніка) і Г. Лапета (вясёлы гарбун Караколь). І як ніколі разумееш: "Горад майстроў" таксама рабіў майстар...**

**5 студзеня тыдні беларускаму рэжысёру У. Бычкову споўнілася семдзесят гадоў (юбілей святкавалі ў кінатэатры "Кастрычнік"). Творчы лёс гэтага таленавітага рэжысёра складаецца як поспехі, так і няўдачы. Пасля трыумфу "Горада майстроў" (прэмія за лепшы фільм для дзяцей і юнацтва на II Усесаюзным кінафестывалі ў Кіеве; дыплом Саюза кінематаграфістаў СССР за лепшае выяўленчае рашэнне фільма на VI КФ рэспублік Прыбалтыкі, Беларусі, Малдовы) наступны фільм У. Бычкова "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" (другая назва "Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка", 1967 г.) на доўгія дваццаць два гады паклалі на паліцу (карціну "рэабілітавалі" ў 1989 годзе). Пісьменнік А. Мальдзіс лічыць, што забарона фільма была заканамернай. "Сваёй "несіметрычнасцю", выключнасцю героя і абставін, адмаўленнем усяго афіцыйнага і кананічнага, урэшце, метафарычнасцю, дзёрзкасцю, гарэзлівасцю ён выбіваўся з застойнай атмасферы, пярэчыў ёй... І галоўнае, у фільме заставайся нацыянальны каларыт, беларуская гісторыя. Гэта, мусіць, і палохала тагачасных чыноўнікаў ад кіно".**

**Сёння У. Бычкоў жыве ў Маскве і, на жаль, даўно не здымае. Аднак стужка "Горад майстроў", якая дэманстравалася напрыканцы вечарыны, і сёння ўяўляецца адной з лепшых у беларускім дзіцячым кіно.**

**В. Б.**

# Жыццё і гісторыя краіны

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

**— У недалёкім мінулым у нас панавала такая думка, што мастацтвазнаўца — гэта мастак, які недавучыўся, а плакатыст — графік, які недавучыўся...**

— На самай справе плакат — гэта самастойны від мастацкай графікі са сваімі законамі і традыцыямі, сродкамі выразнасці. Так здарылася, што на Беларусі чыста плакатыстаў можна пералічыць на пальцах. Але яны фігуруюць як члены міжнародных журы, іх работы знаходзяцца ў прэстыжных міжнародных зборах. Так, у Форт-Айлендзе (ЗША), куды на біенале запрашаюцца толькі плакатысты, якія ўнеслі значны ўклад у гэты від мастацтва, пабывалі творы А. Шэлюты, С. Войчанкі, У. Цеслера, А. Кітаевай і іншых. Гэтым быў прызнаны іх, як беларускіх плакатыстаў, уклад у развіццё сусветнага плаката. Але што адметна, Беларуская акадэмія мастацтваў і ніводная іншая ўстанова рэспублікі не мела і не мае на сённяшні дзень кафедры плаката. Толькі цяпер стала практыкай абарона дыпломных работ у жанры плаката. На выставе "Беларускі друкаваны плакат" дыпломныя работы студэнтаў акадэміі таксама прадстаўлены асобнай часткай у экспазіцыі як плакат аўтарскі, недрукаваны. На жаль, на сённяшні дзень выданне плакатаў практычна перапынена з-за праблемаў фінансавага характару, тым больш, што рэдакцыя плаката і паштоўкі скончыла сваё існаванне яшчэ на пачатку 90-х гадоў. Хаця пераважна яна займалася палітычнымі плакатамі, але пры ёй было выдадзена нямала плакатаў культурнай і сацыяльнай тэматыкі. Так, напрыклад, плакат "1986 год — год міру. Ад года міру да міру без войнаў" нават пры няякасных друку і паперы атрымаў у Варшаве на біенале гран-пры і спецыяльны прыз ААН.

Ініцыятарам выставы беларускага друкаванага плаката выступіў Беларускі саюз дызайнераў, мастак С. Еўлампіеў пры фінансавай падтрымцы фірмы "West". На жаль, у выставе не ўдзельнічалі Мастацкі цэнтр "Жылбел" са сваёй калекцыяй плаката і секцыя плаката БСМ. Але пры ўсім гэтым, здаецца, выстава атрымалася і вытрымала закладзены прынцып экспазіцыі: паказаць плакат як люстэрка грамадства.

**— Выстава мела сапраўдны поспех. Кожны наведвальнік знаходзіў у экспазіцыі штосьці сваё, блізкае яго разуменню. Але галоўнае, што выстава яскрава сведчыць, на якую ідэалогію працаваў плакат у мінулыя дзесяцігоддзі і якое асяроддзе імкнецца фарміраваць сёння.**

— Плакат на выставе і ўвогуле здолеў у невялікім стосе папяровых аркушаў сканцэнтраваць мінулае і нашу сучаснасць. Не трэба доўгі час гарбець у архівах, разгортваць у ангарных памерах мастацкія экспазіцыі з запаснікаў, бо жанры друкаванага плаката ў ёмкай, нагляднай форме распавядаюць аб адносінах грамадства да культуры, гісторыі, роднай мовы, ілюструюць дасягненні прамысловасці, выяўляюць асноўныя балючыя праблемы жыцця. Беларускі друкаваны плакат, альбо постэр, яшчэ чакае сапраўднага грунтоўнага вывучэння. Яшчэ не асэнсаваны суадносіны паміж жанрамі. Так здарылася, што не ўсе ўсведамляюць, што плакат — гэта мастацтва. Нават прафесійнае кола не пазбавілася пагарды ў адносінах да плаката. Прыярытэтам у навуковых даследаваннях карыстаўся менавіта палітычны плакат. Але ў свеце існуе наладжаная сістэма адносінаў да плаката ў выглядзе музеяў гэтага віду мастацтва, правядзення рэгулярных нацыянальных і міжнародных выставаў, выдання спецыялізаваных часопісаў, ілюстраваных каталогаў, штогоднікаў. Прозвішчы плакатыстаў вядомыя не менш чым прозвішчы мастакоў класічных відаў выяўленчага мастацтва.

**— Наша сённяшняе жыццё патрабуе адлюстравання ў плакаце і графічным дызайне. Але, на жаль, палітычныя і культурныя падзеі ў нашай краіне не адзначаны вялікай колькасцю плакатных вобразаў...**

— Так, плакатнае мастацтва сёння, за рэдкімі выключэннямі, не паказвае радыкальныя змены ў грамадстве, генерыраванне стваральных ідэй, не дэкларуе новы статус выяўленчага мастацтва незалежнай дзяржавы. Пакуль нікому з "новых" дзелавых людзей і палітыкаў не ўдалося з дапамогай беларускага плаката стварыць сабе прыцягальны імідж. Іерархія ў новым мастацтве яшчэ не вызначана, "каталожна-часопісны авангард" і мастацкая спадчына таталітарызму займае яшчэ ў грамадстве даволі актыўную пазіцыю. Аб гэтым сведчыць выгляд рэкламных тумбаў і шчытоў каля тэатраў, кіно, тэлевізійныя застаўкі, графіка прэзентацый, плакаты айчынных мастацкіх выставаў і іншае. Калі знаходзішся доўгі час у такім графічным асяроддзі, адчуваеш яго агрэсіўнае імкненне выхаваць асобу без творчага гарэння, залежнага і безаблічнага выканаўцу. Графічная культура і плакат, як яе яскравая праява, у стане выконваць пазітыўную ролю ў духоўным жыцці грамадства, грунтавацца на лепшых нацыянальных традыцыях, узбагачацца перадавым сусветным вопытам, новымі творчымі дасягненнямі. Але работы сапраўдных таленавітых плакацістаў, якія прайшлі апрабацыю на міжнародных выставах плаката, друкуюцца невялікімі накладамі і кардынальных зменаў у графічнае асяроддзе сённяшняга горада, на жаль, не ўносяць.

**— У гісторыі беларускага плаката застаецца нямала праблем для мастацтвазнаўцаў. У выданнях заходніх краін ужо гучыць пытанне: ці месца нацысцкаму мастацтву ў музеях. Ці задаём мы падобнае пытанне ў дачыненні да мастацкай спадчыны таталітарызму, адной з яскравых праяў якой быў і плакат?**

— Таталітарная сістэма савецкага грамадства стварыла механізмы масавай вытворчасці сродкаў духоўнага нівеліравання асобы. Але не ўсё мастацтва плаката савецкага часу з'яўляецца таталітарным па сутнасці, нават яго палітычны жанр. Плакат 20-х гадоў выступае як натуральны працяг агульнаеўрапейскага авангарднага працэсу, што блізка прыняў утапічныя заклікі грамадскага ўздыму.

У беларускім плакатным мастацтве гэтага рамантычнага ўзлёту працавалі Я. Драздовіч, А. Ахола-Вало, Эль Лісіцкі, А. Гефтэр, П. Гуткоўскі, А. Быхоўскі, Г. Змудзінскі, Б. Ульпі, Л. Целішэўскі і іншыя. Шырокія магчымасці плаката прыцягвалі мастакоўнаватараў паслярэвалюцыйнага Віцебска. Марк Шагал, напрыклад, упрыгожваў вялікімі плакатамі-пано сцены горада ў якасці святочнага аздаблення рэвалюцыйных святаў. Сёння ў музеях захаваліся толькі адзінкавыя эскізы майстра і кадры гарадской хронікі. Плакат "Клінам чырвоным бі белых" Эль Лісіцкага, выдадзены Смаленскім РОСТА ў 1921 г. абышоў усе буйнейшыя хрэстаматыі сучаснага плаката як прыклад канструктывізму. Геаграфія беларускага плаката ў 20-я гады надзвычай шырокая: Віцебск, Смаленск, Вільня, Мінск, Гомель... На жаль, у тыя часы мала хто ўсведамляў, што гэтыя аркушы з супрэматычнай графікай будуць некалі так паважацца буйнейшымі сусветнымі зборамі. Таму і зберагломся друкаванай прадукцыі значна менш, чым яе выраблялася. Геаметрызм супрэматызму УНОВІСа паўплываў і на кніжную, і на газетна-часопісную графіку на Беларусі і за яе межамі. Але доўгі час мастакі графічнага дызайну не ведалі багатай спадчыны гэтага перыяду, шмат часу было згублена на запазычанне, паўтор пройдзеных шляхоў.

**— Вядома, што ў 30-я гады сацыялістычны рэалізм быў сцверджаны ў якасці догмы. Мастацтва плаката стала палігонам для рэалізацыі міфічных сцэнарыяў.**

— Ды і ў II сусветную вайну ідэалагічны апарат не выпускаў са сваіх рук рычагі кіравання выдавецкай справаю. Плакатыгазеты "Раздавім фашысцкую гадзіну" і "Партызанская дубінка" часцей за ўсё друкаваліся і аздабляліся ў Маскве, пад надзейным цэнзурным кантролем.

**— Пасляваеннае дзесяцігоддзе з'яўляецца адным з найменш даследаваных перыядаў гісторыі беларускага мастацтва. І адносіны да яго сёння даволі неадназначныя.**

— Гэта зразумела, бо драматызм існавання на сваёй радзіме савецкі плакат не адлюстраваў, затое амаль кожны калгаснік мог пераказаць байкі аб цяжкім жыцці пралетарыяту ў заходнім свеце. Вельмі характэрным з'яўляецца плакат канца 40-х гадоў Л. Замаха, дзе пануюць яшчэ героі ў вайсковых гімнасцёрках і кашулях з вышытым арнаментам і натуральнымі ўсмешкамі на вуснах. Вельмі цікава сёння назіраць, прагортваючы плакаты 40—90-х гадоў, як прыбіралі асноўных герояў, змянялі тэксты, перайманоўвалі звыклую наглядную агітацыю, якую у народзе мякка клічуць "наглядкай", у графічны дызайн і рэкламу. Словам, змянялі назву, пакінуўшы старыя прынцыпы савецкай масавай культуры.

У 50—60-я гады для адлюстравання "велічы" ідэалагічных мэтаў патрабаваўся "понятный советскому народу" недасягальны ўзровень плакатнага майстэрства, часы лубка і канструктывісцкага утапізму закончыліся, на змену прыйшоў тэхнічны прафесіяналізм. І сёння гэтыя плакаты ўражваюць пластычным багаццем. Але, пакінуўшы след у гісторыі стыляў і накірункаў, беларускі плакат тых часоў не стаў высокім мастацтвам. З кожнага ліста Л. Замаха, Я. Тараса, М. Гуціева глядзяць на нас людзі-манекены для дэманстрацыі бліскучых узнагарод. Значкаста-медалёвы атрыбут вандруе на плакатах ад вызбарных урнаў, партыйных застолляў да белых халатаў калгасных даярак. Магчыма, плакат справакаваў шырокі народны рух за атрыманне металічных узнагарод за катаржную працу. Абапіраючыся на крытыку заходнееўрапейскага сюррэалізму, беларускі бальшавізм стварыў свой, непаўторны — ідэалагічны. Вельмі цяжка растлумачыць такія з'явы, як перайменаванне на беларускую мову вестуна-крэйсера "Аўроры" альбо трыманне правадыром у руках першага дэкрэта савецкай улады, які таксама надрукаваны на беларускай мове. Калі ўсур'ёз верыць надрукаванаму, складваецца ўражанне, што Расія — адвечная калонія БССР. А чаго варты словы "Ленін — заснавальнік Беларускай ССР" на плакаце Я. Тараса альбо заклік маладой прыгажуні, якая стаіць пасярод поля, нібыта сышоўшы з часопіса мод і заклікае пашыраць плошчы пасеву канапель?

Плакатнае майстэрства тых часоў жадала ахапіць усе сферы жыцця, але толькі стварала метамарфозы кшталту магчымага суседства двух плакатаў у "красном уголке", дзе на адным надрукавана "СССР — краіна перадавой культуры", а на другім — заклік: "Не плюйте на пол и не бросайте окурков!" І калі яшчэ ў 40-я героі палітычных плакатаў нагадваюць звычайных людзей, то 50-я ствараюць новы эталон — позірк героя шклянее, а самі яны нагадваюць праекцыі з помнікаў. З плакатаў глядзяць на нас мужчыны і жанчыны, пазбаўленыя рысаў індывідуальнасці. Ужо не з'яўляюцца плакаты ў духу народнага лубка. Распрацаваная пад строгім партыйным кантролем з эталонаў лепшых "прафесіяналаў" рэспублікі новая пампезная форма палітычнай агітацыі не пакінула месца народнаму гумару і імправізацыі.

**— На жаль, па-за ўвагаю даследчыкаў застаўся плакат непалітычны: рэкламны, відовішчны. Ён не лічыўся прэстыжным жанрам, відаць, асабліва не кранালі яго і цэнзурныя патрабаванні. Але ён стаўся прыцягальнай і адзінай пляцоўкай для пластычных эксперыментаў. Толькі тут магчымыя былі фармальны кампазіцыйны пошук, шрыфтавыя эксперыменты, рысы індывідуальнасці...**

— Магчыма, што ў гісторыі беларускага плаката 50—90-х гадоў захаваюцца працы менавіта гэтых жанраў, зробленыя без аглядкі на наменклатурную праслойку і магутнага самацэнзара ў сабе, іншы раз — у хуткай манеры, з выкарыстаннем дэкаратыўнай фактуры, скорапісу, тыпаграфікі ў стылі 20-х гадоў. Вялікая спадчына таталітарнага плаката, спадзяюся, будзе толькі аб'ектам спецыялізаваных даследаванняў і напамінам аб рэальным часе. Магчыма, і мастацтва Беларусі знойдзе іранічную форму цытавання безаблічных лубачна-ампірных завітушак, гіпсавых арбузаў, балясін, ляпных медальёнаў, бетонных драпіровак, каб хутчэй вяртацца да натуральных шляхоў у культуры, якія былі адкінуты на пачатку адыходзячага стагоддзя.

Наша сучаснае графічнае асяроддзе мае вельмі шырокі графічны гарызонт, але вонкавы выгляд яго не вельмі прыцягальны. Такі стан сведчыць не толькі аб праблемах выканальніцкіх, але і аб спрыяльных умовах масавага распаўсюджвання безгустоўнасці.

**— Такім чынам, грамадства краіны пакуль не стала заказчыкам высокай масавай графікі, асобныя выдатныя плакаты яшчэ не з'яўляюцца тыповай рысай нашага мастацкага жыцця, графічнае асяроддзе, падыходы да яго фарміравання мала ў чым змяніліся...**

— У акрэсленую сітуацыю рэальных змен не ўносяць і ўдзел беларускіх плакатыстаў у аўтарытэтных міжнародных выставах. Работы таленавітых мастакоў друкуюцца малымі накладамі і не маюць шляхоў да шырокай аўдыторыі. Безгустоўшчына стала пераемніцай традыцый прапагандысцкай машыны. Калі механічна змяняюцца тэксты на лозунгах, вобразы адных герояў на супрацьлеглыя, то вывы перапвараюцца ў карцінкі, пароды на сапраўдныя дасягненні, а грамадства застаецца ў палоне нізкаўзроўневай візуальнай вытворчасці. Робіцца магчымым выхад у свет такіх плакатаў, якія дыскрэдытуюць беларускую мастацкую культуру, не набыткі.

А выхад — у культуры аздаблення асяроддзя, у якім мы жывём. Калі любая стваральная дзейнасць — палітыка, бізнес ці што іншае — павінна выходзіць на адпаведны ўзровень графікі. Плакатнае майстэрства, кніга, паштоўка, сілуэт і вобраз гарадскога асяроддзя, мастацтва шрыфту павінны стаць у нас, як і ва ўсім свеце, прыярытэтнымі галінамі.

**Гутарыла Наталля ШАРАНГОВІЧ**

# "Мяняю мову на сала"...

## ПРА МАРШРУТЫ, ЯКІЯ МЫ ВЫБІРАЕМ

ШТОДЗЁННЫ МАРШРУТ з рэдакцыйнай працы дахаты. Ад Круглага пляца... Так, не ад пляца Перамогі, а ад Круглага, бо менавіта гэтак называе яго мая маці, якая добра памятае паваенны Мінск. Банальная, як хлеб, рэч: мова маці — заўжды мова яе дзяцей. Толькі ў гэтым, відаць, хоць нейкая ды прадказальнасць свету. Усё астатняе — на сумленні тых, у каго яно, сумленне, ёсць...

Дык вось, ад Круглага пляца адразу ў ненажэрную зеўру метро — і да прыпынку "Інстытут культуры", да таго моманту, калі магнітафонны метрапалітэнаўскі голас не абвесціць з радаснай катэгарычнасцю: "Канцавы прыпынак. Пакіньце, калі ласка, вагоны!" Пакідаю. І кожны раз прыгадваю пры гэтым Мішыка Канцавога, які жыў калісьці напрыканцы мамінай вёскі. А ўспомніць ёсць што. Не сядзелася Мішыку на печы. Дарма, што кульгавы, але ж не было ад яго выбрыкаў спакою. Гэта ж дадумацца! У час гарбачоўскай барацьбы з віном і гарэлкай дастаць немаведама як пляшку і ў межах "незалежнай" Купрэеўкі арганізаваць сярод змардаваных цвярозасцю пенсіянераў свае... алімпійскія гульні. І па-заліхвацку перамагчы ўсіх у стометроўцы да запаветнай бутэлькі, пастаўленай, як фінішны жаданы маяк, у прыдарожны вясковы пыл. Хоць кульгавы, хоць насаты, але хітры і багаты...

Дзе зараз тая Купрэеўка? Дзе той легендарны Канцавы? Першая пасля чарнобыльскай навалы згубіла разам з выселенымі вяскоўцамі "незалежнасць" і засталася кінутай ды зруйнаванай. Другі — і па сёння ніяк не апрытомнее на сваіх эвакуацыйных выселках, пра выбрыкі мо і не ўспамінае...

Відаць, па самым доўгім у горадзе падземным пераходзе іду ад Маскоўскай да Інстытута культуры. "Дзівіўся дзядзька тут нямала, йдучы тунелем да вакзала". Нібы той Антось з "Новай зямлі", у чарговы раз вар'яцею ад гарадской кругаверці. І куды яны ўсе? Добра, у адзін бы бок!.. А вось кніжкі матчынай сапраўды шкада. Сцягнулі "Новую зямлю" ў школе, дзе калісьці настаўнічаў. Кніжкі на сёння красці — не вялікі грэх, але ўсё роўна крыўдна. Са сваёй "...зямлёй" усё неяк спакайней...

Штодзённыя маршруты. Па матчыным горадзе, з матчынай мовай, успамінамі і ўласнымі думкамі. Усё сваё са мной і побач. І гэты 45-ы тралейбус — таксама. Не толькі таму, што "незалежны" ён. Плюс да ўсяго давозіць да майго Паўднёвага Захаду за нейкіх дваццаць хвілін. А "апазіцыйнасць" ды "незалежнасць" лезе насуперак усяму на кожным тралейбусным прыпынку. Калі кіроўцам на гэты час — Вера Зіневіч.

— Ну й якое дзіва, што гаворку з пасажырамі вядзе яна толькі па-беларуску? — абурыцца запалітызаваны, а таму абыякавы да ўсяго чытач.

Ды самае найвялікшае па сённяшнім абсурдным часе! Ці набярэцца зараз па Мінску хаця б з паўдзесятка кіроўцаў грамадскага транспарту, што абвяшчаюць прыпынкі на роднай мове? Так што тралейбус гэты, пад нумарам 3190, унікальны, можна сказаць, рарытэтны. Гэткая сапраўдная, хоць і маленькая Беларусь на колах, дзе за галоўнага — чалавек, які свайго нацыянальнага не цураецца сарамліва, моўную палітыку не мяняе насуперак усяму.

Дзякуй Богу, ледзь не штодня маршруты нашы з Верай Вікенцьеўнай супадаюць. Бо чалавек яна надзвычай ужо цікавы. Нечым маці маю нагадвае. Відаць, вясковай (а значыць, не падманнай, а самай сапраўднай) інтэлігентнасцю ды ўпартасцю. Прызналася неяк Зіневіч, што не заўжды па-беларуску размаўляла. Усё з таго пачалося, што прыйшоў да ўлады дэмакрат Шушкевіч. Адчулі беларусы, што беларусы яны, а не набрыдзь са свету, не чужынцы ў сваім краі, што ёсць моцы адраджаць сябе пачалі. Ну і Зіневіч туды ж. Як і многія, паратунку ў роднай мове шукала.

— Не было ніякіх адміністрацыйных загадаў, — тлумачыць. — Проста аднойчы выехала на маршрут і па-беларуску з пасажырамі загаварыла. І не толькі сама. Зяць з мужам (таксама тралейбуснікі) падтрымалі з ахвотай... Не асабліва сябе ламала, бо ў свой час на роднай Ашмяншчыне ў беларускай школе вучылася. Мову нашу добра ведаю. Нават унучцы-другакласніцы з урокамі ўпраўляцца дапамагаю...

Прызвычаіліся пасажыры да Зіневіч, трапілі пад уладу жаноцкай моўнай палітыкі. Нават і зараз няма такога дня, каб не падыходзілі да яе з удзячнасцю. Але ж быў момант, быў, калі адчула сябе тралейбусніца сапраўднай "белай варонай". Памянялася ўлада, памянялася палітыка моўная, зноў руская на кожным гарадскім рагу загучала. Жанчына па мяккасці хвіліннай (ад упартасці беларускай да згодніцтва неабдуманага нават і паўкроку няма) таксама "русіфіцыравацца" паспрабавала. Ды не атрымалася, дзякуй Богу. Пасажары не дазволілі. Маўляў, не так прыпынкі аб'яўляеш, ніякай прыгажосці ў гучанні, ніякай утульнасці ў тралейбусным салоне...

Неяк заўважыў і жахнуўся: з людзьмі як з дзецьмі зносіцца трэба. Пяшчотна, ашчадна. Не рукамі, а крыламі, не крыкам, а шэптам. Інакш да хлусні і абразаў занадта ўжо лёгка прызвычайваюцца. Словам, камандуе толькі той, хто не ўмее кіраваць. Зіневіч — умее. Якая розніца, што толькі тралейбусам?! Хоць і маленькая, хоць і на колах, але — Беларусь. Са сваім зменлівым, удзячным і не вельмі, электаратам. Са сваім выверaным да прадвызначанасці шляхам. З кіроўцам, які дакладна ведае, што робіць і за што грошы атрымлівае. "Паважаныя пасажыры, будзьце ўзаемна ветлівымі! Своечасова аплачвайце праезд... Малады чалавек, саступіце, калі ласка, месца бабулі. Яна ж такая старэнькая!"

Здараецца, што і "апазіцыя" на бабулю Веру наязджае.

— Аднойчы нейкі п'яны ўскочыў да мяне ў кабіну, — скардзіцца са смехам, — і ледзьве не за каўнер мяне. Маўляў, ты на якой мове тут балабоніш? Чаму людзей абы-чым чмурыш? Адказваю як мага спакойна, што ў Беларусі жыву, таму і па-беларуску размаўляю. Не зразумеў тавaрыш. Доўга яшчэ "мітынгаваў", што пляваць яму на мову, лепей бы сала больш было...

Вось такі маршрут у Веры Вікенцьеўны Зіневіч. І няма чаго [illegible] зайздросціць альбо абурацца. У кожнага свае маршруты, свае пуцявіны. Каму на радасць, камусьці — на бяду... І не вельмі я веру словам Ключэўскага, што дзяржаве служаць чорныя людзі, а лепшыя толькі чорнымі сваімі ўласцівасцямі ды праявамі. Зіневіч, напрыклад, дзяржаве служыць. І святла ад яе болей, чым ад цэлай брыгады дзяржаўных бюракратаў-чыноўнікаў. Мо па-рознаму на дзяржаву сваю глядзяць, мо ўвогуле розныя яны ў іх? Відаць, каб стала ўсё на свае месцы, перарабляць трэба не людзей (колькі ўжо можна з іх здзекавацца!), а менавіта — дзяржаву. Хаця б па падабенстве з тралейбусам бабулі Веры. Што трэба — падкруціць, што трэба — падмазаць, пафарбаваць нанава (колер урэшце з густам падабраць!), дакладную інструкцыю ў салоне вывесіць (каб халяўныя зайцы-безбілетнікі не перашкаджалі!) і — калі ласка, паважаныя пасажыры. Адзіным маршрутам, з адзінай у рэшце рэшт мэтай. І каб на кожным прыпынку голас кіроўцы — толькі па-беларуску...

І што я да гэтага тралейбуса прычапіўся! Што за асацыяцыі хваравітыя! Ельцын у сваю зоркавую путчавую гадзіну з імпэтам на танк ускочыў, толькі пасля гэтага сваім у дошку сярод "россиян" і здолеў стаць. Нам, беларусам, зараз толькі па тралейбусах і хавацца. У кожнага свае нацыянальныя гульні. Рускія правадыры з браневіка на танк скачуць якое ўжо стагоддзе без стомы, а мы ўсё мову на сала мяняем. Бог з намі!

Пабываў аднойчы ў Кіеве (дзе сала не менш славутае за наша), усе там па-ўкраінску гаворку вядуць. Відаць, няма на што мову мяняць. Так захацелася там застацца. З іхняй мовай і з іхнім салам... Пачуў, што па казахскай канстытуцыі тамтэйшы прэзідэнт экзамен рэгулярна павінен здаваць на веданне роднай мовы. Яшчэ больш казахаў паважаць стаў. Інтэрнацыяналіст, дый годзе! А вось з роднай Беларуссю неяк, небарака, не вызначуся. І тое не так, і гэта не гэтак. Землі ў нас беларускай — як бабе сесці, як на прыпечку ў таго Мішыка Канцавога, і ўсё менш нас з кожным годам ад хвароб ды самаедства, а ўсё ніяк да згоды прыйсці не можам.

І кроіць сэрца кожнаму, што рознымі маршрутамі ўразброд цягнемся, не ў адзін бок — па крузе, насустрач адзін аднаму, а зрабіць ужо анічогенькі і не можам. Ну ніяк не сумяшчаецца пакуль дзяржаўнае з нацыянальным! Да Зіневіч бы падвучыцца, дык — не. Чырвона-зялёнаму — калі ласка. Бел-чырвона-беламу — ганьба. Тэлефануе знаёмы — у адну са сталічных бібліятэк і па прастаце душэўнай гаворку па-беларуску пачынае. А яму катэгарычна, па-руску: а тут вашых ужо няма, улада, маўляў, даўно памянялася. Звяртаюся ў родны ЖЭС: браточкі, дапамажыце, калі ласка, у кватэры хоць ваўкоў ганяй. А "браточкі" ў адказ смяюцца: беларус змерз, а астатнія ж трываюць...

Вось неяк так і ўжываемся — беларусы і "астатнія". А на гаворку беларускую на вуліцах ужо аглядвацца пачынаюць. І неяк ужо некамфортна ўсім. Бо не салон гэта бабулі Верынага 45-га тралейбуса, дзе родная мова з узмацняльніка — як камерны, амаль экзатычны антураж беларускасці, як своеасаблівая эпізадычная рэанімацыя для спакутаванай душы. Праехаў колькі прыпынкаў, успомніў пад ненавязлівым прымусам, што беларус ты — і досыць. Выскачыў у жыццёвы бязлітасны вір, дзе ўсё па-ранейшаму, дзе дзяржаўнае з нацыянальным лоб у лоб — і зноў звар'яцеў, і зноў з асобы — у натоўп. "Пярэварацень" — клінічны дыягназ амаль кожнага з нас. Хоць і адчуваем, што бязмежнае мора гарэлкі і невялікі шматок сала — лекі тут не надта дзейсныя, але на іншае пакуль не здатныя...

Эх, каб гэта абавязкі шчырай тралейбусніцы ды яшчэ б і на дзяржаўныя шырокія плечы!

Якой прынцыповай ні застаецца Вера Зіневіч, як ні пакрэктвае ў сваёй аднапакаёўцы ад духоўнага адчаю мама — былая настаўніца роднай мовы і літаратуры, а розныя пакуль у нас, беларусаў, пуцявіны-маршруты. Хто па мову, хто па сала, каму без улады абсалютнай карціць, а каго за мяжу беззваротна пацягнула... Мова маці — мова яе дзяцей. Дзе ты, наша агульная маці?! На якіх чорных лядах, на якіх белых выспах? Няўжо замест цябе толькі мачаха-пачвара і засталася? Няўжо мы не вартыя Беларусі? Пытанняў — мора. Перарабляючы радзіму на ўзор уласнага сумлення, задаваць іх трэба толькі сабе.



Фота А. Клешчука.

Даўно прыкмеціў, што на беларускай мове нельга хлусіць. Немагчыма. Ніяк не ідуць абраза, лухта, шальмаванне. Сёй-той спрабаваў калісьці з дзяржаўных трыбун — не атрымалася. Ніколі не атрымлівалася ў Быкава і Гілевіча. Не ўдаецца, балазе, і зараз. Пішуць, думаюць і дыхаюць па-беларуску. А для гэтых палітыкаў — выйсце ў дзяржаўным двухмоўі, дзе перавага, натуральна, аддаецца "великому и могучему". Традыцыі рускамоўнага палітычнага словаблудства неўміручыя, а таму — прыцягальныя. "Вся власть Советам", "Жить стало лучше, жить стало веселей", "Нынешнее поколение будет жить при коммунизме", "Экономика должна быть экономной", "Перестройка начинается с себя", "Мы будем жить лучше..." Няма канца прыкладам. Але ўсё разбіваецца ўшчэнт аб інсургенцкае з часін Яські-гаспадара з-пад Вільні: "Каго любіш? — Люблю Беларусь!"

Не хлусіць Вера Зіневіч, сумленна і па-беларускадзяржаўнаму адпрацоўваючы свой цяжкі хлеб на тралейбусных маршрутах. Не хлусіць мама, чытаючы на памяць па тэлефоне патрэбныя для маёй працы ўрыўкі з коласаўскіх і купалаўскіх паэм. Не хлусіць Круглы пляц. Хаця б таму, што маўчыць, хоць і памятае многае і многіх. Не хлусяць маладыя хлопцы з выявамі "Пагоні" на лацканах студэнцкіх пінжакоў. Іхняе "апазіцыянерства" толькі ў тым, што жыць, кахаць і любіць яны жадаюць на Беларусі. Не хлусіць Стрыжак, які паважаў Купалу, але не менш — Ясеніна. "Люблю Беларусь! — Так узаемна!" Усё астатняе на сумленні тых, у каго яно ёсць.

У нас розныя шляхі. У нас розныя маршруты. Але ўсе мы аднолькава пакараныя. Пакараныя нязбыўным жаданнем застацца беларусамі. Пакараныя мовай, якая так і не стала роднай, бо ўжо проста не хоча аддаваць сябе абы-каму. Пакараныя гаротным жыццём, бо не ўмеем яго будаваць уласнымі рукамі, душой і сэрцам...

Жончына бабуля любіць паўтараць: "Хто схлусіць, той вып'е і закусіць, а хто праўду скажа, той так спаць ляжа". Гаварыць праўду мы паступова вучымся (хваравітая справа — класціся спаць нашча), але гэтага так не стае, але гэтага так мала. Гэтую праўду, згаладаўшыся і знепрытомнеўшы ад непаразумення і абыякавасці, мы з не меншым энтузіязмам абменьваем на сала, долары і нейкія энерганосьбіты. Глыбакадумна вырашаем пры гэтым, як будзе выглядаць помнік нашай роднай мове. Спакутаваная ўкленчаная жанчына са слязьмі на невідушчых вачах? Жыццярадасная дуля, урэшце выпрастаная з кішэні? Ці проста штабелі беларускамоўных кніжак на лобным месцы, да якіх цягнецца ўладарная рука з запалкай?

Спачатку было слова... Мабыць, паспешлівым ды несвоечасовым быў той, наканаваны нам кімсьці, пачатак? Прынамсі, на беларускай зямлі, вытаптанай у бубен з-за бессэнсоўных пошукаў жыццёвага сэнсу. Калі мова — "адзежа" душы, а душа знікла, так і не паспеўшы з'явіцца, дык для каго тое адзенне? Лепей бы свет маўчаў. Шукаць сала можна моўчкі. Сцяўшы зубы, заплюшчыўшы вочы, працуючы рукамі і локцямі, адчуваючы пад нагамі непрыемныя енкі тых, хто таксама хацеў, але так і не здолеў. І, галоўнае, не трэба зважаць вось на гэтае чыёсьці:

***Кожнай ноччу я, верны Крывіч,***
***недзе ў цемень паўночнай гадзіны***
***чую сэрца крывавячы кліч —***
***то заве мяне Маці Краіна...***

Насамрэч, не трэба зважаць. Бо ўжо не кранае, хоць і пабольвае яшчэ там, дзе калісьці месцілася душа. Боль — фантомны. Пройдзе. Душы — няма. Застаецца толькі адно — зацінуць вушы і змагацца да апошняга толькі за сваё. Толькі тады, спадары тутэйшыя, "жыть будем лучше". Толькі тады...

Штодзённыя маршруты. Па матчыным горадзе, з матчынай мовай і ўласнымі думкамі. У пошуках таго, што было, ёсць і будзе.

**Яўген РАГІН**

## “Сорак скорагаворак”

**Сёння, калі колькасць кніг для маленькіх з-за фінансавых цяжкасцяў скарачаецца, кожнае чарговае выданне выклікае цікавасць. Калі гэта творы, напісаныя па-майстэрску, займальна, дасціпна, — лепшага падарунка для малечы і шукаць не трэба. А менавіта такімі якасцямі валодае зборнік “Сорак скорагаворак”, які летась пабачыў свет у “Бібліятэцы “Вожыка”. Правільней нават не зборнік, а азбука-размалёўка, бо ў яго па сутнасці два аўтары — паэт Уладзімір Мацвеенка і мастак Васіль Гагалушка. Адзін, як і трэба, творы напісаў, а другі зрабіў да іх адпаведныя малюнкі. І таксама дасціпныя, займальныя.**

**Такой азбукі са скорагаворак да У. Мацвеенкі ў беларускай дзіцячай літаратуры не было. Паэты стваралі**




**розныя азбукі. І кожны з іх імкнуўся не паўтарыць папярэдніка, быць арыгінальным. А вось У. Мацвеенка пайшоў далей. Дарэчы, колькі гадоў назад у той жа “Бібліятэцы “Вожыка” ён выступіў ужо са сваёй азбукай, тады яна называлася “Азбука ў загадках”. І як цяперашняя, яна цікавая тым, што не абыдзены ўвагай і такія літары, якія іншыя паэты, складаючы свае азбукі, прамінаюць — “й”, “ь”, “ы”...**

**У “Сарака скорагаворках” на кожную з гэтых літар падаецца цікавы твор. У. Мацвеенка піша так, каб хлопчык ці дзяўчынка, пазнаёміўшыся з ім, пашырылі свой кругагляд, даведаліся нешта новае. Асаблівае майстэрства патрабуецца аўтару, каб у адной скорагаворцы сумясціць дзве літары. Але У. Мацвеенку і гэта па сіле. Так атрымалася, калі ён узяў “Ы” і “І”, а ў выніку атрымалася наступнае:**

*“Ы” — хадзіла на*
*прагулку*
*Па Вайсковаму завулку.*
*Не паспела ўздоўж прайсці,*
*Як сустрэла раптам “І”.*
*— Добры дзень, —*
*сказала “І”, —*
*Мы, як сёстры, паглядзі...*
*У адказ “Ы” — гордая:*
*— Не, я болей цвёрдая!*

**Змястоўнай атрымалася скорагаворка і пра “Ь”. Чытаючы яе, добра “папрацаваць” давядзецца, каб правільна вымавіць тое ці іншае слова:**

*Мяккі знак*
*Нацяныкі*
*Нёс да рэчкі*
*Канькі.*
*Вось*
*На лёдзе*
*Канькі,*
*А пад лёдам*
*Лінькі,*
*Карасі,*
*Акунькі...*
*Ім не трэба*
*Канькі.*
*— Так, — сказаў*
*Мяккі знак, —*
*Ім не трэба*
*Ніяк...*

**Скорагаворкі ўдала скампанаваны. Атрымалася менавіта кніжка, а не проста зборнік, — кампазіцыйна цэласная, у якой кожны чарговы твор удала дапаўняе папярэдні. Дый і знайшоў У. Мацвеенка да зборніка своеасаблівую “запеўку”, якая вынесена на першую старонку вокладкі: “Дзед хлыпаў // Са смехам // І пагаворкамі // І сыпаў // Як з меха, // Скорагаворкамі”. А яшчэ ёсць і вершаванае запрашэнне, каб юныя чытачы, знаёмячыся з творамі, не забыліся, што перад імі не проста кніжка, а азбука-размалёўка: “Кожны з вас лоўкі”. // Кожны з вас майстар. // Хто возьме алоўкі, // Хто возьме фламайстар. // І так размалюе малюнкі удала, // Каб кніжка // Яшчэ прыгажэйшаю стала”.**

**Лявон ЮРЧЫК**

# А пачыналася ўсё адтуль...

ШТРЫХІ ДА ТВОРЧАГА ПАРТРЭТА
ЛАЎРЭАТА ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ Міколы МЯТЛІЦКАГА

НАРОДЖАНЫ “палескім бярозавым краем, вёскай з дзіўнаю назваю Бабчын”, Мікола Мятліцкі прыйшоў у вялікую літаратуру са “сваёй” тэмай. Палымяная ўзрушанасць паэтавага пачуцця даносіць да нас водгулле мінулай вайны. “Абеліск у жыце” — гэта не толькі назва, але і скразны вобраз-сімвал першага зборніка, у якім самім аўтарам пастаўлены дыягназ усёй сваёй наступнай творчасці:

***Столькі ў кожным радку маім болю,***
***Колькі ў лесе бяроз не стае.***

*(“Водгулле навальніцы)*

Сапраўды, вобраз болю з’яўляецца дамінуючым, ён праходзіць праз усю творчасць паэта. І перш за ўсё гэта боль Вялікае Айчыннае, боль за ўсіх загінуўшых, калі адбываецца поўнае атаясамліванне сябе і таго невядомага салдата, што загінуў за ўсіх жывых. Здзіўляе адно: чалавек, які нарадзіўся пасля вайны, гэтак востра адчувае і перадае словам усё тое, чаго сам не зведаў, увесь драматызм перажытай эпохі:

***Не вецер б’ецца ў грудзі,***
***А вайна***
***Ў маё бяссонне...***

*(“Брэст”)*

Гарачае дыханне памяці эпох пранізвае вершы “Сэрца”, “Удовы”, “1941—1945”, “Баладу чакання” і інш. І ўсё ж паэту баліць не толькі мінулая вайна. Ён усур’ёз заклапочаны ходам падзей сучаснасці, прычым у галабальным маштабе. І гэта невыпадкова, бо, як зазначае руская даследчыца Г. Лубянская, лірычная паэзія з’яўляецца самым аператыўным родам літаратуры, таму што здольная імгненна адгукацца на ўсё тое, што адбываецца ў жыцці. Яна ж і самы “канцэнтраваны” від мастацтва, таму што на малой прасторы лірычнага твора бязмежна ўзрастае “вага” кожнай фразы, кожнага слова, нават асобнага гучання.

Многія вершы паэта нагадваюць лозунг, пропаведзь, перасцярогу. Да прыкладу:

***Спыніцеся!***
***У свеце, бы ў пакоі,***
***Ад скрушных звад зямных не зачыніцеся.***
***Ратуйце мір апошняй талакою,***
***Над прорваю астатняю спыніцеся!***

*(“Спыніцеся!..”)*

Падобная паэзія заўсёды сучасная. Яна выражае актуальныя ўяўленні і пачуцці ў сувязі з тымі ці іншымі жыццёвымі падзеямі і праблемамі. Агітацыйна-лірычны верш, па словах той жа Г. Лубянскай, абавязаны сваім з’яўленнем перыядам вялікіх грамадскіх узрушэнняў, з аднаго боку, і суб’ектыўнаму ўсведамленню неабходнасці ўмяшацца ў тое, што адбываецца, з другога. Што датычыць грамадскіх узрушэнняў, катастроф, то іх у нас, як кажуць, хоць пазычай. У недалёкім мінулым гэта — пагроза ядзернай вайны, Афганістан, Чарнобыль, сёння — страта высокіх духоўных ідэалаў, сучасны стан мовы, заняпад культуры Беларусі і інш. Названыя вышэй болевыя кропкі нашага часу якраз і вызначаюць тэматычную палітру агітацыйна-лірычнай паэзіі М. Мятліцкага. Так, у вершы “Агледзіны”, звяртаючыся да ўяўнага апанента, паэт папярэджвае:

***...Бязроддзе душ, нібы бязводдзе рэк, —***
***Як скута сохнеш духам, чалавек,***
***П’ючы быцця зямнога асалоду.***

Увогуле, паэзія М. Мятліцкага — гэта паэзія прадчування канца. Трывога за заўтра, за будучыню, з якой, па словах самога паэта, мы можам не сустрэцца, трымаюць яго на вастрыі часу. Мятліцкаму “да ўсяго сягоння справа”.

У яго шмат радкоў, вершаў, напісаных адзіным парываннем душы, лёгка, шчыра, проста, але не спрошчана. Радкоў, дзе сапраўды сустракаешся з пачуццямі, дзе навідавоку сам паэт, яго жывы голас. Перш-наперш гэта пазбаўленая пафасу, заклікавых інтанацый “чарнобыльская” паэзія М. Мятліцкага. Аднак нельга не адзначыць, што напачатку, пішучы па гарачых слядах красавіцкіх падзей 1986-га, наш паэт не пазбег усеагульнай хвалі “аднолькавасці” вобразаў, прыёмаў і сродкаў адлюстравання трагедыі. Маюцца на ўвазе ўсё тыя ж атручаныя крыніцы (“...І крыніцы, поўныя атруты, Гаварылі праўду аб зямлі”), кіслотныя дажджы (“На маю галаву Дождж атручаны цэдзіцца”), нікому не патрэбныя яблыкі (“...Сад ля вокан. Налівы. Шэпча боль: “Не кранi!”). Паэт абмяжоўваўся знешняй канстатацыяй драматычных падзей, непрыняццем іх.

Зазірнуць у корань зла, зрабіць тонкі псіхалагічны аналіз, унутрана асэнсаваць увесь трагізм перажытай катастрофы здолеў творца пазней. І тут ужо зусім натуральна гучыць “бядой запаленае Слова” Мятліцкага, якое, па яго ж прызнанні, “рвучы Чарнобыля драты, часцей крычала, а не пела”. І гэты крык цалкам апраўданы. Менавіта яго патрабуе параненая душа паэта, якая прагне быць пачутай. Аўтар далёкі ад ранейшай прэтэнцыёзнасці. У яго вершах узмацняецца напружанасць думкі, аналітычны пачатак, што, у сваю чаргу, вымагае адпаведных сродкаў выражэння. Адсюль безвыходна-песімістычная настраёвасць твораў паэта. Усведамляючы ўсю глыбіню, маштабы трагедыі, М. Мятліцкі прыходзіць да высновы:

***...аніколі***
***На полі злыбеды***
***Не жаць нам светлай долі.***

*(“Чаму я тут ізноў...”)*

Увогуле, паняцце будучыні досыць праблематычнае для беларусаў. Расце колькасць хворых, паміраюць дзеці, гіне генафонд нацыі. Разумеючы гэта, М. Мятліцкі не можа дазволіць сабе той беспадстаўнай веры ў лепшае, аб пагрозе якой папярэджваў Л. Дранько-Майсюк. Дакладна: “Паэт гіне тады, калі абрастае мускуламі бяздумнага аптымізму...” Для М. Мятліцкага праблема будучыні ўжо вырашана. Ён ведае, што “боль не пахаваць”. Мастацкі вобраз болю ў вершы “Бабчынскія могілкі” дасягае найбольшага сэнсавага напружання, што і вызначае сілу яго ўздзеяння на чытача. Сапраўды, цяжка не пагадзіцца з паэтам, бо сказанае ім — зусім рэальная, непрыдуманая для сучаснай і будучай Беларусі метафара. Чарнобыльская рана будзе крывавіць, балець яшчэ доўга, пакуль будуць хворыя на рак ды лейкемію, пакуль кожны з нас не ўсвядоміць, што няма чужога гора, а ёсць наша, усіхняе, маё. Таму так надзённа гучаць словы паэта:

***Багата вёрст***
***прайшоў зямлёй учора,***
***Каб зразумець:***
***маё — і толькі! — гора.***

*(“Я ўсё сабраў...”)*

Тая жудасная ноч красавіка, “якой і ў страшным сне зямля не знала”, вывела на авансцэну часу сваіх герояў. У паэзію М. Мятліцкага трывала і надоўга ўвайшлі вобразы выселеных вёсак, пакінутых хат з забітымі вокнамі, зарослых палыном, асірацелых двароў. А над усім — магільны “прыпах болю, прыпах згубы”. І ўжо не Бог жыве на Беларусі, а Смерць балюе са сваім хаўрусам:

***— Я тут адна,***
***Нябачна дна***
***Маіх магіл,***
***Канца дарог.***
***Жыццё — мана.***
***Яму цана —***
***Асот, крапіва***
***І быльнёг!***

Думаецца, перад намі прыклад удалага адзінства формы і зместу. Маналог персаніфікаванага вобраза смерці, галоўнай гераіні драмы нашага часу, успрымаецца як апошняя перасцярога “аблуднаму люду” (Э. Акулін), спроба прымусіць чытача паглядзець на свет не праз ружовае шкло. Выконваючы ролю павадыра сляпых, паэт бачыць адзіны зыход канфлікту-сутыкнення зямлі і смерці. А ён — сумны, непазбежны. І ў гэтым нам бачацца даволі выразныя алюзіі з Купалам. Пераносна-метафарычны сэнс верша “Бабчынскія могілкі” М. Мятліцкага ў многім нагадвае сюжэт купалаўскай “Адвечнай песні”. Дзеючымі асобамі абодвух твораў побач з рэальнымі героямі выступаюць вобразы-сімвалы заўсёдных спадарожнікаў беларусаў — Бяды, Гора, Долі, Самоты. Так, у Мятліцкага чытаем:

***...А ў вёсачцы збіраліся хаўтуры.***
***Іх быў настрой гнятлівы і пахмурны.***
***Вяла журба нязмушаная слова,***
***Без звону чарку ўзносіла самота.***
***А на падвор’ях згоркла, палынова***
***Стаяла доля вёскі —***
***Адзінота.***

Але не толькі сімвалічны характар твораў дазваляе праводзіць падобныя паралелі.

ЧАСОПІСЫ

# Адстойваючы сапраўднасць

Апошнім часам “Крыніца” ўсё большую ўвагу ўдзяляе пісьменнікам, якія з’яўляюцца гонарам нацыянальнай літаратуры. Прынамсі, не так даўно чытачы бліжэй пазнаёміліся з жыццёвым і творчым шляхам Каруся Каганца, Уладзіміра Дамашэвіча, Івана Чыгрынава, а ў чарговым дзесятым нумары за мінулы год — гаворка пра Барыса Сачанку. Ён таксама з постацяў першай велічыні. І гэтаксама, як і згаданыя вышэй творцы, паранейшаму патрабуе да сябе ўважлівага стаўлення. І не толькі таму, што сапраўдны талент цалкам спасцігнуць цяжка, з цягам часу ён адкрываецца па-новаму, у ім высвечваецца тое, што, магчыма, было непрыкмечана ці патрабуе пераасэнсавання. Сёння ж, калі на нашым адраджэнскім шляху нямала новых калдобін, не лішне згадаць, што пытанні мовы, нацыянальнай годнасці Б. Сачанка публіцыстычна востра і па-грамадзянску смела адстойваў яшчэ тады, калі многія баяліся гаварыць праўду. Так, будучы студэнтам аддзялення журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, 14 снежня 1957 года выступіў у “ЛіМе” з артыкулам “Шанаваць родную мову”, які меў шырокі рэзананс, у тым ліку і за мяжой, у асяродку беларускай эміграцыі.

Праўда, гэты ліст Б. Сачанкі “Крыніцай” не перадрукоўваецца, прыводзіцца толькі невялікі ўрывак у падборцы “Пра Мяне”, складзенай удавой пісьменніка Т. Сачанкай. Аднак як бы кампенсацыяй з’яўляюцца падборкі выказванняў, запісаў, “думак у россып” пад назвамі “Наша беларускае...”, “Вярхі і нізы”, а таксама “Запісы розных гадоў”, у якіх закранаецца і згаданая праблематыка. Тым самым, знойдзена найбольш прымальнае выйсце. Канечне, пры жаданні можна было б апублікаваць якое-небудзь апавяданне пісьменнікам, а паколькі ў “малым жанры” ён працаваў вельмі плённа, выбар шырокі. Лёгка знайсці і творы, якія каштавалі аўтару нерваў. Але публіцыстычная дзейнасць празаікаў ці паэтаў (як і драматургаў) не заўсёды трапляе ў поле зроку чытача, успрымаецца чымсьці другасным. Ды, знаёмячыся з гэтай галіной дзейнасці Б. Сачанкі, разумееш, што і вытокі ягонай прозы неабходна шукаць у гэтай жа неабыякавасці да жыцця, у здатнасці адчуваць пульс часу. Ды не той, які лёгка праслухоўваецца, а такі, адчуць які можа толькі майстра. Адсюль і такая важкасць выказванняў Б. Сачанкі, як іх нязменная надзённасць. Іх пераважная большасць нібы сказана сёння. Для прыкладу, запіс, які з’явіўся ў 1991 годзе: “Культуры і мовы многіх народаў патрабуюць абароны, у тым ліку і з боку дзяржавы. У Францыі, напрыклад, даўно працуе Таварыства французскай мовы, якое змагаецца з уплывам англійскай, нямецкай і іспанскай моў, баючыся зніжэння ўзроўню развіцця культуры, дзяржава ўзяла пад апеку некалькі тэатраў і выдавецтваў, выдзяляе ім датацыі. У Галандыі, Аўстраліі і ў некаторых іншых краінах уся друкаваная прадукцыя, што завозіцца з-за межаў, абкладаецца спецыяльным падаткам, які ідзе на развіццё сваёй культуры.

І толькі ў нас, у Беларусі, быццам замарачэнне якое, гэта не ўсе разумеюць”.

Падобных вытрымак можна прыводзіць шмат. А пра вартасці прозы Б. Сачанкі (а ў пэўнай ступені і недахопы) можна даведацца з артыкулаў. Кожны з прадстаўленых матэрыялаў па-свойму адметны. Серафім Андраюк (“З пакалення дзяцей вайны”) больш схільны да акадэмізму, яго аналіз вылучаецца той грунтоўнасцю, калі адначасова магчыма далучыцца да набыткаў і іншых творцаў з пакалення, да якога належаў Б. Сачанка, адчуўшы, наколькі яго творчасць, развіваючыся ў рэчышчы напісанага “дзецьмі вайны”, мае ўласны твар. Алесь Марціновіч (“Ля вогнішча, якое не згасае”), не абыходзячы ўвагай набыткі Б. Сачанкі-празаіка, усё ж больш разважае пра яго як пра грамадзяніна і чалавека, які не баяўся адстойваць уласную пазіцыю, нязменна меў свой погляд на тыя ці іншыя з’явы і падзеі, а ўвогуле належаў да людзей (творцаў таксама), якія разумелі, што канфрантацыя належнага выніку не дае. А вось Г. Шупенька (“Ён любіў Беларусь...”) як бы “прапускае” Б. Сачанку праз свой лёс — жыццёвы і творчы, дый знаходзіць магчымасць добрым словам прыгадаць многіх з тых, хто ў розны час пісаў пра Барыса Іванавіча. Шмат асабістага ў згадках Максіма Лужаніна (“Быў поруч”) і Уладзі-

Аналогіі паміж узгаданымі аўтарамі заключаны і ў агульнасці светаўспрымання, разуменні імі абсурднасці чалавечага існавання ў свеце, якому бракуе гармоніі, суладдзя.

***Раскрыйся нанова, магіла:***
***Страшней цябе людзі і свет,***

прамаўляе купалаўскі Мужык. Да гэткай жа высновы прыходзіць і лірычны герой М. Мятліцкага:

***І няма, няма працягу***
***Ў нікуды.***
***Тут мёртва стыне,***
***Спарадзіўшы думак смагу***
***Лёсу чорная пустыня.***

*("Я прыйшоў: глухія хаты...")*

Яго герой, як і сам паэт, самотны, безабаронны, што той матыль з аднайменнага верша.

Сам-насам са сваім горам вяртаецца М. Мятліцкі ў родныя Бабчын, Палессе, іх фарбы, гукі, пахі. Ноч у пустой бацькоўскай хаце будзіць у памяці асацыятыўнае кола вобразаў: "...То быццам бацькавы плечы, То пасма бабулі Антосі, То матчын локаць..."

Дарэчы будзе сказаць, прыём выкарыстання вобразна значных асацыяцый досыць распаўсюджаны ў творчай манеры М. Мятліцкага. Прычым не толькі канкрэтныя вобразы выклікаюць у паэта пэўныя асацыяцыі, але і абстрактныя катэгорыі. У прыватнасці, вобраз часу. Паэт з сённяшняга дня кідае "ценькі павадок" у мінулае. Час для яго падзелены на да і пасля Чарнобыля. Так, дзічка з аднайменнага верша, самасеем узрошчаная, з дзяцінства прарасла ў сёння. Раней — прыстанішча бусла, цяпер — "белая свечка мёртвай вясны, Гаротніца майго Бабчына". Тое ж назіраем і ў вершы "Яблычны спас". Перад намі карціны дзяцінства паэта. Ён, "бабулін неслух", пад звонкія воклічы старой каштуе яблыкі да Спасу. Цяпер жа: "Голле садоў пад цяжарам яблыкаў..." Па іроніі злога лёсу не то жудасна, не то жорстка прарываюцца да паэта словы даўно памерлай бабулі:

***— Вот, неслух, і мяне давялося паслухацца.***

Як бачым, М. Мятліцкі ідзе па шляху паступовага засваення і ўвядзення ва ўжытак новых паэтычных прыёмаў, а таксама ўдасканалення старых. Усцешвае здольнасць аўтара знаходзіць нечаканы вобраз, дакладна ўбачаную дэталь, якія кранаюць намнога больш, чым лямант, крык ды заклікі. Так, у вершы "Завея" чытаем:

***Краю, бядою замкнуты!***
***Там, у сумётах гадоў,***
***Памяць не кіне слядоў***
***Снег растае некрануты.***

Вобраз некранутага снегу апасродкавана, але ад гэтага не менш востра, вяртае чытача да чарнобыльскай праблематыкі. Хочацца верыць, што дзякуючы намаганням М. Мятліцкага, арыгінальнаму, кожны раз новаму падыходу і шчырасці ў асвятленні наступстваў агульнанацыянальнай бяды, тэма Чарнобыля не станецца для нас і нашчадкаў будзённай.

Асобнай гаворкі заслугоўвае і філасофска-аналітычны аспект творчасці М. Мятліцкага. Пашыраючы змястоўныя гарызонты беларускай паэзіі, аўтар звяртаецца да медытатыўных назіранняў, разваг, рэфлексій. Паэт раздумвае над сэнсам чалавечага існавання, яго хвалююць адвечныя духоўныя праблемы:

***Жыццё калдобіста трасе,***
***Мінае век за векам.***
***На гэтай тлумнай паласе***
***Застацца б чалавекам!***

*("Ёсць паласа, калі сябры...")*

Паэт-філосаф стварае не столькі верш, колькі разважанне, канчатковая мэта якога — пошук ісціны. З пазіцый пражытых гадоў і пералытага за гэты час М. Мятліцкі сцвярджае:

***Век помніце: часовыя, не вечныя***
***Мы на зямлі —***
***Імгненнае жыццё.***

*("Век помніце: часовыя, не вечныя...")*

Тэма эфемернасці, хуткаплыннасці чалавечага быцця ў свеце супярэчлівых стыхій закранаецца аўтарам у вершы "Імгненне". Жыццё чалавека ў параўнанні з праявамі касмічнымі падобна знічцы, аднаму імгненню, у якім зліліся "туга мярлін і весялосць радзін, жалоба-старасць, песня-маладосць..."

Варта зазначыць, што паэт вельмі часта заглыбляецца ў свет антыномій, свет, падзелены на дзве супрацьлеглыя часткі. Тут ідуць побач, узаемадзейнічаючы, перасякаючыся, дабро і зло, святло і цемра, сум і радасць:

***Радасці поле — з левай рукі,***
***З правай рукі — поле вечнага суму...***

*("Восень далічыць асін пятакі...")*

Водсвет баладнасці, прытчавасці сустракаем у вершы "У сутоках дзён забылася, калі...". Тут М. Мятліцкі не толькі шукае, але і знаходзіць прычыну адсутнасці гармоніі, суладдзя ў сучасным свеце. Яна хаваецца ў тым, што некалі "...кахаць кляліся ўдвух: Дабро і Зло". З таго самага часу

***Тут, на Зямлі,***
***Каля адных кастроў***
***Далоні грэюць***
***І Дабро і Зло.***

З філасофскай разважлівасцю, унутранай засяроджанасцю выказвае паэт уласныя дачыненні да непазбежнага. На яго думку, чалавек не памірае, ён працягваецца ў іншым ці ў іншых. Асабліва доказна сцвярджаецца дадзенае перакананне ў вершы "Абступаюць цябе дрэвы..."

Несучы на плячах "тугі зямной паклажу", не забывае паэт і аб адным з найпрыгажэйшых і вечных пачуццяў — каханні. Аднак гэта не экзальтавана-захопленае пачуццё маладога чалавека. Каханне лірычнага героя М. Мятліцкага ўраўнаважанае, магчыма, запозненае, больш спакойнае, але і больш глыбокае. Нягледзячы ні на што, паэт з упэўненасцю прамаўляе:

***Астыне ўсё: цяглiцы, зрок і кроў,***
***Як стане хатай мне сасна нямая.***
***Ды не памрэ, я ведаю, любоў.***
***Запомніце,***
***Любоў магіл не мае!***

*("Бору")*

Як бачым, асноўнымі асаблівасцямі паэзіі М. Мятліцкага з'яўляюцца абвостранасць успрымання свету, глыбокае ўсведамленне асабістай адказнасці перад ім, сінтэз рацыянальнага і эмацыянальнага, публіцыстычная ўсхваляванасць і лірычная заспакоенасць, а таксама нястомнае спасціжэнне адной ісціны. Больш дакладна:

***Для пяшчоты свет сатворан,***
***Не ля цемені скразной...***

*("Чорны воран, грозны воран...")*

У гэтых словах паэта — надзея, якой нам сёння так не стае, упэўненасць, што пераконвае ў разумнасці і працягу жыцця. Жыцця светлага, мудрага, вартага чалавека.

**Наталля ГАРУНОВА**

---

міра Дамашэвіча ("Мой малодшы сябра..."). І разам з тым, асабліва ў Дамашэвіча, закранаюцца пэўныя моманты з біяграфіі Б. Сачанкі, пра якія ведаюць нямногія, але менавіта дзякуючы гэтым успамінам даведваешся, наколькі няпростым быў ягоны шлях у літаратуру. З аднаго боку — ранняе мастакоўскае самасцвярджэнне, з другога — знаходзіліся ахвочыя, так сказаць, кінуць камень. Васіль жа Макарэвіч прысвяціў памяці Б. Сачанкі верш "Араты".

Тым, хто прывык знаёміцца з лепшымі набыткамі замежнай (у дадзеным выпадку маецца на ўвазе далёкае замежжа) літаратуры, будзе прыемна перагарнуць асобныя старонкі творчасці М. Кундэры, які, як піша ў артыкуле "Жыццёвае крэда — раманіст" Алена Вострыкава, "сёння самы вядомы, самы перакладзены і самы неадназначны пісьменнік чэшскага паходжання. Для многіх людзей імя Кундэры з'яўляецца сінонімам сучаснай чэшскай літаратуры. Ужо больш за дваццаць гадоў раманіст жыве ў Парыжы, дзе апынуўся пасля савецкай інвазіі Чэхіі, і вяртацца на радзіму не збіраецца, бо пасля двух гадоў адсутнасці, лічыць Кундэра, вяртанне яшчэ магчымае, але пасля дваццаці — не". Змешчаны апавяданне "Няхай старыя мёртвыя саступяць маладым мёртвым", адна з частак рамана "Кніга смеху і забыцця", публіцыстычныя развагі "Якуб і яго гаспадар".

"Сустрэча" з Антонам Адамовічам — працяг знаёмства з прадстаўнікамі беларускай эміграцыі. А. Адамовіч пражыў доўгае і няпростае жыццё. Нарадзіўся ў 1909 годзе, памёр 12 чэрвеня 1998-га, калі гэты нумар "Крыніцы" ўжо быў падрыхтаваны да друку. Уладзімір Арлоў згадвае асноўныя моманты яго жыцця і творчасці. Вучоба ў Беларускім педагагічным тэхнікуме, у 1930-м — арышт па справе "Саюза вызвалення Беларусі", у 1938-ым — вызваленне, магчымасць скончыць БДУ. Калі пачалася вайна, уваходзіў у кіраўніцтва "Беларускай самапомачы" і Беларускага навуковага таварыства, працаваў у рэдакцыі "Менскай (Беларускай) газеты", што на той час лічылася супрацоўніцтвам з акупантамі, таму і мусіў пасля падацца за мяжу. Тады — супрацоўніцтва... А цяпер? Не ўсё так проста, як можа падацца на першы погляд. Ды і гаворка ў дадзеным выпадку ідзе пра А. Адамовіча-пісьменніка, а ён быў і празаікам, хоць большыя набыткі — у галіне літаратуразнаўства. Прапануецца фрагмент з яго кнігі "Якуб Колас у супраціве саветызацыі: доследы і матэрыялы", якая выйшла ў 1955 годзе.

З сучасных паэтаў выступаюць Андрэй Хадановіч і Наталля Марціновіч. Мне асабіста імпануюць творы Н. Марціновіч. Хоць бы гэты:

***Гутаперчавы хлопчык***
***б'е сябе ў грудзі:***
***"Я сапраўдны!"***
***Я не спрачаюся,***
***Згодна ківаю.***
***Я ж бачу:***
***У намаляваных лялечных***
***Вачах —***
***Сапраўдныя слёзы.***
***Адно з сумам думаю,***
***Як цяжка, мабыць, сагрэцца***
***На пластыкавых грудзях...***

Як жа не стае нам сёння гэтай САПРАЎДНАСЦІ. У жыцці, у творчасці... І як прыемна, што яе імкнецца адстойваць часопіс "Крыніца".

**Антось НІЧЫПАРУК**

---

*ЧЫТАЦКІ ДЗЁННІК КРЫТЫКА*

# Прыходзяць са сталасцю

*Янка Брыль. **Крынічнае.** Тэрмапілы. Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс. Беласток, 1998, N 1.*

Калі чытаеш Янку Брыля, уражваюць найперш дзве рэчы: ягонае майстэрства і ягоная мудрасць.

І тое, і другое пачынаецца з загалоўка: назваць нізку цудоўных, шчымліва-светлых мініяцюр надзіва адпаведным іхняму настрою і танальнасці словам "крынічнае" і тут жа, нібыта спалохаўшыся ці то залішняй узнёсласці і прыгоства гэтага слова, ці то залішняй яго празрыстасці, — знізіць яго, наблізіць да рэальнасці, пазначыўшы, што "Крынічнае" — гэта мясцовая назва вёсачкі над Нёманам, дзе пісьменнік летуе вось ужо дваццаць гадоў і дзе напісаліся гэтыя творы.

Тое, што Янка Брыль — найвялікшы Майстра ў нашай сённяшняй літаратуры, немагчыма не заўважыць і заглыбіўшыся ў ягоныя мініяцюры.

"Звычайная фраза, у аснове англійская, у перакладзе руская: "Но пришло время возвращаться домой при бесстрастном свете звёзд..." Гэта ў рамане Эліота "Млын на Флосе", разгубленасць маладога джэнтльмена, шчаслівага жаніха адной прыгожай ледзі, які нечакана стаў закохвацца ў другую ледзі. Ён збянтэжаны, а зоркі "бесстрастные", "равнодушная природа", якой належыцца "красою вечною сиять". Колькі ўсяго ад аднаго па-мастацку дакладнага слова! Тут я не толькі Англію бачу, не толькі Пушкіна згадаў, але і сваё далёкае жыва адчуў. Як вяртаўся познім вечарам з суседняй вёскі Качаны, як узыходзіў з вялікай даліны на гару, па-лістападаўску аголеную ад вясняной зеляніны і летняй жаўцізны, зноў заараной пад будучы хлеб. Ішоў няспешна і лёгка, з паэзіяй у юнацкай душы і з неабдымным, родна зорным небам нада мною... Зямля, планета, таксама неабдымныя, у кожнага з людзей свае даліны і ўзгоркі, свая хада па іх, а неба, зорнае неба — адно...

Ну, вось, яшчэ і Кант сюды міжволі дадаўся, так да яго падыйшлося..."

Гэта мініяцюра "Зорачна". Заўважце, зноў свядомае зніжэнне залішняй узнёсласці тонкаю самаіроніяй і ўсяго толькі адным як бы выпадковым штрышком.

Згадалася прачытанае нядаўна ў "Зацемках..." Л. Галубовіча. Фактычна пра тое самае: пра зорнае неба над галавой і пра геніяльнага карліка Канта, да якога спускаецца з зорных вышыняў Гасподзь... Колькі прыгожых слоў і фраз там было, а адчуванне бясконцасці вечнасці і сваёй чалавечай часавасці ў ёй не ўзнікла...

Можа, і праўда, што майстэрства і мудрасць прыходзяць са сталасцю.

**Галіна ТЫЧКА**

---

КНІГАРНЯ

# Такім быў Брэст

Доўгі час сцвярджалася, што сапраўднага росквіту літаратура, мастацтва, тэатр на Беларусі дасягнулі толькі пасля рэвалюцыі. Канечне, адмаўляць набыткаў немагчыма, але нельга закрываць вочы і на зробленае раней. У прыватнасці, у галіне тэатральнага мастацтва. Ці ведаеце вы, колькі тэатраў было да рэвалюцыі ў адным Брэсце? Нават не верыцца: пяць! На першым месцы — Гарадскі, потым Чыгуначны, а яшчэ электра-тэатр "Лотас", электра-тэатр "Фантазія" і, да ўсяго, летняя адкрытая сцэна. Мог пахваліцца Брэст і друкарнямі, якіх было ажно восем. А яшчэ пяць клубаў... Ды і шмат чаго іншага, у чым лёгка ўпэўніцца, перагарнуўшы старонкі календара-даведніка "Брэст" за 1913 год. Праўда, дзеля гэтага няма патрэбы спяшацца ў якую-небудзь з буйнейшых бібліятэк краіны, а дастаткова ўзяць у рукі першы том гісторыка-дакументальнай хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі "Брэст", а правільней — яе першую кнігу (выданне ажыццяўляецца ў двух тамах), дзе і прыводзяцца вытрымкі са згаданага даведніка.

Брэсцкая "Памяць" (укладальнік А. Кондак) пабачыла свет дзякуючы "БЕЛТА", якое апошнім часам займаецца і выпускам кніг згаданай серыі. Першая кніга ахоплівае перыяд гісторыі горада над Бугам ад старажытных часоў да 1941 года, у тым ліку і матэрыял пра пачатак Вялікай Айчыннай вайны, гераічную абарону Брэсцкай крэпасці. Тут жа змешчаны спісы загінуўшых і прапаўшых без вестак абаронцаў Брэста, Брэсцкай крэпасці і 62-га Брэсцкага ўмацаванага раёна.

Як і ўсе кнігі "Памяці", яна, несумненна, выкліча цікавасць не толькі ў брэстаўчан, а і ў кожнага, хто хоча лепш ведаць гісторыю Бацькаўшчыны, даведацца пра людзей, якія жылі ў гэтым рэгіёне Беларусі ў розныя часы. А такой цікавай, змястоўнай і насычанай інфармацыі ў томе шмат.

Свайго ж роду візітнай карткай старажытнага горада з'яўляюцца каляровыя слайды, якія папярэднічаюць асноўнаму матэрыялу. На іх адлюстраваны археалагічны музей "Бярэсце", тут жа раскоп гарадзішча XIII стагоддзя, выявы рымска-каталіцкага кафедральнага сабора Узвіжання Святога Крыжа і Свята-Сімяонаўскага кафедральнага сабора, Холмскіх варотаў, чыгуначнага вакзала, пабудаванага яшчэ ў 1886 годзе, будынка абласнога краязнаўчага музея і музея "Уратаваныя каштоўнасці"...

А сама даўніна пачынае "дыхаць" з першых жа старонак — "Берасцейскія землі ў старажытнасці". Але, зразумела, асноўная ўвага скіравана на сам Брэст, пры гэтым гісторыя яго разглядаецца шматпланава, у розных аспектах. А ў выніку паўстае шырокая панарама жыцця гэтага рэгіёна на працягу некалькіх стагоддзяў. Можна даведацца, наколькі тагачасныя ўлады былі зацікаўлены ў асваенні гэтай стратэгічна выгаднай мясцовасці. У пэўнай ступені атрымаць уяўленне аб старажытным Брэсце можна і па выніках раскопак яго гарадзішча. Гэты аспект таксама не абыходзіцца ўвагай у кнізе.

Змястоўным атрымаўся раздзел "Бярэсце ў складзе Вялікага княства Літоўскага". Аб тым, наколькі аўтары імкнуліся не прапусціць нічога больш-менш важнага, відаць ужо з загалоўкаў падраздзелаў: "Далучэнне Берасцейскай зямлі да Вялікага княства Літоўскага", "Супраць тэўтонскага "націску на ўсход", "Атрыманне права на самакіраванне. Сацыяльна-эканамічнае становішча горада", "Развіццё рамёстваў і гандлю", "Горад і Берасцейскі замак", "Насельніцтва горада. Павіннасці жыхароў у 16 ст.", "Рэфармацкі рух. Кнігадрукаванне ў Бярэсце. Пячатка і герб". І як працяг — "Бярэсце ў складзе Рэчы Паспалітай", "У складзе Расійскай імперыі".

У гэтых раздзелах ёсць звесткі пра выдатных людзей, чые жыццёвыя лёсы звязаны з Брэстам і тамашнімі мясцінамі. Расказваецца пра Лаўрэнція Зізанія, Казіміра Лышчынскага, Іпація Пацея, Афанасія Філіповіча, Юльяна Нямцэвіча, Рамуальда Траўгута, а таксама пра тых, хто тут знаходзіўся нядоўга, ды след аб сабе пакінуў значны — Эліза Ажэшка, Пётр Вяземскі, Аляксандр Грыбаедаў, Кандрат Рылееў, Пётр Чаадаеў і іншыя. А Павел Шпілеўскі, як вядома, наведаўся ў Брэст, калі задумаў цыкл нарысаў "Падарожжа па Палессі і Беларускім краі". У кнізе прыводзяцца вытрымкі з гэтай працы, якія тычацца Брэста. Праўда, яны змешчаны значна раней, чым персаналія самога падарожніка, хоць было б лагічней надрукаваць іх адразу пасля даведкі пра П. Шпілеўскага.

Шырока асвятляецца і паслярэвалюцыйны перыяд у жыцці горада, а таксама знаходжанне яго ў складзе Польшчы да 1939 года. Пры гэтым звернута вялікая ўвага на нацыянальна-вызваленчую барацьбу народа, можна даведацца пра такіх рэвалюцыянераў, як Вера Харужая, Станіслаў Касінскі, Уладзімір Шандрук...

А падачай матэрыялу, які тычыцца абароны Брэста і крэпасці ў пачатку вайны, кніга набліжаецца да энцыклапедычнага даведніка.

Яшчэ адно вяртанне ў мінулае... Яшчэ адна "Памяць". Удзячная справа працягваецца.

**Андрэй ЯВОРСКІ**

---

# Падарунак ад "Братчыка"

"ЛіМ" паведамляў ужо пра гайнаўскае выдавецтва "Братчык" на Беласточчыне, у Польшчы. Напярэдадні 1999 года ў ім з'явілася чарговая кніга на беларускай мове. Яна адрасавана дзецям і называецца "Расказ пра нараджэнне Ісуса Хрыста". Пераклаў гэтую гісторыю А. Мароз. Выданне невялікае памерам, але багатае на каляровыя малюнкі, што, безумоўна, паспрыяе лепшаму засваенню ведаў юнымі чытачамі.

## "Інтэлектуальная дзірка"

**Дзіркі, як вядома, бываюць розныя. Ад звычайнай у плоце да азонавай над планетай. Але каб інтэлектуальная?! Аказваецца, і яна ёсць — у гэтым упэўнены акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Генадзь Лыч. А што ўяўляе сабой такое "новаўтварэнне", можна даведацца з ягонай кнігі, якая так і называецца — "Інтэлектуальная дзірка". Як прызнаецца аўтар у звароце да чытача, да напісання артыкулаў яго "падштурхнула ўсведамленне смяртэльнай пагрозы, якую тоіць у сабе вялікая неадпаведнасць, што ўтварылася паміж той вырашальнай роллю, якую адыгрывае навука ў жыцці чалавечага**




**грамадства на сучасным этапе ягонага развіцця, і тым, прама скажам, жахлівым становішчам, у якім апынулася сёння беларуская навука". А таму і паставіў мэту: "прыцягнуць увагу шырокай грамадскасці, найперш, безумоўна, дзяржаўных і палітычных дзеячаў да тых найскладанейшых, цяжка пераадольных праблем, што паўсталі апошнім часам перад айчыннай навукай, і такім чынам дапамагчы ім як мага хутчэй прыйсці да асэнсавання спачатку непазбежнасці вялікай бяды, з якой абавязкова давядзецца сустрэцца Айчыне, калі крызіс нашай навукі будзе працягвацца, а затым і пільнай неабходнасці неадкладнага правядзення шэрагу самых актыўных мер па яе прадухіленню".**

**Тым самым Г. Лыч ставіць трывожны дыягназ: беларуская навука ў небяспецы, а значыць, пагроза навісла і над самім грамадствам, над будучыняй нацыі, а калі шырэй — існуе пагроза суверэнітэту дзяржавы. Заклапочаны, усхваляваны, па-чалавечы дзейсны і па-грамадзянску смелы голас аднаго з найбольш аўтарытэтных сённяшніх беларускіх вучоных упершыню прагучаў яшчэ некалькі гадоў назад, калі Г. Лыч выступіў у перыёдыцы з шэрагам надзіва праблемных і актуальных артыкулаў, у якіх і закраналася згаданая праблема.**

**Перачытваеш іх і разумееш, што меркаванні аўтара па-ранейшаму варты ўвагі. Больш таго, нярэдка складваецца ўражанне, што можна рабіць карэкціроўку асобных вывадаў, ацэнак, на жаль, не ў лепшы бок, бо крызіс навукі працягваецца, "інтэлектуальная дзірка" прымае ўсё большыя памеры, а адсутнасць належных навуковых распрацовак, імкненне закрываць вочы на праблемы, што існуюць, вядзе яшчэ да большай бяды ("Галіновыя метамарфозы", "Ці па працы гонар?", "Меліярацыя: рэальнасць і міфы", "Кіраўнікі і падначаленыя", "Мозг памірае апошнім").**

**Ці не галоўную нагрузку нясе разгорнуты артыкул, які і даў назву кнізе. "Інтэлектуальная дзірка" — не толькі канстатацыя крытычнага становішча, у якім апынулася нацыянальная навука, але і востра пастаўленае пытанне ўзаемаадносін навукоўцаў, інтэлігенцыі з грамадствам. Г. Лыч прыходзіць да несуцяшальнага вываду: "...сёння ёсць усе падставы сцвярджаць, што паміж інтэлігентамі і простымі людзьмі, звычайнымі абывацелямі ўтварылася сапраўдная прорва, якая не дазваляе ім адзін аднаго не тое што разумець, а і нават чуць", "на Беларусі фактычна не існуе аніякага адзінства паміж інтэлігенцыяй і простым народам". Канстатацыя: "народ — не той" — не новая. Ды Г. Лыч прыходзіць да іншай высновы, чым многія: "усім нам, прадстаўнікам беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, пара зразумець і ўсвядоміць, што практычна ў любой краіне народ з'яўляецца менавіта такім, якім яго пажадалі мець палітыкі і якім дазволілі апошнім зрабіць яго нацыянальнай інтэлігенцыяй". Карысная кніга, цікавая, патрэбная. А з'явілася яна дзякуючы ЗАТ "Арміта — Маркетынг. Менеджмент".**

**Лявон ЮРЧЫК**

ПАЭЗІЯ

Юрась НЕРАТОК



# Пяць вершаў

## Час ідзе

*Мой лёс драпежнікам-ваўком
напярэдзе пільнуе.
А час асфальтавым каткам
мінулае руйнуе.*

*І рэхам стрэлу прагрыміць
няўрымслівая памяць...
Ды ўжо нічога не змяніць,
нічога не падправіць.*

*Чарговы год замест "бывай"
сухой галінкай трэсне.
І сцісне сківіцы адчай
радком забытай песні...*

## Кплівае прызнанне

*Люблю цябе,
народ мой памяркоўны,
за твой працоўны сверб
і нораў роўны;
за тое, што не патрабуеш грошы,
а цягнеш воз свой
ды крадзеш патрошкі;
за тое, што начальства паважаеш,
што здзеку над сабой не заўважаеш;
за звычку, што характар
твой стварае:
каб хатка між людзей,
а хлеўчык з краю;
за простую, як ношка сена,
сутнасць,
за тое, што ты супраць тых,
хто "супраць";
за тое, што і ў слова і ў паперку
ты верыш, калі кажа той,
хто зверху;
за тое, што ты
за сябе хітрэйшы —
што ты небеларускі, а тутэйшы.*

## Плот

*Дні страляюць чаргой няўмольнаю,
а бывае, што дзень — як год.
...На Апанскага бесканвойныя
рамантуюць турэмны плот.*

*Каб была агароджа бетонная:
ім сядзець бы, а ёй — стаяць.
Па-жыццёваму справа будзённая:
плот падгніў —
трэба дошкі мяняць.*

*Што ж, каму астравы Канарскія,
але сёння няблага і ім.
Безмазольныя рукі цяслярскія
дапамогуць турэмным сваім.*

*Адыйдуцца: работа не танная!
Бездакорнасць пакінуць для кніг...
Толькі зайздрасць
прышчыміць спантанная,
што бяліць суправоздзяць другіх.*

## Метамарфоза

*Як быў малы — у торбу ўкласці —
назойліва, як авадзень,
сустрэчным цёткам
цвыркаў "Драсьце!"
А мне з усмешкай: "Добры дзень!"
Цяпер я слова не пазычу —
ім пры сустрэчы кожны раз
дня добрага прыязна зычу.
...І "драсьце" бразгае ў адказ...*

## Жабрацкая

*Не працягвай марна мне далонь,
галеча, —
мне ў яе сягоння нечага пакласці.
Сам іду, панура апусціўшы
плечы —
ні паперкі грошай,
ні крупінкі шчасця.*

*Не глядзі з дакорам на мяне,
старая, —
я і сам сягоння ў жабраках у лёсу.
Толькі я дакеміў, хто нас абірае —
ты ў сваім жабрацтве бачыш
волю Боску.*

*Немагчыма звесці злыдняў тых,
бабуля, —
нават на распяцце
могуць ахрысціцца!
Толькі кол з асіны
ці са срэбра куля —
ды аховы столькі,
што не падступіцца.*

*Кінь свае спадзевы на мяне,
старэча, —
я і сам сягоння бедны і галодны.
Для мяне, па-твойму,
гэта недарэчна...
Але што ж ты зробіш —
я паэт народны.*

*А як будуць грошы — п'яны і вясёлы
я цябе прыпомню
ды яшчэ ў прыдачу
цыганятак бойкіх,
хлопца з куксай голай
і дзядка сівога,
што наўмысна плача...*

Алесь БАРДОЎСКІ



Алесь Бардоўскі нарадзіўся ў 1946 годзе ў Бялынкавічах Касцюковіцкага раёна. Скончыў Джамбульскі тэхналагічны інстытут. Працуе галоўным інжынерам Гомельскага прадпрыемства транспарту нафты "Дружба". Вершы друкаваліся ў рэспубліканскіх і абласных газетах.

## Развітанне

*Мае ўжо выраслі сыны,
Ды час ніяк не гоіць раны —
Праз дваццаць год пасля вайны
Памёр мой бацька нечакана.*

*Я гэта гора сэрцам стрэў,
А сэрца верыць не хацела,
Што ў сорак першым
грымнуў стрэл,
А куля дваццаць год ляцела.*

*І не забыць мне той бяды,
І бачу позіркам юнацкім —
Квітнеюць майскія сады,
А я развітваюся з бацькам...*

*Жыццё як зорка прамільгне,
А сэрца думкай халадзее —
Ужо ён малодшы за мяне
І з кожным годам маладзее...*

## Белы верш

*Выпаў снег. Белым-белы, першы
За апошнія шмат гадоў,
І зіма напісала вершы
Іерогліфамі слядоў.*

*Задуменна чыталі сосны
Гэтых вершаў нябачны сэнс
І па-казачнаму дзівосным
І жывым мне здаваўся лес*

*З сінім змрокам, з рабінай тонкай,
Па-зімоваму белым-бел,
Толькі раптам чырвонай кропкай
Прагучаў паляўнічы стрэл...*

*Верша белага сумны вынік —
Напалоханы мой куток.
Асыпаецца снег з галінак
На апошні яго радок...*

## Сівы бусел

Васілю ТКАЧОВУ

*Выбачай, што я к табе не трапіў,
З юбілеем не павіншаваў.
Мне балюча,
быццам штосьці страціў,
Ад сябе самога сам схаваў...*

*Паўстагоддзя. Гэта так нямнога.
І кажу усім не ад таго,
Што зайздрошчу.
Што не веру ў Бога.
Толькі ты ўсё роўна ад яго.*

*Ды жыццё такі звязала вузел —
Вінаваты сталі без віны...
Над зямлёю кружыць сівы бусел,
А на ёй — нібы пасля вайны,*

*І куды сівому буслу дзецца —
Кружыць ён над рэшткамі гнязда.
Хто мог ведаць,
што на гэтым свеце
Ёсць яшчэ такая вось бяда!*

*Сядзе бусел і на нашу хату —
Справа часу. Як жа ён бяжыць!
Я табе жадаю, нібы брату,
Да хвіліны гэтае дажыць!*

•

*Ведаў я, што з восенню
спатканне
Непрыкметна хутка праміне,
Ды аднойчы снежаньскае ранне
Нечакана ўразіла мяне.*

*Ні слядоў, ні бруду на дарозе,
Белы снег іскрыўся каля ног...
І стаяў я моўчкі на парозе,
І пайсці, асляплены, не мог.*

*Зноў завеі белыя пачнуцца
На далонях снежаньскіх садоў...
І ў жыцці б аднойчы так:
прачнуцца,
А вакол — ні бруду, ні слядоў!*

•

*Ты не думай, што я табе здрадзіў,
Мой, дзяцінствам асвечаны, кут,
Я і сам разумею, што страціў
Назаўжды вельмі многае тут.*

*Я і сам разумею, што страта
З тых, што нельга вярнуць
ці знайсці.
Толькі стала бацькоўская хата
Мне аднойчы малою ў жыцці.*

*І панесла, панесла дарога,
Смерч жыццёвы ламаў і кружыў.
Засталося дзяцінства далёка,
Дзе стаяць на магілах крыжы...*

*Не аплакаць слязою гарачай
Тых крыжоў, тых адмецін бяды.
Не трымай жа мяне
так балюча —
Я застаўся тваім назаўжды!*

ПРОЗА

Сяргей ВЕРАЦІЛА

# КАСТРЫЧНІК. ЛІСТАПАД—ЛЮТЫ?



АПАВЯДАННЕ

У НЯДЗЕЛЮ выпаў снег. Сёння заканчваецца панядзелак, а снег усё яшчэ не растаў. Як ні дзіўна? — Хаця якое там дзіва: ужо дастаткова холадна.

Снег лёг тонка-тонка, нават не ўсю зямлю накрыў. І паволі сціскаецца сэрца. Можа, ад гэтае тонкасці, бо ў кастрычніцкім снезе ёсць нешта несапраўднае. А што? — Я не ведаю...

Снег павінен класціся гурбамі, а не так тонка і, можа быць, зусім недарэчы. І гэтая тонкасць, як павуціна — узмах рукі і няма; подых ветру і — паляцела. І ўсё гэта зараз, як падслуханая няўзнак размова, як пах ежы з чужое кухні... І без таго не вельмі добра сябе пачуваю, а тут яшчэ — гэты снег і ўспаміны, успаміны, успаміны. Паблажліва ўсміхнуўся люстэрку, але нешта паблажлівасці сёння не атрымліваецца. Можа, гэта снег вінаваты? Я не ведаю.

Спрабаваў чытаць — не чыталася. Спрабаваў пісаць — не пісалася. Можа, і пагаварыў бы з кім, але не хочацца ісці на вуліцу і ступаць на тонкі і несапраўдны снег. Не пайду я нікуды.

Але ж было яно, было. І было на сам справе, зусім рэальна. Гэта толькі снег напрыканцы кастрычніка выглядае фантастычным. У тым, што было, я не маю падставаў для сумневу, але як пачыналася: паспрабую прыгадаць.

Здаецца, тады таксама быў кастрычнік. Так, правільна, верасень ужо закончыўся, бо ў верасні я быў "на бульбе". Я толькі не помню, ці была цёплаю восень.

Так, здаецца, быў кастрычнік. Я добра памятаю бясконцы, амаль заўсёды паўцёмны калідор. Я любіў падыходзіць у ягоны канец, бліжэй да чорнага ўвахода. Тым тарцом, які выходзіў балконамі, будынак інтэрната быў пастаўлены ў бок Свіслачы. Там, за ракою, таксама былі інтэрнатаўскія будынкі: насупраць і на ўзвышшы. Я падыходзіў да балкона, спыняўся перад ім, і глядзеў на другі бераг, за раку, на іншыя будынкі, курыў і марыў. На сам балкон я не выходзіў, здаецца, было халаднавата. Ага, значыцца, тая восень была халоднаю. Але холаду я ніколі не палохаўся. І зараз не баюся, вось скразнякі для мяне — бяда. Я стаяў перад самым балконам і курыў. Балкон быў аддзелены ад калідора падвойнай шыбаю і паміж гэтымі двума шклянымі сценкамі мелася невялікае памяшканне (я ніколі не ведаў, як яно называецца, і зараз не ведаю), яно заўсёды было цёмным. Я стаяў каля гэтае падвойнае шыбы і глядзеў за раку на іншы будынак, што быў павернуты да нас вокнамі жылых пакояў. Вокны доўга не згасалі, і святло ў іх было жоўтым. Ад гэтых пакояў святло выстрэльвала за раку і адбівалася ў падвойнае шыбе нашага канца калідора. Чамусьці мне заўсёды гэтыя прамяні падаваліся месяцоваю сцяжынкаю. Так добра было б пайсці па ёй ажно да самага Месяца, і мне тады зусім не хацелася думаць, што гэтая сцяжынка вядзе ў такі-ж-самы-іншы інтэрнатаўскі будынак. Я хацеў, хацеў стаць на месяцовую сцяжынку, я хацеў, але баяўся, бо лічыў сябе яшчэ не гатовым.

Во, халера! Пачаўся лістапад, а снег яшчэ не растаў. Быццам бы мне назло, а можа, ён не растае, бо хоча, каб я паверыў у рэчаіснасць заваконнага жыцця, і спадзяецца, што лістапад яму ў гэтым дапаможа. Ага, так я і паверыў. Ужо, разагнаўся і бягу, ажно язык — на барадзе. Хаця які гэта Лістапад? — Вось у Піцеры, дык там нават шыльды вывешваюць: "Осторожно — Листопад!" Так і клічнік напрыканцы. Я даўно не быў у Піцеры. Я даўно нідзе не бываю. Ездзіў неяк у Міхайлаўскае, дык і тое было паўтара года таму...

Я стаяў і курыў, і мне падабалася назіраць за тым, як у цёмным шкле ўспыхвае адбітак агеньчыку маёй цыгарэты. Амаль побач, у куточку, каля высокае тумбы-сметніцы чорна-белых колераў заўсёды курылі дзяўчаты. Я, нават не гледзячы, мог вызначыць гэта, бо дзяўчаты бясконца аббівалі попел з цыгарэты, удараючы па ёй некалькі разоў запар указальным пальцам. Гэта яны робяць чыста інстынктыўна — баяцца прапаліць сваю модную "шмотку", бо яна ў іх можа быць усяго адна. Дзяўчаты курылі хутка і шмат, бывала, што і па тры цыгарэты запар. У пакоях дзяўчаты звычайна курыць баяліся паводле жорсткіх інтэрнатаўскіх правілаў. Іх, бедных, і за куды меншыя парушэнні маглі паперці ў менш дабрабытны інтэрнат на Паркавай Магістралі, а то і ўвогуле маглі пазбавіць таннага казённага прытулку. Гэта дзяўчаты звычайна выключалі святло ў холе і ў канцы калідора, і ва ўтульнае для іх цемры, што стварала ўражанне бяспекі, дзяўчаты курылі і перамаўляліся ціхімі ўстрывожанымі галасамі, і час ад часу адна з іх узнімалася з кукішак і пільнавала асветленую частку калідора, бо адтуль звычайна з'яўлялася пагроза: камендант, студсавет, оператрад, прафкам, камітэт камсамола, камісія з факультэцкіх выкладчыкаў. Дзяўчаты баяліся іх усіх разам і кожнага паасобку. Я стаяў у цемры, ля балкона, і курыў. Мне таксама было няўтульна, хоць я і не баяўся быць выключаным з інтэрната ці нават з факультэта. На занятку, альбо як мы называлі "ў школу", я хадзіць не хацеў, і каб хто зараз запытаўся, чаго я хацеў на сам справе, дык ці змог бы я адказаць больш-менш дакладна? — Наўрад ці. Адно толькі пэўна: я хацеў прайсціся па месяцовай сцяжынцы, але быў яшчэ да гэтага не гатовы.

Я знаёміўся з дзяўчатамі, яны мяне любілі і частавалі чаем, але мне было сумна. Я выходзіў у Горад, і там таксама знаёміўся з дзяўчатамі, і яны мяне таксама любілі, але мне было сумна. І месяцовая сцяжынка заставалася адлучанаю ад маіх крокаў падвойнаю шыбаю. А часам я напіваўся, і тады месяцовая сцяжынка набліжалася да мяне... Ці гэта мне толькі здавалася.

Кастрычнік ужо заканчваўся, а можа быць, і лістапад пачаўся. Я быў у той вечар, як казалі "на рагах". Праўда, пакуль прыйшоў у інтэрнат, дык алкаголь часткова выйшаў з мяне, але ўсё ж добрая ягоная частка яшчэ кружыла маю галаву. Я ішоў, лёгка гойдаючыся па калідоры, да сваёй знаёмай М., у мяне быў з ёй "раман". Яна мне падабалася. Можа, здымак яе нельга было змяшчаць на вокладкі часопісаў, але яна была юнаю, свежаю і кахала мяне, а таму ніколькі не саромелася сваіх суседак па пакоі. Не так ужо і даўно мы ледзьве не спаткаліся. Я нават не ведаю, што і сказаў бы ёй, але спадзяюся, што нічога крыўднага для нас абодвух. Раман наш потым разваліўся, як мне растлумачылі, таму што сяброўкі маёй М. правялі дзеля гэтага па-мастацку аформленую інтрыгу. Была там інтрыга ці не было, сёння мне ўсё роўна, я мяркую, што прычына была ўва мне самім, бо я тады патрабаваў ад іншых тых дабраякасцяў, адсутнасць якіх у сябе лёгка сабе дараваў. Дык вось, сунуўся я ўздоўж сцяны да М., але пераблытаў паверхі. Яны тут усе былі аднолькавыя з аднолькава прыцемненымі ў канцы калідорамі. Адбылося гэта ці таму, што я быў добра нападпітку, ці таму, што лёс так ужо распарадзіўся, я не ведаю, але да М. я ў той вечар не патрапіў. Я крыху прайшоў, хістаючыся паміж сценаў, і толькі потым ужо заўважыў, што памыліўся. Але тады мне было значна менш гадоў, чым цяпер, і памылак я не баяўся, я лічыў сябе паэтам,а таму пакідаў за сабою права на памылкі. Вяртацца я не стаў, бо маю ўвагу прыцягнуў яркі прамень святла і музыка, што лілася з аднаго пакоя недзе ў канцы калідора.

І я пайшоў на свята. З адчыненага пакоя было чуваць музыку і гучныя дзявочыя галасы. Я прыслухаўся: песня была італьянская, пра шчасліўцу, "Фэлічыта". Тады італьянская папса была ў модзе, і аматары "Пінк Флойд" складалі на матыў тае самае "Фэлічыты" прыкладна такія пароды: "Тебя обманули на десять копеек — пересчитай!" альбо "Читай "Возрождение" и "Малую землю" — перечитай" ды іншыя. Тады ўвогуле была эпоха пародыяў і парадыстаў. Вялікі Лёд ужо даў свае першыя трэшчыны, і Новы Правадыр літаральна прываражыў Краіну сваімі шматгадзіннымі прамовамі.

Дзверы былі гасцінна-запрашальна адчыненымі, і я зайшоў. У адной з дзяўчатак быў тады дзень народзінаў. Сам дзень, праўда, ужо скончыўся і застолле лепш было назваць вечарынаю. Яшчэ мелася на стале чым пачаставаць позняга госця, але мне пачастунак быў непатрэбны. Праўда, я выпіў з дзяўчатамі па некалькі кілішкаў віна, і ім было весела, і яны былі мне радыя. А мне ізноў стала сумна. Я тады лічыў сябе паэтам і хацеў ступіць на месяцовую сцяжынку. Я ўжо збіраўся ісці да М., як мой позірк натыкнуўся на кнігу, і вы не паверыце, але мне захацелася застацца. Кніга была Рэя Брэдбэры, аднаго з тых нешматлікіх, каго я мог перачытваць па некалькі разоў на год. І натуральна, што я быў узрушаны, што дзяўчаты, якія слухаюць "Фэлічыту" і "Модэрн Токінг", чытаюць Брэдбэры, ды яшчэ на англійскай мове. Сам я тады ў дачыненні да замежных моваў, хіба акрамя польскай, быў, што называецца, звычайнаю савецкай "табуля раса": чытаю і перакладаю са слоўнікам. Я ўжо расхацеў сыходзіць.

А пад вечар снег пайшоў яшчэ больш. Да нас зайшла суседка — баба Надзя — і пра нешта доўга гаманіла з маёй мамаю. Я не слухаў. Я слухаў Гайдна. Бетховена я не люблю. Цяпер ён падаецца мне вельмі брутальным. А раней любіў. А снег усё падаў і падаў, толькі я наўмысна не глядзеў за вакно, я нават не чуў, як на кухні прыпынілася гамана. Я перавярнуў кружэлку на другі бок і гэтым адзначыў, што прайшло яшчэ колькі часу. Час мяне не цікавіў, я добра ведаў, што зараз — восень, а таму снег за вакном так і не здолеў мяне падмануць. Я радаваўся цвёрдасці майго духу, але тут у мой пакой зайшла мама і сказала, што ад снегу могуць паламацца ў двары вішні. Іх там было дзевяць — гэта тыя, што належалі нам; іх яшчэ мой тата садзіў. Я падышоў да вакна: вішні і сапраўды амаль ляжалі на зямлі, але вось клёнам снег нічога не мог зрабіць, і яны выглядалі вельмі прыгожа пад неонавым святлом ліхтароў. Але я не хацеў любавацца на клёны. Я ўсунуў ногі ў кароткія боты, насунуў на галаву старую шапку-аблавух, улез у старую куртку, узяў у рукі даўжэзны кій і спусціўся ў двор. На дварэ супраць майго чакання было даволі цёпла, але снег і не збіраўся таяць, ён нават пахрумстваў услед за крокамі. Я абстукваў галіны кіем, і снег асыпаўся белымі вадаспадзікамі, а лапы вызваляліся ад цяжару, і дрэва імкнулася да свайго натуральнага вертыкальнага стану. Я помню, як спачатку не хацеў выходзіць з дома, а зараз ужо не хацеў вяртацца. Я ўжо вёў са снегам сваю вайну, і гэтая вайна захапіла мяне цалкам. У гэтай вайне я залічыў на свой рахунак такія перамогі: я вызваліў ад снегавога палону дзевяць нашых вішняў, яшчэ чатыры вішні і дзве слівы — гэта суседскія. Снег так ацяжарыў дрэўцы таму, што з іх яшчэ не ўпала лісце. Чатырохкутнік квартала затрымоўвае вятры і пазбаўляе іх моцы. Яшчэ некалькі дзён таму лісце з ніжніх галінаў аб'ядалі козы, а зараз колькі снегу навалiла. Дзятва таму снегу радая, бо ў яе зараз вакацыі — восеньскія. А я вяду са снегам сваю вайну і ў гэтай вайне з майго боку маюцца страты: зламала бэз. Яго пасадзіла суседка з першага паверха. Зараз яна моцна хварэе, а таму амаль увесь час ляжыць і толькі зрэдку соўваецца па двары з кіёчкам. Бэз штовесну, ужо колькі год запар, радаваў позіркі важкімі гронкамі белых кветак. І вось упаў белы снег і паламаў нетрывалае бэзавае дрэўца. Я зразумеў, што такім чынам снег хоча мяне прымусіць паверыць у ягоную праўдзівасць. На календары яшчэ — восень, а мае кароткія боты поўныя снегу. Я гатовы паверыць. Я гатовы...

Я не стаў сыходзіць, я застаўся. Я расказваў анекдоты, я чытаў вершы. А потым сеў на Ейны ложак, да Яе, на самы акрайчык. Над ложкам, на Ейнае сценцы вісела адзіным упрыгожаннем невялікая вьетнамская ці хіньская цыноўка, сплеценая з саломы: некалькі пальмаў, сонца, рыбацкі чоўен — вось і ўвесь краявід няхітрае экзотыкі. Затое там не было ні здымкаў кіназорак, ні аляпаватых календароў з рэкламаю "Аэрафлоту", дзе нас заклікалі лётаць ягонымі самалётамі, як быццам мы маглі выбіраць. Гэта было тым жа здзекам, як заклік дыхаць паветрам альбо выбары, калі на адно дэпутацкае месца меўся толькі адзін кандыдат. Я помню, што папрасіў дазволу і сеў да Яе на ложак, на самы акрайчык. Я помню, што на Ёй быў незвычайнага ружовага крэму колеру спартовы строй. Гэта потым я даведаўся, што строй быў піжамным. Я загаварыў з Ёю і не заўважыў, што (не я, а мы) прагаварылі недзе з дзве гадзіны, і гэты факт мяне ўразіў нават больш, чым ейныя густыя цёмна-каштанавыя валасы. А яшчэ я не заўважыў тады ейнага акцэнту, можа, і таму, што хмель яшчэ не дарэшты пакінуў маю каротка абстрыжаную галаву. І я абяцаў, што заўтра прыйду. Не хлушу, я не абяцаў, я прасіў дазволу прыйсці, і мне дазволілі. І назаўтра я прыйшоў. І калі вы думаеце, што заўтра ўсё пачалося, то вы памыляецеся. Назаўтра яшчэ нічога не пачалося, але мне было вельмі прыемна заходзіць і гаварыць да гэтае дзяўчыны, поўнае жывога розуму. Я нават адчуў рэўнасць сваіх сяброў, бо з кожным днём у мяне для іх усё менш і менш знаходзілася часу. Але і тады я не забываўся прыходзіць па вечарах у канец інтэрнатаўскага калідора, дзе ў ашклёную сцяну між балконам і калідорам адбіваліся прамяні святла з таго будынка з-за ракі. Ноч усмоктвала жоўты колер ваконнага святла і змяняла афарбоўку на халаднавата-сінюю. Я па-ранейшаму хацеў ступіць на месяцовую сцяжынку і пайсці па ёй, і дайсці ажно да самага Месяца. Я ведаў, што гэта зусім не балюча, і калі страшна, то толькі на самым пачатку. Аднойчы я сказаў ёй:

— Ты бачыш — гэта месяцовая сцяжынка. Я хачу па ёй прагуляцца да Месяца.

Яна мне адказала:

— Ты зусім непадобны да іншых.

Я амаль пакрыўдзіўся:

— Чаму?

— Тут у вас так холадна і людзі вашыя мёртвыя, як камяні. Дык навошта табе халодны Месяц, поўны мёртвых камянёў?

Не, назаўтра яшчэ нічога не пачалося. І я ніколі, ніколі б не змог вызначыць дату, дзень, гадзіну...

А з чацвёртага на пятае памяняўся вецер, і ўсю ноч ён спрабаваў пагнуць на дахах антэны. Я адчуваў сябе вельмі няўтульна і ніяк не мог заснуць. А ранкам я прымусіў сябе зазірнуць за вакно. Снегу ўжо не было, яго як злізала. Як я дазволіў сябе так падмануць? — Я ж заўсёды ведаў, што снег напрыканцы кастрычніка — несапраўдны. Яшчэ будзе, яшчэ будзе зіма, і тады снег будзе выглядаць зусім натуральна, можа, таму, што ўзімку адпавядае календару. Так, здаецца, тады таксама была зіма. А можа быць, зіма ўжо канчалася. Адлігі змяняліся падмарозкамі, завірухі чаргаваліся з наталымі лужынамі: значыцца, гэта быў люты. Тады я зазірнуў у слоўнік і сказаў... не, нават напісаў:

— Io te guierro.[1]

[1] *Я цябе кахаю. (ісп.)*



## ЧАСАПІС

### Зноўку "Рок-каранацыя"

**"Крама", "Рублёвая зона", "Ляпис Трубецкой", "Н.Р.М."... Неўзабаве да гэтага шэрагу далучыцца яшчэ адзін айчынны музычны калектыў. Менавіта тады, 30-га студзеня, у канцэртнай зале "Мінск" пройдзе чарговы нацыянальны фестываль рок-музыкі — "Рок-каранацыя". Адбудзецца ён у пяты раз, пяты год запар! Паводле адмысловага анкетнага апытання музычных крытыкаў, журналістаў і іншых асобаў, якія маюць непасрэднае дачыненне да шоу-бізнесу, будзе названы найвыбітны за мінулы год гурт. Апрача ўручэння галоўнай узнагароды "Рок-кароны", будуць прэміявацца беларускія рок-гурты і выканаўцы і, як звычайна, па астатніх намінацыях. Прызоў дастаткова: і "Відэакліп года", і "Адкрыццё года", і "Песня года", і "Альбом года", і "Традыцыя і сучаснасць", і "Падзея года".**

**Дарэчы, дагэтуль нават самі арганізатары мерапрыемства дакладна не ведаюць, якія з ужо вядомых ці маладых гуртоў будуць намінавацца, а хто набудзе статус госця.**

**Таму чакаем.**

**Кірыла ПАЗНЯК**

### Па добрай традыцыі

**Ужо па нязменнай добрай традыцыі, у горадзе над Бугам адбылася імпрэза-ўшанаванне "Берасцейскія зоркі". І, як заўсёды, лепшыя з лепшых вызначаліся па дзевяці намінацыях: "Архітэктура", "Выяўленчае мастацтва", "Журналістыка", "Культура", "Літаратура", "Музыка", "Тэатральнае мастацтва", "Фундатар культуры" і "Чалавек года". Цікавая адметнасць чарговае вечарыны — кожная "зорка", як новая, так і мінулых гадоў, была ўзнагароджана памятным арыгінальным значком, адмыслова выробленым спецыяльна для імпрэзы берасцейскім мастаком Міколам Кузьмічом, дарэчы, "Чалавекам года-97". З агульнай згоды ўсіх удзельнікаў вечарыны "Берасцейскія зоркі-98" вырашана звярнуцца да мясцовых уладаў з просьбай адвесці месца ў архітэктурным плане Брэста для разбіўкі ганаровай алеі "Берасцейскія зоркі".**

**І. Х.**

*г. Брэст*

### "Роднае слова", N 12

**Да чытачоў звяртаецца галоўны рэдактар "Роднага слова" М. Шавыркін — "Любоў яднае нас". Эрыстычны дослед паэзіі Цёткі зрабіў В. Максімовіч ("Пераадоленне відавочнасцяў"). Т. Івахненку цікавіць ідэнтыфікацыя вобраза беларускай русалкі ў баладах А. Міцкевіча "Свіцязянка" і "Рыбка" ("Твар яе — белая ружа нібыта..."). Змешчаны таксама артыкулы А. Павільча "Паэтыка малітваў Кірылы Тураўскага", В. Вaraновіча "Шапэ ці Шапен?", А. Харчанкі "Чарадзей слова" (дзеяслоўная сінаніміка ў творах К. Чорнага), В. Ляшук і Г. Скарыны "Адзінае, дзіўнае, светлае слова..." (вершы Д. Бічэль-Загнетавай у IX класе), А. Шапашнікавай "Зімовыя пейзажы Віталя Цвіркі", Л. Трэпет "Паўночныя Афіны ў Залессі", слова А. Лойкі пра А. Вялюгіна "Паэт вышэйшага рангу". В. Коўтун "На касмічнай карце Бацькаўшчыны" (з радаводу Цёткі), А. Гарон і В. Міцкевіч "На памяць дарагому другу..." (дарчыя надпісы Я. Коласа). Н. Усава гутарыць пра мастацтва з Л. Рублеўскай ("Малюю акенцы ў лепшы свет..."). Л. Ляшчэвіч ("...І пераходжу ў вершабыццё") разважае пра музыкальнасць паэзіі Т. Мушынскай, тут жа змешчаны тэксты і ноты песень Т. Мушынскай "Люблю", "Пад зімняю поўняй", "Вецер у полі", "Першы снег". У "Літаратурным ветразі" М. Скобла прадстаўляе паэтэсу В. Буланду.**

### Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі

*АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРСНЫ НАБОР ЮНАКОЎ І ДЗЯЎЧАТ УЗРОСТАМ З 17 ДА 24 ГАДОЎ У ДАПАМОЖНЫ АКЦЁРСКІ СКЛАД.*

**Заявы на конкурс прымаюцца з 25 студзеня б.г. Адборачныя кансультацыі праводзяцца кожную апошнюю нядзелю студзеня, лютага і сакавіка з 11 гадзін. Конкурсны паказ адбудзецца 4 красавіка, а 12 гадзіне. Для паказу неабходна падрыхтаваць на беларускай мове байку, верш і ўрывак з прозы. Мінская прапіска абавязковая.**

*Адрас тэатра: 220002, г. Мінск, в. Крапоткіна, 44. Даведкі па тэл.: 234-60-08, 268-60-21.*

МУЗЫКА

***Ён адбыўся восьмы раз, пацвердзіўшы сваю рэпутацыю некамерцыйнай і некан'юнктурнай імпрэзы. Тут нават лепей казаць не імпрэза, а справа. Бо ўжо ў назве фестывалю — "Адраджэнне беларускай капэлы" — адчуваюцца ўгрунтаванасць у гісторыю, рух асветніцтва і перспектыва развіцця. І самі канцэрты пераконваюць, што назва не ўводзіць у зман. Гэтым разам Нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне "Беларуская Капэла" ва ўмовах жорсткіх фінансавых абмежаванняў падрыхтавала тры паўнавартасныя музычныя вечарыны, праграма якіх нагадвала творчы і асветніцкі дыялог. Дыялог нашых землякоў: рамантыкаў мінулага стагоддзя ды блізкіх ім па духу сучаснікаў.***

# Нас падзяляе толькі час?

## ПРА ФЕСТЫВАЛЬ, ЯКІ НЕ ПАЦЯШАЕ, А ЎСЦЕШВАЕ

### ВЯРТАННЕ ДА ПЕРШАГУКУ

Роднасныя стасункі польскага кампазітара-класіка Станіслава Манюшкі з беларускай культурай — хрэстаматыйны факт. Аднак жа здараецца, што і аксіёма вымагае доказаў. Асабліва для таго, хто ўспрымае яе як сенсацыю ці, што куды горш, — як выклік.

Я добра памятаю збянтэжанасць палахлівых абывацеляў, калі на афішы аднаго з першых фестываляў "БК" з'явілася сімвалічная і ёмістая назва: "Манюшка на радзіме". Назва, дарэчы, абсалютна дакладная і карэктная — найлепшае сведчанне таго, што ў новых адраджэнцаў не было намеру "перадзяліць" гістарычны беларуска-польскі музычны набытак на сваю карысць. А была спроба раскрыць карані ды асэнсаваць вытокі творчасці нашага земляка, якога пры канцы ягонага жыцця шанавалі ўжо як знанага варшавяніна. Было жаданне глыбей спазнаць феномен гэтага рамантычнага таленту, вярнуўшы вакальную спадчыну Манюшкі да беларускага першагуку — праз пераклады тэкстаў. (Тым болей, што спарадычныя спробы пераасэнсавання-перастварэння-перакладання рабіліся і раней).

Эрудзіраваны літаратар, знаўца творчасці Манюшкі, перакладчык і вучоны Уладзімір Мархель і прапанаваў гэтае паняцце: **вяртанне да беларускага першагуку**. Лепей хіба скажаш! Вось і зноў яно прыдалося — калі адзначалі двухсотгоддзе Адама Міцкевіча. Каб асэнсаваць геній паэта, які моваю польскай спавядаў мроі ды пачуцці рамантыка з тутэйшаю, ліцвінскаю душою, нашы сучаснікі паспрыялі ягонаму **вяртанню да беларускага першагуку**. А як дапамагла тут музыка!

Чытачы нашы ведаюць пра стыльны ды грунтоўны канцэрт з твораў Манюшкі на Міцкевічавы вершы ў беларускіх перакладах — фірмовую праграму "БК", падрыхтаваную да юбілею паэта. У канцэрце фестывальным — "Сляза вялікага Адама" — кола кампазітараў (якіх натхняла не толькі творчасць Міцкевіча, але і ягоны вобраз, увасоблены ў сучасных вершах) было прадстаўлена досыць шырока і разнастайна.

Як зазначыў у праграмцы У. Мархель, да паэзіі Міцкевіча звярталася 156 кампазітараў, і найчасцей — Манюшка: з 400 музычных твораў, напісаных на 75 вершаў, 33 належаць менавіта яму. І межы музычнага асваення паэзіі слыннага навагрудца пашыраюцца. Бо да спасціжэння яго асаблівага светаадчування, што фармавалася ва ўзаемадзеянні "лучнасці і разрыву з бацькаўшчынай", пачалі спрычыняцца нашы сучаснікі.

Дзіўнае супадзенне! У той самы вечар на вялікай філарманічнай сцэне адбывалася Міцкевічава "хрышчэнне эстрадай" — прэм'ера ў Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі цыкла песень Эдуарда Зарыцкага на пераклады Васіля Жуковіча. Аднак жа і ў акадэмічнай фестывальнай праграме ставала духу прэм'ернасці, навізны, нечаканасці. Дастаткова ўспомніць, як разам з Максімам Танкам ды Станіславам Шушкевічам нібыта прайшоў па "Міцкевічавых мемарыялах" Сяргей Бельцюкоў. З якімі "сур'ёзнымі тварамі" перачыталі любоўныя тэксты санетаў Вячаслаў Кузняцоў, Эміль Наско, Уладзімір Дарохін. Колькі выявілася абаяльнасці ды свежасці ў хрэстаматыйнай "Зосі" Юрыя Семянякі на Купалаў пераклад...

Уражвала і ўжо згаданая сатворчасць Манюшка — Міцкевіч. Безумоўна, паспрыяў гэтаму аркестравы жывапіс маэстра-аранжыроўшчыка Уладзіміра Байдава, які перастварыў камерныя вакальныя опусы, не раўнуючы, у... оперныя нумары! Для салістаў-спевакоў і Ансамбля "Класік-Авангард".

А фінал? Яшчэ адна выбітная прэм'ера: пяцічасткавая "Серэнада" Віктара Капыцько. Ён, як зазвычай, "вымушаў" слухаць, прывабліваючы ўвагу публікі гульнёй фактур, тэмбраў, рытмаў, тэмпаў. Ідэйны цэнтр вызначыць было няцяжка. У чацвёртым раздзеле пад назваю "Сон" да інструментальнага ансамбля далучыліся галасы чытальнікаў. Мужчына і жанчына пачыналі дэкламаваць вершы. Па-польску. Радкі нібы перакрыжоўваліся ў паветры, перакрэсліваючы сэнс слоў, узмацняючы фанетычны эфект, ператвараючы яго ў музычную фарбу. Потым аркестравы ансамбль акрэсліваў вобраз харала-шэсця. І артысты ўзнаўлялі чытанне. Але мужчынскі голас ужо нібыта ўтвараў фон, і, заглушаючы польскія словы, усё больш выразным рабілася жаночае маўленне: **яна** чытала па-беларуску! Зусім паводле песні Леаніда Захлеўнага — Пятра Ліпая: "Адама чую голас польскі з тугою шчырай беларускай"...

Удзячныя воплескі адрасаваліся ў той вечар многім. Названым ужо раней і тым, чые імёны адразу ж успадаюць на думку: перакладчыкі Уладзімір Мархель, Хведар Жычка, Яўген Міклашэўскі; вакалісты Таццяна Пятрова, Таццяна Цыбульская, Нагіма Галеева, Леся Лют, Аляксандр Аўраменка, Алег Гардынец, Віктар Скорабагатаў; канцэртмайстар Ганна Каржанеўская; скрыпач Вячаслаў Зяленін, у выкананні якога гучала "Песня без слоў" Міхала Ельскага, прысвечаная памяці Адама Міцкевіча...

### НЕРАЗГАДАНЫ ГОРСКІ






Тое, што звязана з імем Канстанціна Антонія Горскага, распаляе цікавасць не толькі гісторыкаў музычнай культуры. Само ягонае імя, здаецца, і раней не было схаванае ад нас. Кожны мог узяць, напрыклад, найноўшы музычны энцыклапедычны слоўнік і даведацца, што гэта быў рускі скрыпач, кампазітар, педагог, паводле нацыянальнасці паляк. (Дзіўна, канечне: дзеля чаго вызначаны "этнічныя карані" менавіта тут, а не, скажам, у артыкулах пра Хачатурана або пра Мендэльсона?..). Аўтар біяграфічнага нарыса, выдадзенага ў Варшаве і прывезенага ў Мінск сучасным беларускім кампазітарам Я. Паплаўскім, зазначае іншае. А менавіта — што Горскі нарадзіўся ў Лідзе, зямлі Віленскай, паходзіў са знанай крэсавай шляхты; што ў букеце ягонай творчасці багата польскіх кветак; што ўсё жыццё сваё служыў ён польскай ідэі...

Вучыўся ў Вільні, у Варшаве, у Пецярбурзе. Меў знаных педагогаў: А. Концкага, Л. Аўэра, М. Рымскага-Корсакава. Працаваў у Пензе, Саратаве, Тыфлісе, Харкаве: педагог, аркестравы музыкант, скрыпач-саліст, дырыжор. Падтрымліваў сяброўскія і творчыя адносіны з М. Іпалітавым-Іванавым, П. Чайкоўскім (вядомы факт выканання яго Скрыпічнага канцэрта Горскім — пад кіраўніцтвам аўтара). Заснаваў у Расіі "хор польскі ды касцельны". У Струнны квартэт імя К. Горскага, арганізаваны па ініцыятыве харкаўскіх музыкантаў-чэхаў, быў запрошаны граць за першым пультам. Акалічнасці сусветнай вайны і рэвалюцыя абумовілі ад'езд Канстанціна Антонія ў Польшчу, дзе яму не адразу ўдалося знайсці здавальняючую працу...

Яго зямны шлях скончыўся ў Познані, у 1924 г. Яго жыццё ў музыцы, выдае на тое, набывае свежы імпульс — дзякуючы актыўнасці беларускіх энтузіястаў. Яны не дыскутуюць наконт таго, лічыць Горскага "рускім музыкантам, палякам паводле нацыянальнасці" або "польскім музыкантам, які доўгі час працаваў у Расіі". Яны проста нагадваюць, што гэты музыкант, вымушаны фармавацца сталецъ, існаваць "між двух агнёў", — **наш зямляк.** Нарадзіўся "крэсавы шляхціц" у беларускім горадзе Лідзе, вучыўся ў філалагічнай гімназіі ў Вільні. Добра ведаў паэтычную творчасць У. Сыракомлі, якая была для яго крыніцай натхнення ў вакальнай лірыцы і ў нейкім сэнсе — пры выбары сюжэта для оперы "Маргер" (з гісторыі гераічных часоў ВКЛ).

Так што невыпадкова ўжо некалькі гадоў у Лідзе праводзіцца конкурс юных выканаўцаў імя К. Горскага. Невыпадкова намаганнямі Я. Паплаўскага, колішняга дырэктара "БК", ксеракопія нотадруку оперы "Маргер" апынулася ў Мінску. Невыпадкова творчасцю Горскага зацікавіўся наш вядомы скрыпач і гісторык музыкі А. Капілаў, які прапанаваў анатацыйны матэрыял да фестывальнага, першага на Беларусі, канцэрта з вакальнай спадчыны кампазітара.

Шукаць разгадку гэтага align рознабаковага таленту і ягонага, пэўна ж, неадназначнага светапогляду — справа для апантаных. І, магчыма, сёлета пра Горскага яны будуць згадваць часцей, бо ў чэрвені з дня яго нараджэння спаўняецца 140 гадоў.

А што да самой музыкі — дзякуючы таму канцэрту мы адкрылі для сябе кампазітара сапраўды адметнага. І самі выканаўцы, відаць, захапіліся гэтым адкрыццём, бо натхнёна знаёмілі публіку са светам новых рамантычных вобразаў.

І такі нечакана гарэзлівы, разняволены быў Р. Палішчук ("На Куявах"), і такая грацыёзная ў "славянскім міноры" Л. Лют ("Выйду, пайду я..."), і такая спакуслівая ў абліччы гэткай... нібыта жарсці, ахінутай аксамітам, Н. Галеева ("Сутонне")! Можна дадаць традыцыйнае: "і г. д."

Рытмы мазуркі ды куявяка; "чайкоўска-рахманінаўская" імклівасць фартэпіяннай фактуры; паслядоўнасці маляўнічых аскомістых акордаў, зіхоткія ланцужкі секвенцый (не без уплыву гарманічнай мовы Рымскага-Корсакава); па-руску распеўная мелодыка; ні з чым не параўнаная, як тутэйшы акцэнт, меланхалічная інтанацыя...

А "Salutationa la sainte vierge" ды "Salve Regina" на лацінскія тэксты зрабілі эфект шчырай малітвы! Можна было ўявіць, як загучалі б гэтыя сапраўдныя шэдэўры ў атачэнні аркестра.

Распаліў "сімфанічнае ўяўленне" паказ урыўкаў з оперы "Маргер". (Лібрэта В. В. Вальгера паводле "Вешчага сну" У. Сыракомлі). У падрыхтаваных да канцэрта чатырох фрагментах паўстаюць вобразы палкаводца Лютаса, "правай рукі" вялікага князя Маргера, а таксама палоннага тэўтонскага рыцара Рансдорфа і закаханай ў яго, ворага, Эгле — дачкі Маргера. Праз стасункі прыгожых, душэўна цэласных людзей раскрываецца ідэя патрыятызму, міралюбства, чалавечнасці...

Прыадчыніўшы акенца ў творчы свет К. Горскага, чыннікі праграмы паруліліся пра арганічнасць успрымання слова, акрыленага музыкай. Тэксты оперных фрагментаў, рамансаў, песень (М. Канапніцкая, З. Дэмбіцкі ды невядомы аўтар, якім, на думку знаўцаў, мог быць сам кампазітар), пераствaрыў па-беларуску Васіль Сёмуха, "Доля" на верш У. Сыракомлі прагучала ў Купалавым перакладзе. Апроч ужо названых, у канцэрце ўдзельнічалі салісты Н.Бундзелева, Т. Варапай, А. Аўраменка, Т. Цыбульская, канцэртмайстар Г. Каржанеўская ды скрыпач В. Зяленін.

### І ПАЧУЛІСЯ ДАЎНІЯ СПЕВЫ...

Менавіта праз дзейнасць "БК" увайшла ў наш культурны досвед постаць Восіпа Казлоўскага — педагога, які выхаваў кампазітара М. Кл. Агінскага; творцы, чыя разнастайная спадчына непадзельная паміж мастацкімі амбіцыямі Беларусі, Польшчы, Расіі; наватара, у кампазітарскіх пошуках якога пазначаліся, прынамсі, вытокі беларускага музычнага рамантызму.

Працягам знаёмства з творчасцю гэтага знанага земляка (яму, дарэчы, прысвечана ўжо і навукова-папулярнае выданне "БК" — нарыс Вольгі Дадзіёмавай) сталася 1-я частка заключнага фестывальнага канцэрта. Падрыхтавалі яе салісты-спевакі В. Скорабагатаў, Т. Пятрова, Л. Лют, Р. Палішчук, кларнетыст Г. Забара, віяланчэлістка Я. Сяргей, піяністы Г. Каржанеўская ды А.Крымер.

Інструментальныя фрагменты з музыкі да трагедыі У. Озерава "Фінгал" нагадалі пра філарманічную прэм'еру гэтага грандыёзна-

га твора ў адным з першых фестываляў "Адраджэнне беларускай капэлы". "Benedictuc" з Рэквіема — пра поўны, але пакуль яшчэ камерны варыянт нядаўняга ўвасаблення манументальнага вакальна-сімфанічнага культавага палатна: Рэквіем быў выкананы падчас фестывалю "Музы Нясвіжа" хорам і аркестрам "Sonorus" пад кіраўніцтвам А. Шута... Гучалі таксама вытанчаная рамансавая лірыка і фрагмент са святочнай кантаты "Te Deum laudamus" — неардынарнага твора, у якім спалучыліся рэлігійнасць і свецкасць, рысы праваслаўных і каталіцкіх кананічных жанраў, традыцыі класіцызму і "першыя ластаўкі" рамантычнага стылю... Прыгожая музыка!

Урэшце, тым "ластаўкам" адказаў і голас нашага новага, "рацыянальнага" рамантызму. Прэм'ера, якая завяршыла фестываль, успрымалася як сімвал пераемнасці еўрапейскіх традыцый, захаваных у "геннай памяці" айчыны; як знак добрай жыццёвай сілы ды перспектыўнасці асветніцкіх і творчых тэндэнцый беларускага музычнага адраджэння на парозе новай эры.

З папярэдніх нашых публікацый чытач сёетое пра гэтую прэм'еру ведае. Кантата "Спевы даўнейшых ліцвінаў", з падназваю "Хроніка мінуласці", створана Вячаславам Кузняцовым паводле гістарычных баладаў Яна Чачота. Лібрэта і пераклад вершаў з польскай мовы Уладзіміра Мархеля; ягоны ж каментар да праграмы грунтуецца на цікавых фактах. Аказваецца, менавіта ў лісце да Адама Міцкевіча падзяліўся Чачот сваім намерам "паспрабаваць пісаць пра Вітаўта, Альгерда, Кейстута..." І калі праз два дзесяткі гадоў, апынуўшыся ў Шчорсах, пачаў працаваць у бібліятэцы графа Храптовіча, якой у свой час карыстаўся і Міцкевіч, Ян Чачот змог ажыццявіць задуманае. З 55 вершаў, аб'яднаных у цыкл "Спевы даўнейшых ліцвінаў", для кантаты было абрана 10 твораў, з якіх склалася адмысловая хроніка прыкметных падзей нашай гісторыі.

Кампазітар, захоплены працай перакладчыка, уявіў сабе і вобраз далёкага часу — "як агромністы векавы валун на лясной паляне", і гукавое аблічча той эпохі. З мноства выразных сродкаў, якія мае сучасны творца, Вячаслаў Кузняцоў абраў... мужчынскі хор і класічныя ўдарныя інструменты — як найбольш трапны, на ягоную думку, гукавы адпаведнік таму часаваму зрэзу, дзе жылі нашыя продкі.

Намер аўтара важна ведаць, каб зразумець творчы вынік і не наракаць на тое, што 10 балад — гэта, мауляў, зашмат, што для сучаснага ўспрымання хапіла б і шасці, што драматургія ад купюраў толькі выйграла б, страціўшы манатоннасць, набыўшы дынамізм...

Можа, яно і так... Але ці адчулі б тады слухачы напоўніцу "вяртанне да першагуку" даўніх часоў, да архаічных пластоў амаль забытай крэўнай гісторыі, у якіх дзівосна пераблыталіся-спрасаваліся міфы і гераічная быль, рэальныя драмы і легенды?

Для даследчыкаў ёсць свежы ўзор аўтарскага імкнення дасягнуць мажлівай драматургічнай разнастайнасці, пазбегнуць манахромнасці — здавалася б, непазбежнай у межах вызначанага жанру "хронікі", абранага стылю і адпаведных сродкаў. Дзякуючы вынаходліваму ўвасабленню канкрэтнай праграмнай асновы кантата правакуе фантазію слухача на дзёрзкі палёт.

"Эрдзівіл Мантвілавіч", "Магіла Міндоўга", "Тураў рог Гедыміна", "Бірута, Кейстутава жонка", "Разлад Вітаўта з Ягайлам"... Кожная частка падаецца, не раўнуючы, летапіснай кінанавелай, у кадрах якой — знакі паганскай свядомасці даўніх ліцвінаў, раннехрысціянскае маленне, курганы продкаў, краявіды Наваградка, ваярскія паходы, таямніцы старажытных муроў...

Колькі абазнанасці ды ўмельства ў працы кампазітара! Супастаўленне хору акапэльнага і ў суправаджэнні ўдарных, унісона і ансамблевага шматгалосся, сола і туцці, маніпуляванне санорнымі мажлівасцямі голасу ды інструментальнымі тэмбрамі, дынамічнымі адценнямі ды штрыхамі... Тут пачуеш і складаную поліфанію, і ладавую архаіку, і стылізаваную жаўнерскую песню, і працяты найтанчэйшай інтанацыйнай нітачкай нашага часу раманс...

А прагучалі "Спевы даўнейшых ліцвінаў" у выкананні Камернага мужчынскага хору "Унія" пад кіраўніцтвам Кірылы Насаева, Ансамбля ўдарных інструментаў сімфанічнага аркестра Вялікага тэатра Беларусі ды салістаў.

Звярніце ўвагу, як гожа пракаментаваў В. Кузняцоў сваю працу над новым творам: "І мы, і нашы продкі — бясконцы, непарыўны ланцуг жыцця, і нас раздзяляе толькі час, гэты неадступны вобраз вечнасці".

Як наогул усцешна, што вакол фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы" гуртуюцца людзі таленавітыя, адукаваныя і невыпадковыя. Для якіх зразумелы і дарагі падзвіжніцкі чын адраджэнства!

Адраджаць — значыць для іх ведаць, верыць, марыць, рабіць адкрыцці. І самаахвярна любіць тое, чым займаешся.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках: заслужаны артыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Віктар СКОРАБАГАТАЎ; мастацкі кіраўнік Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" Уладзімір БАЙДАЎ.*

*Фота Віт. АМІНАВА і А. МАЦЮША*

ВІНШУЕМ!

# Цяжкая ноша рэжысёрская

## Рыгору БАРАВІКУ — 60

Ён выступае ў трох найбольш відавочных і вядомых іпастасях — як рэжысёр, тэатразнаўца і педагог. Але ці не найбольш энергіі душы і сэрца за шмат гадоў дзейнасці ім аддадзена яе вялікасці рэжысуры, сцэне: пастаўлена каля 80-ці спектакляў. Разважлівы, памяркоўны, вонкава спакойны, ён можа сваімі сцэнічнымі вобразамі ўладна захапіць глядацкую ўвагу і "ўзарваць" вялізную залу. Ягоны спектакль "Сабачае сэрца" (па М. Булгакаву) у Кіеве, у тэатры, зала якога разлічана амаль на тысячу месцаў, святкаваў ажно сорак аншлагаў. (Там жа, у тэатры драмы і камедыі, ім пастаўлены "Эшалон" Рошчына, "Двое на арэлях" Гібсана ды іншыя.) А пасля ажыццёўленых "Трох сёстраў" (па А. Чэхаву) на сцэне Маладзёжнага тэатра "Лучафэрул" у Кішынёве паэт і дэпутат Андрэй Стрымбану і тагачасны міністр культуры Іон Унгурану настойліва запрашалі яго, нашага беларускага майстра, на пастаяннае месца працы ў сталіцу Малдовы. Але ён не пагадзіўся, бо заўсёды існавала прыцягненне Бацькаўшчыны, бо думалася, дбалася пра адраджэнне нацыянальнай свядомасці і чалавечай годнасці беларуса. Гаворка ідзе пра Рыгора Іванавіча Баравіка, вядомага рэжысёра, кандыдата мастацтвазнаўства, дацэнта кафедры тэатральнай творчасці Беларускага універсітэта культуры.

Яшчэ з гадоў студэнцкіх Рыгор Баравік няблага арыентаваўся ў духоўнай спадчыне свайго народа, у сучаснай літаратуры. Не раз яму даводзілася чуць меркаванні пра даволі сціплыя мастацкія і філасафічныя магчымасці беларускай драматургічнай класікі, але ён ніколі не падзяляў такіх пазіцый, лёгка і пераканаўча абвяргаў "крытыканаў", умела выкарыстоўваючы побач з сусветна вядомымі творамі і творы беларускіх аўтараў. Першыя рэжысёрскія спробы рабіў у тэатральна-мастацкім інстытуце, тады разам з акцёрскай сваёй групаю паставіў спектакль-пантаміму "Боская камедыя" (па Дантэ) і "Прымакі" (па Купалу). Потым, калі стажыраваўся ў Маскоўскім мастацкім акадэмічным тэатры, паставіў там (разам з У. Салюком) спектакль "Апошні шанц" (па Быкаву).

Самастойную працоўную дзейнасць распачынаў у Брэсцкім абласным драмтэатры, дзе рэалізаваў задумкі, ідэі, назапашаныя падчас вучобы. Даў сцэнічнае жыццё "Звычайнай гісторыі" Ганчарова, "Варшаўскай мелодыі" Зорына, "Старым сябрам" Малюгіна. Але смак асаблівага поспеху прынёс яму "Трыбунал" Макаёнка. Баравіка заўважылі, запрасілі ў Мінск — на пасаду галоўнага рэжысёра ТЮГа.

Тут у галоўнага рэжысёра з'яўляецца магчымасць прымаць таленавітую моладзь, захоўваючы і ранейшы склад трупы. І ён цалкам выкарыстоўвае цудоўную магчымасць, за два гады запрасіў 20 маладых акцёраў, сярод якіх былі Сяргей Журавель, Аляксей Дудараў, Анатоль Жук, Уладзімір Емяльянаў, Валерыя Ліхадзей, Васіль Нікіценка, Аляксандр Сіневіч, Алена Хрысціч, Аляксандр Шараў. Ім той час, вядома ж, запомніўся, асабліва Сяргею Жураўлю, тадышняму студэнту, якому адразу знайшліся складаныя і каларытныя ролі.

Ішлі застойныя 70-я гады. Камуністычная ідэалогія перажывала востры крызіс, стала ясна, што камунізм — міф, утопія. Прыдумваліся новыя догмы, да паняцця сацыялізм падводзіліся новыя эпітэты. Таталітарная сістэма дэманстравала ўзмоцненую ідэалагічную пільнасць... У тых умовах праз густую сетку панегірыкаў, дыфірамбаў, у якіх апявалася сістэма і яе верныя слугі, удавалася прабівацца не многім мастакам. І ў тых умовах шукаў праўду ў мастацтве Рыгор Баравік.

— Для мяне, — кажа ён, — былі і застаюцца асабліва значнымі тыя спектаклі, у якіх узнімаюцца вострыя праблемы сучаснасці. Успомнім У. І. Немiровiча-Данчанку: "Тэатр, як і ўсякі вялікі мастак, павінен адгукацца на найвысакародныя плыні сучаснага жыцця. Інакш ён стане мёртвай установаю"...

Сапраўдны тэатр, кажучы словамі Ф. Шылера, "карае тысячы заган, якія суд пакідае без пакарання,і ўхваляе тысячы дабрачыннасцей, якія замоўчвае закон..." — словам, з'яўляецца бескампрамісным маральным судом. Рысы такога тэатра ўсё больш выразна набываў тады Тэатр юнага гледача. Але праўда, якая перавышала дазволеныя зверху межы, асуджалася, а негатыўныя з'явы, паказаныя на сцэне, успрымаліся ўладамі як закіды ў іх адрас, таму пад абстрэл крытыкі траплялі спектаклі "Чатыры кроплі" (па Розаву), "Надзея" (па п'есе Ганны Радзівонавай) — пра таленавітую юную мастачку Надзю Рушаву, якую ніхто не хацеў зразумець, і спектакль У. Салюка "Драма праз лірыку" (па п'есе Георгія Палонскага). Рэпертуар ТЮГа як адмоўны "скланялі" і ў "Камунісце Беларусі", і нават на адным з пленумаў ЦК КПБ. Затое ўсе гэтыя спектаклі вельмі цёпла прымала публіка, добрыя водгукі яны атрымлівалі на традыцыйных міжнародных прыбалтыйскіх фестывалях.

Пайшлі васьмідзесятыя гады. Нацыянальная культура "зацяжарыла" яшчэ адным тэатрам — маладзёжным. Яго нараджэнне зацягвалася. Пад канец жніўня 1984 года нарэшце адбылося рашэнне Савета Міністраў, а неўзабаве выйшаў загад Міністэрства культуры Беларусі аб адкрыцці ў Мінску Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра. У кастрычніку 1985 года галоўным рэжысёрам яго прызначылі Р. Баравіка.

Клопатная, складаная гэта з'ява — новы тэатр, калі ўсё пачынаецца, як кажуць, з нуля. Галоўнае пытанне: з каго і як фармаваць трупу? Балазе, Рыгор Іванавіч меў ужо вопыт работы з акцёрамі, з калектывам, да таго ж паспеў займець і вопыт выкладчыцкі: у Мінскім інстытуце культуры выкладаў рэжысуру і акцёрскае майстэрства. Вырашыў набіраць акцёраў на конкурснай аснове. Стварыў конкурсную камісію, у склад якой увайшлі аўтарытэтныя асобы: доктар А. Сабалеўскі, народная артыстка Беларусі М. Захарэвіч, кандыдат мастацтвазнаўства Т. Гаробчанка ды іншыя.

На конкурсных праглядах аказалася за 50 беларускіх акцёраў, нямала выпускнікоў тэатральных вучэльняў імя Б. Шчукіна і імя М. Шчэпкіна, нашага тэатральна-мастацкага інстытута, іншых навучальных устаноў. У выніку конкурснага адбору асновай тэатральнай трупы стала моладзь, добра вядомая па рабоце ў іншых беларускіх тэатрах. У якасці рэжысёра спрабаваў свае сілы В. Катавіцкі, прыняты на стаўку акцёра. М. Дударава стала рэпетытарам па пластыцы.

Уся дзейнасць тэатра, яго ўнутранае жыццё будаваліся на студыйнай аснове; прынцып студыйнасці заключаўся і ў падтрымцы адзін аднаго, і ў калектыўнасці тэатральнай творчасці, і ў пошуку свайго стылю. Тут штодня праводзіўся пластычны і моўны трэнаж, актыўна распрацоўвалася знешняя і ўнутраная тэхніка акцёраў, рэгулярна праводзіліся заняткі па пластыцы, танцах, акрабатыцы, пантаміме, а яшчэ — дыскусіі за "круглым сталом". Вяліся ў калектыве размовы аб тэатральнай этыцы, праблемах творчасці, разбіраліся спектаклі, а таксама п'есы беларускіх драматургаў, часам у іх прысутнасці. Вёўся дзённік: што здзейснена, а што не. Дзейнічаў свой статут. Па сутнасці гэта было панаванне творчага духу!

30 сакавіка 1986 года адбылася прэм'ера першага спектакля "Гэтыя незразумелыя старыя людзі" (па кнізе С. Алексіевіч "У вайны не жаночы твар"). Важны штрых: ва ўмовах нацыянальнага нігілізму кіраўнік узяў для пастаноўкі твор айчыннай літаратуры. Калі тэатр — сапраўдны храм мастацтва, ён



павінен узвышаць душы людзей. У гэтым сэнсе ідэя рэжысёра — знайсці паразуменне паміж пакаленнямі, выказаная ім у спектаклі, была ў поўным сэнсе гуманістычнаю. Але ж спектакль, як і кніга С. Алексіевіч, апякаў аголенай праўдаю, што, як вядома, далёка не ўсім падабаецца... Не ўсім, напрыклад, ветэранам прыйшлася даспадобы праўда пра жаночую прастытуцыю на вайне. Пачаліся разборкі "наверсе". Быў справакаваны раскол у творчым калектыве. А тут яшчэ і новы спектакль Р. Баравіка "Рамонт" (па п'есе М. Рошчына), з яго непрыхаванаю сатырай на высокія інстанцыі, што дураць людзей, моцна псаваў нервы начальству... Усё скончылася тым, што галоўны рэжысёр дзеля захавання калектыву і самога тэатра мусіў пакінуць яго.

Цяпер з яго прац па сутнасці толькі "Дагарэла свечачка" (па п'есе А. Петрашкевіча) паказваецца на малой сцэне Купалаўскага тэатра і ў Беларускім універсітэце культуры — сіламі студэнцкага тэатра, якім ён кіруе. Спектакль гэты — самы балючы ў творчасці Р. Баравіка.

За сваю тэатральную і педагагічную дзейнасць Рыгор Іванавіч выхаваў нямала спецыялістаў (лічба даходзіць да круглае адзнакі — 100), якія працуюць акцёрамі ў прафесійных тэатрах, рэжысёрамі на тэлебачанні і ў аматарскіх калектывах, кіраўнікамі ўстаноў культуры і выкладчыкамі ў вучэльнях мастацтва. Вось і нядаўна дзякуючы плённай працы Р. Баравіка трапілі ў Маладзёжны тэатр Беларусі з чацвёртага курса універсітэта культуры студэнты Джульета Казакевіч, Саша Тлусты, Ілля Чарапко, прытым Джульеце Казакевіч дасталася адна з самых адметных роляў у спектаклі "Дзядзька Ваня" (па А. Чэхаву); яе калегі, Саша ды Ілля, спрабуюць сваё майстэрства ў "Прымаках" — спектаклі В. Катавіцкага па аднайменным сцэнічным жарце Янкі Купалы.

Мне ў рукі трапіў шосты нумар "Тэатральнай творчасці" за 1997 год, а ў ім — артыкул Я. Жуковіч "Калі святлом напоўнена душа..." У ім — ад загалоўка і да апошняга сказа — захапленне вучобай у таленавітых рэжысёраў, і ў прыватнасці — у Р. Баравіка, мастацкага кіраўніка акцёрскага курса. Студэнтка піша, што "выхаванню сапраўднага акцёра, акцёра-асобы, духоўна багатага, шчырага, апантанага, здатнага думаць на сцэне, Рыгор Іванавіч прысвячае ўвесь свой час..."

Да Рыгора Баравіка прыйшоў юбілейны год. Чалавек з такой нагоды міжволі азіраецца на пройдзены шлях. Зроблена нямала і, галоўнае, якасна. Хочацца верыць: многае яшчэ і наперадзе, бо чалавек, які працуе з моладдзю, ніколі не старэе душой.

**Я. СКАРАХОД**

# "Мастацтва", N 1

У. Конан выступае з артыкулам "Казімір Малевіч: філасофія і эстэтыка мадэрнізму". Е. Бондарава ("Кінакрытык і сцэнарыст") расказвае пра К. Губарэвіча, а Л. Турбіна ("Патаемныя спружыны жыцця") — пра А. Папову. Тут жа Т. Катовіч рэцэнзуе спектакль па яе п'есе "Дзень карабля" на сцэне тэатра імя Я. Коласа ("Блукаючы ў драматычным часе"). Пастаноўка балета І. Стравінскага "Жар-птушка" ў тэатры балета ў полі зроку М. Каралёвай — "Водбліск "полымя незгасальнага". А Н. Фурман ("Бясконцасць Вясны") аналізуе балет І. Стравінскага "Вясна свяшчэнная" ў кантэксце папярэдніх сцэнічных увасабленняў. Т. Мушынская ("Творца існуе як медыум...") гутарыць з маладым беларускім кампазітарам А. Хадоскам. Сярод іншых матэрыялаў — артыкулы В. Глінніка і У. Пярвышына "Нерэалізаваны праект полацкага землямера", П. Васілеўскага "Дар — не падарунак", А. Чарняўскай "Майстэрства ў вобразах разлажу", А. Шныпаркова "Пад яркім сонцам і абложнымі туманамі", В. Лабачэўскай "Любоніцкія карункі", Г. Багданавай "Лебедзі — гэта на шчасце", Ю. Барысевіча "Сусветнае павуцінне", Г. Барвенавай "У сховах забытага гардэроба", В. Скорабагатава "Ісціна яснее суайчыннікам", Г. Нячаевай "Памоляцца за нас і продкі...".





## Лёс — гісторыя

АНАТОЛЮ ГРЫЦКЕВІЧУ — 70



**31 студзеня гэтага года спаўняецца 70 гадоў Анатолю Пятровічу Грыцкевічу — аднаму з самых вядомых беларускіх гісторыкаў, які амаль ужо 25 гадоў працуе ў Беларускім універсітэце культуры, загадвае кафедрай гісторыі Беларусі і музеязнаўства.**

**Нарадзіўся ён у Мінску. Вывучаў медыцыну і замежныя мовы, скончыў гістарычны факультэт БДУ (у 1958 г.). У 1964 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю ў БДУ "Сацыяльна-эканамічнае развіццё прыватнаўладальніцкага горада Беларусі ў XVI—XVIII стст. (на матэрыяле Слуцка)", а праз некаторы час — і доктарскую, якую давялося абараняць у Вільні. У 1976 г. стаў дацэнтам, у 1987 г. — прафесарам.**

**Да многіх прац Анатоля Пятровіча стасуецца слова "ўпершыню". Упершыню ў беларускай гістарыяграфіі ён пачаў пісаць пра абарончыя збудаванні старажытных гарадоў, упершыню ўвёў вызначэнне Рэчы Паспалітай як федэрацыі дзвюх раўнапраўных дзяржаў — Польшчы і Вялікага княства Літоўскага. Адным з першых пачаў пісаць спецыяльныя працы па палітычнай і вайсковай гісторыі Беларусі ў XIV—XVIII стст. (пра Грунвальд і Оршу).**

**Кола навуковых інтарэсаў Анатоля Грыцкевіча выходзіць за межы феадальнага перыяду ў нашай гісторыі — да часоў грамадзянскай вайны: Слуцкае паўстанне 1920 года, паход генерала С. Булак-Балаховіча на Палессе, беларуска-літоўскія ўзаемадачыненні 1918—1920 гг., утварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі. У яго працах даследавалася таксама гісторыя беларускай культуры, генеалогія беларускіх і літоўскіх магнацкіх і шляхецкіх родаў, гісторыя рэлігіі і цэркваў на Беларусі.**

**Анатоль Грыцкевіч — аўтар шасці манаграфій, вялікага шэрагу навуковых артыкулаў (болей 800), асноўная частка якіх знайшла адлюстраванне ў бібліяграфічным паказальніку з серыі "Дзеячы навукі і культуры". Своеасаблівым падарункам да юбілею стане дапаўненне названай бібліяграфіі новымі працамі вучонага за 1994—1998 гг.**

*Урачыстае віншаванне Анатоля Пятровіча Грыцкевіча з нагоды яго юбілею ў Беларускім універсітэце культуры адбудзецца 16 лютага а 10-й гадзіне ў 114 аўдыторыі. Даведкі па тэлефоне 222-83-27.*

**Ларыса ДОЎНАР**

## Упершыню — дзіцячы

**У Беларусі зарэгістраваны 32 культурна-асветныя аб'яднанні 17-ці дыяспар. Двойчы ў Гродне адбываліся фестывалі нацыянальных культур, на якія з'язджаліся прадстаўнікі польскай, татарскай, яўрэйскай, цыганскай і іншых супольнасцей Беларусі. У двухтысячным годзе пройдзе III Усебеларускі фестываль, і ён абяцае быць яшчэ больш святочным і каларытным: у ім прымуць удзел дзеці.**

**Ініцыятыва правядзення I Рэспубліканскага дзіцячага фестывалю належыць Нацыянальнаму цэнтру творчасці дзяцей і моладзі. Супрацоўнікі цэнтра распрацавалі палажэнне, у якім пазначаны арганізатары, час, месца, мэты фестывалю і ўмовы ўдзелу ў ім. Сярод яго асноўных задач — захаванне культурнай спадчыны супольнасцей Беларусі, развіццё самабытных нацыянальных культур, эстэтычнае выхаванне дзяцей.**

**У першым паседжанні аргкамітэта ўдзельнічалі А. Бабіцкі (Міністэрства культуры), У. Мантвідас (Цэнтр нацыянальных культур), а таксама супрацоўнікі цэнтра Р. Кашолкіна, Я. Бельнік і іншыя.**

**У аглядзе прымуць удзел вакальныя, харавыя, харэаграфічныя, інструментальныя ансамблі і асобныя выканаўцы. Будуць разгорнуты выставы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Плануецца запрасіць гасцей з суседніх краін.**

**Занальныя мерапрыемствы пройдуць вясной гэтага года, а заключныя — 29—30 мая.**

**Г. К.**

УГОДКІ

# "У сэрцы абудзіў... надзею"

ДА 130-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Адама ГУРЫНОВІЧА

Жыццё яго кароткае і прамільгнула нібы тая зічка на небасхіле, а след застаўся вялікі і, што важна, з гадамі не слабее, а становіцца яшчэ больш выразным. І гэта апраўдана. Адам Гурыновіч належыць да тых, хто не толькі заклікаў да свабоды ў сваіх творах, а і змагаўся за яе. Тым большая сёння наша ўдзячнасць такім людзям, якія дбалі пра Беларусь яшчэ тады, калі і думаць пра яе было небяспечна. А ідэалам А. Гурыновіч бачыў Францішка Багушэвіча, якому і прысвяціў адзін са сваіх вершаў:

***Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею,***
***За тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею,***
***Што між братоў нашых***
***знаходзяцца людзі***
***З кахаючым сэрцам і балячай грудзяй.***
***Дзякуй табе, браце, і за тыя словы,***
***Што ўспомнілі звукі нашай роднай мовы,***
***Бяры, браце, дудку, наладзь і жалейку,***
***Няхай песнь смутная ідзе у капейку***
***І будзіць у сэрцах мысль аб лепшай долі,***
***Якой мы не зналі дагэтуль ніколі.***

"У сэрцы збудзіў... надзею" многім і сам А. Гурыновіч. А нарадзіўся будучы паэт-рэвалюцыянер 25 студзеня 1869 года ў фальварку Кавалькі на Маладзечаншчыне. У 1879—1886 гадах вучыўся ў Віленскім рэальным вучылішчы. Потым паступіў у Пецярбургскі тэхналагічны інстытут, дзе ўвайшоў у падпольны "Гурток моладзі польска-літоўскай, беларускай і малярускай". Пэўны час нават узначальваў яго. Паліцыя напала на след маладых рэвалюцыянераў. А. Гурыновіча арыштавалі 16 чэрвеня 1893 года. Трапіў у Петрапаўлаўскую крэпасць, якую з-за жорсткасці ўмоў утрымання называлі ў народзе асабістай турмой дома Раманавых. Там А. Гурыновіч знаходзіўся амаль паўгода, але стан здароўя пагоршыўся, бо яшчэ ў снежні 1887 года захварэў на тыфус. Улады вырашылі адпусціць яго. А. Гурыновіча пад нагляд паліцыі ў адзін са спадчынных бацькавых фальваркаў, што знаходзіўся на Смаргоншчыне. А там урачы знайшлі яшчэ адну небяспечную хваробу — чорную воспу. 4 лютага 1894 года А. Гурыновіча не стала.

Дакладна не ўстаноўлена, калі ўпершыню ён узяўся за пяро, але ў 1893 годзе надрукаваў у адным з выданняў Кракаўскай акадэміі навук этнаграфічныя матэрыялы, якія запісаў у Вішнеўскай воласці Свянцянскага павета. Пісаў А. Гурыновіч на беларускай, рускай і польскай мовах. Асноўнае ў яго творчай спадчыне — беларускамоўныя вершы. Яны ўпершыню прыйшлі да чытача толькі ў 1921 годзе, а ў 1956 годзе — яшчэ некалькі, а таксама пераклады і асобныя рускамоўныя творы.

Адам Гурыновіч выступаў у абарону простага народа. І хоць сам быў шляхецкага паходжання (продкі па бацькавай лініі мелі прозвішча Гурын, па нацыянальнасці з'яўляліся татарамі і паходзілі з Апавіі), абураўся прыгнятальнікамі. Па складзе свайго таленту быў публіцыстам, але ў яго спадчыне ёсць і лірычныя вершы, як, для прыкладу, "Бор", у якім адчувальна блізкасць з "Лесам" М. Кальцова. А. Гурыновіча можна аднесці і да аднаго з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры. Ім напісаны вершы для маленькіх "Каток", "Рыбак".

Паколькі пры жыцці творы А. Гурыновіча не друкаваліся, нельга гаварыць аб нейкім канкрэтным уплыве іх на рост сацыяльнай і нацыянальнай свядомасці народа. Праўда, наконт гэтага слушнае меркаванне Алега Лойкі: "Але не выключана, што свае вершы паэт чытаў аднадумцам па рэвалюцыйнай барацьбе, рабочым, якіх агітаваў, сялянам. У такім выпадку, яны несумненна рабілі непасрэдны ўплыў на ідэйна-палітычны рост слухачоў, будзілі іх сацыяльную і нацыянальную свядомасць". Ды і каб жа хоць крыху больш пажыў. А між іншым, у раннюю смерць ён не верыў Як сведчыў Браніслаў Тарашкевіч са слоў паэтавай сястры Канстанцыі, А. Гурыновіч "яшчэ ў апошнія хвіліны свайго жыцця, маючы надзею перамагчы страшэнную хваробу, снаваў планы будучае працы на ніве роднага краю з думкаю будзіць і клікаць да жыцця мову і літаратуру беларускага народа".

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

# Не ад "Кніжнай педагогікі"...

Цяжка напісаць мастацкі твор, які б набыў доўгае жыццё, аднак не лягчэй стварыць і падручнік — свайго роду настольную кнігу не для аднаго пакалення дзяцей. Алесю Якімовічу гэта ўдалося. Яго кніга для чытання ў другім класе "Роднае слова" ўпершыню пабачыла свет у 1932 годзе, а пасля вытрымала каля 30 выданняў. Пішучы свае творы, і апрацоўваючы фальклор, і працуючы над падручнікам (разам з Е. Тародкінай склаў "Чытанку" для 2 класа, 1933), Алесь Іванавіч ішоў не ад так званай "кніжнай педагогікі", а непасрэдна ад самога жыцця, ад практыкі. А яшчэ нямала давала яму творчая вучоба ў вядомых пісьменнікаў, кантакты і гутаркі з імі. Прынамсі, сказваліся ўрокі Якуба Коласа. У аўтабіяграфіі А. Якімовіч прызнаваўся: "...Коласа я паважаў, як і ўсе мы, маладзейшыя. Я часта гаварыў з ім пра дзіцячы часопіс (маецца на ўвазе "Беларускі піянер" — **А. М.**), раіўся, ён прыносіў мне свае творы для дзяцей. У Коласа я вучыўся пісаць — проста, ясна, без мудрагельства".

Са сваім першым вершам А. Якімовіч выступіў у 1923 годзе ў часопісе "Маладняк" (нарадзіўся Алесь Іванавіч 17 студзеня 1904 года, памёр 15 студзеня 1979-га). Актыўна далучыўся і да работы самога літаратурнага згуртавання "Маладняк", а ў 1924 годзе, калі быў заснаваны піянерскі часопіс "Беларускі піянер" (цяперашняя "Бярозка"), А. Якімовіча прызначылі адказным сакратаром. А ў 1925 годзе амаль адначасова выйшлі ў А. Якімовіча дзве кніжкі — "Вершы" і зборнік апавяданняў для дзяцей "Гул бубна". Увогуле, працаваў вельмі плённа. Ва ўсіх адносінах. У 1930 годзе пасля заканчэння літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта некатры час сумяшчаў тры пасады: галоўны рэдактар часопіса "Іскры Ільіча", адказны сакратар часопіса "Асвета", выкладаў беларускую мову і літаратуру ў вячэрнім тэхнікуме вогнетрывалага будаўніцтва. А ў вайну настаўнічаў у Татарыі (Расія), быў адказным сакратаром раённай газеты ў Казахстане. У 1943 годзе скончыў курсы лейтэнантаў, у баях за Харкаў быў цяжка паранены, каля паўгода лячыўся. "Выйшаў са шпіталю, — як сам пісаў, — з абмежаванай годнасцю, і таму больш на фронт не трапіў". Займаўся рэдактарскай працай у Маскве, а з 1944 года да выхаду на пенсію ў 1960 працаваў старшым рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, рэдактарам часопіса "Бярозка", з'яўляўся літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Мастакоўская спадчына А. Якімовіча вельмі багатая — толькі арыгінальных кніг паэзіі, прозы ў яго больш за дваццаць. Акрамя таго, апрацаваў для дзяцей многія народныя казкі, якія выйшлі зборнікамі "Каток — залаты лабок", "Бацькаў дар", "З рога ўсяго многа", "Андрэй за ўсіх мудрэй". Шмат працаваў Алесь Іванавіч і ў галіне перакладу. Аднак сапраўдную вядомасць пісьменніку прынеслі аповесці "Адкуль ліха на свеце", "Канец сервітуту", "Кастусь Каліноўскі" і "Цяжкі год", якія склалі свайго роду тэтралогію. У 1974 годзе за першыя тры аповесці А. Якімовічу была прысвоена Дзяржаўная прэмія БССР.

У цэнтры аповесці "Адкуль ліха на свеце" — сям'я прыгонных сялян Валовічаў. Іх дзевяцігадовы сын Язэпка трапіў у панскі двор, куды яго аддаў злы цівун Дракула. У другім творы — Язэп Валовіч знаходзіцца ў атрадзе паўстанцаў. Зблізіўся з іх кіраўніком. У аповесці ёсць і іншыя літаратурныя персанажы — юнак Пятрок, дзядзька Максім, ляснік Саўка і іншыя. Поруч канкрэтныя гістарычныя асобы. Акрамя Каліноўскага — Валерый Урублеўскі, Зыгмунт Серакоўскі...

Пішучы сваю "галынаўскую хроніку" (Галынаўка — вёска, у якой жывуць галоўныя героі), А. Якімовіч прасочвае і лёс цэлага пакалення Валовічаў. Герой трэцяй аповесці — унук Язэпа падлетак Пятрусь. Петруся Валовіча чакаюць не менш суровыя выпрабаванні. Ён становіцца сведкам першай сусветнай вайны, лютаўскай і кастрычніцкай рэвалюцый. А ў аповесці "Цяжкі год" падзеі ўжо адбываюцца ў 1918 годзе.

Напісанае А. Якімовічам — гэта гісторыя беларускай дзіцячай літаратуры, але адначасова лепшыя яго творы вартыя пільнай увагі і сённяшніх юных чытачоў. Шкада толькі, што апошнім часам яны рэдка перавыдаюцца. Застаецца хіба звяртацца да трохтомніка, які пабачыў свет яшчэ ў 1978—1980 гадах.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

ПОШТА

# Верны сваёй сцяжыне

Яго імя ведаюць амаль усе жыхары Полацка, талент шануюць усе музейныя работнікі, палёт думкі — усе субяседнікі. З Уладзімірам Іванавічам Галебам можна быць бясконца, і ад гэтага — толькі ўзбагацішся.

Знакамітага рэстаўратара я сустрэў у будынку былой бібліятэкі імя Л. Талстога, што на вуліцы Леніна, 33. Бібліятэка даўно ўжо перастала існаваць — цяпер у ёй музей побыту пачатку XX стагоддзя Полацка "Прагулка па Ніжне-Пятроўскай". Дарэчы, і вуліца хутка прадстане перад гараджанамі і прыезджымі з ранейшым імем: Ніжне-Пакроўская. У музеі ўсе экспанаты — сведчанне эпохі. Як з рэальнасці — рабочы стол і начынне з дома стацкага саветніка Н. Ласоквіча, шклянкі і рэцэптурныя бланкі аптэкі Баярынблюма, мэбля XIX стагоддзя з чайнай заезджага дома Давіда Арлееўскага... І ўсё астатняе з прадстаўленага, што было знішчана на працягу трагічных падзей у Расіі, адноўлена рукамі майстра: менавіта ён памог аднавіць у музеі атмасферу мінулага.

Уладзімір Іванавіч не звяртае ўвагі на іншых, хто праяўляе да яго ўвагу: калі ён творыць, ён — адзін. Вярнуць доміку-музею не толькі выгляд, а і ўнутраную гістарычную праўдзівасць — у гэтым рэстаўратар бачыць сваю задачу. Таму было яшчэ больш прыемна глядзець, як бачанне майстра ператваралася ў рэальнасць.

Па словах захавальніцы музея Святланы Кузьміной, Уладзімір Галеба аказвае неацэнную паслугу не толькі Полацку, а і Беларусі, "рамантуючы" культурны пласт таго часу. Бо з ім уваскрашаюцца не толькі самасвядомасць народа, яго гісторыя, духоўнае багацце, але нават, няхай гэта не гучыць занадта прагматычна, — турызм. Цяпер сапраўды ёсць што паказаць прыезджым. А калі "капануць" яшчэ глыбей, дык той дамок на Ніжне-Пакроўскай — сведка падзей і больш ранніх стагоддзяў. У ім у 1705 годзе з 12 па 15 чэрвеня жыў Пётр I...

Уладзімір Іванавіч рэзкі ў выказваннях, але справядлівы:

— Бальшавікі гэтулькі знішчылі, што ўрон ужо ніхто не здолее падлічыць. Шкада, але ж гісторыю нават вялікія эканамісты не перапішуць...

Сапраўды, яе трэба памятаць. Каб памятаць, трэба ведаць. Каб ведаць — бачыць яе сведчанні. Іх рэстаўратар і аднаўляе (у большасці выпадкаў копіі) для ўсіх музеяў Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка ў метале, шкле, гліне. Прычым настолькі дакладна, што адрозніць ад рарытэта часам бывае проста немагчыма. Уладзімір Галеба з усмешкай прыгадаў, як аднойчы ў час выстаўкі "Адзін дзень горада Полацка" са стэлажоў, якія прадстаўлялі нумізматычныя рэліквіі, былі ўкрадзены... яго копіі манет.

Ці цяжкая ў рэстаўратара праца? Уладзімір Іванавіч у адказ паглядзеў на мяне з усмешкай. Потым пажартаваў:

— Я працую і ў запаведніку на паўстаўкі, іначай памёр бы з голаду.

Гэтая праблема ўжо выйшла за рамкі мастацтва. Здавалася б, антаганістычныя паняцці маюць агульную кропку судакранання. Багацце душы і галеча сумяшчальныя, але толькі калі адным з двух пагарджаюць.

— Я лічу, — разважае Уладзімір Галеба, — што чалавеку, які працуе, трэба плаціць столькі, каб ён мог пражыць, іначай у яго адбіваюць самае галоўнае — жаданне жыць і працаваць. Я існую толькі за кошт сваёй працы. Гліну ў мяне ніхто адабраць не здолее, ідэі — таксама. Час ідзе: жыве мая творчасць, жыву я.

Многія рысы ягонага характару вызначыла дзяцінства. Бацька быў у палоне ў немцаў, потым у лагеры ў Сібіры за тое, што пабываў у гітлераўскім пекле. Маці ў вайну працавала ў Германіі, усё перацярпела, выжыла... Пасля заканчэння Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута ён стаў на свой творчы шлях і не сыходзіць з яго.

— Я гатовы да таго, што мяне не зразумеюць і нават, магчыма, не прымуць, — падвёў рысу Уладзімір Іванавіч. — Але гэта — лёс мастака: думаць пра свой горад, тварыць для яго і ў ім паміраць...

**Ігар КАНДРАЛЬ**

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Шляхі і вяртанні

## СТАРОНКІ З КНІГІ

### ВЕЛАСІПЕД

Веласіпед у нашым пасёлку быў як для цыгана конь. Моду гэтую, дарэчы, завяла цётка Броня з дзядзькам Альфонсам, якія пераехалі да нас аднекуль з Заходняй Беларусі. Нават іх дачка, мая равесніца Зойка, спрытна круціла педалі, і на яе загарэлых ножках крута ўздымаліся мышцы ды калыхалася гайдалася кароценькая спаднічка ў такт рухам.

І вось пасля прыезду Ермашкевічаў на веласіпед патроху сталі перасядаць дарослыя і дзеці, і адным з апошніх купіў бліскучы нікеляваны "дарожнік" дзядзька Іван Чарнічэнка, што пасвіў людскіх кароў ды вартаваў на канюшні.

А вось у нашай сям'і веласіпеда не было. Бацька не мог ездзіць з адной рукой, а на маю просьбу купіць мне хаця б "Школьніка" адказаў, што грошай не хапае.

Хлопцы, і малодшыя, і старэйшыя за мяне, цяпер штовечар выпісвалі кругі па нашым завулку. Тыя, хто не даставаў да рамы, неяк спрытна прыладкаваліся круціць педалі, падсунуўшыся збоку пад яе, віртуозна віхляючыся і выклікаючы шчырае захапленне дарослых.

Мне ж давалі пакатацца, калі хто стаміўся або калі я выйграваў якую-небудзь гульню, бо гулялі ж цяпер толькі на веласіпед. Памятаю першае адчуванне салодкага палёту, калі мякка гудуць па гравійцы тонкія шыны, ногі толькі кончыкамі пальцаў дастаюць да педаляў, паслухмяна вібруе пад рукамі руль, а вецер тоненька пасвістае ў вушах, ствараючы гэты дзіўны імклівы лёт...

Ды раптам шчасце ўсміхнулася і мне краёчкамі вуснаў. Да суседкі Веры Ганчаровай прыехала сястра з мужам, нядаўнім вайскоўцам, якія рашылі паспытаць долі на будаўніцтве нафтаперапрацоўчага завода. А на першых парах пажыць спыніліся ў нас, бо ў цёткі Веры было цеснавата, а ў нас пасля смерці бабулі вызваліўся пакойчык.

Першым прыехаў дзядзька Андрэй разам з кантэйнерам. І сярод рэчаў, якія ён выгружаў у нашу хату, я ўбачыў "Арлёнак", новенькі, спрытны, якраз пад мой рост. "Арлёнак" гэты быў, як высветлілася, Генкаў, сына дзядзькі Андрэя, які з-за цэлы месяц павінен быў давучвацца ў школе там, дзе яны жылі дагэтуль.

Убачыўшы мой выразна захоплены і зайздросны позірк, дзядзька Андрэй сказаў, паказаўшы на веласіпед:

— Можаш, пакуль Генка не прыедзе, катацца.

Шчасцю майму не было мяжы. Я цяпер уставаў у шэсць раніцы — і адразу на веласіпед. Навучыўся трымаць руль адной рукой і ездзіць, як у нас казалі, "без рук", нізка згінаўся над рамай, як гоншчык, набіраючы хуткасць, і павольна-павольна пракатваўся побач з ідучым чалавекам. Я насмеліўся выязджаць на гарадскія вуліцы, перастаў палохацца абганяючых мяне машын і аўтобусаў, ліха паказваў рукой паварот на скрыжаваннях.

Дома я засынаў стомлены з адной толькі думкай: "Заўтра паеду яшчэ".

Так неўпрыкмет праляцеў месяц, і аднойчы, пасля ранішняй паездкі, перад тым, як ісці ў школу, я ўбачыў у нашай хаце цётку, вельмі падобную на Веру Ганчарову, а таксама невысокага хударлявага хлопца, які, як аказалася, і быў Генка.

Генка, як высветлілася, быў ціхі і надзвычай спакойны хлапец. Ён мне ўвогуле спадабаўся б, каб... не веласіпед. Не, я разумеў, што веласіпед гэты яго, і ў тым, ён ніколькі не вінаваты перада мной, але страта любімай машыны была такая вострая і балючая, што я неўпрыкмет для самога сябе ўвесь свой адчай, усю крыўду перанёс на няшчаснага Генку.

Як я да яго прыдзіраўся, як хацеў чым-небудзь зганіць!.. Пякучая рэўнасць літаральна з'ядала мяне, калі я бачыў, як ён садзіўся за руль. Дарэчы, Генка не сказаць каб надта шмат і ездзіў, але ж я павінен быў прыстасоўвацца, прасіць у яго дазволу!..

А потым адбылося тое, што і павінна было адбыцца. Мы пабіліся. Ужо нават не помню прычыну той бойкі, але да гэтага часу чырванею, калі ўспамінаю шал, з якім я біўся тады. Хоць я не быў мацнейшы за Генку, але ён не ўстаяў перад мной. А я нават пасля таго, як перамога была ўжо атрымана, доўга не мог супакоіцца.

І цяпер бачу перад вачыма, як енчыў бедны Генка, як прасіў літасці ў перамоўцы, і халоднае, жорсткае задавальненне сваё ў адказ.

О, гэтае задавальненне пакрыўджанага лёсам перад шчаслівычыкам!.. Ніколі больш не хачу адчуваць яго, асабліва, калі бачу, як шэрасць упіваецца ўніжэннем таленавітага і разумнага, як набітае ўласным потам і рупнасцю выклікае злую зайздрасць у няўдачніка і небаракі, як той, хто быў нікім, становіцца ўсім.

З Генкам мы, вядома, памірыліся, хоць на "Арлёнку" ягоным я больш не ездзіў. Не, ён нават сам прапаноўваў узяць машыну пакатацца, але мне нешта расхацелася. Веласіпед тады мне так і не купілі, хоць асалоду язды на ім не страціў нават і сёння.

Сорамна мне ж за тую нашу бойку яшчэ больш, чым раней. Часам узгадаю слёзы ў Генкавых вачах, і становіцца так балюча і невыносна тужліва, што хоць заплач самому.

А сына навучыў ездзіць, калі яму было яшчэ тры гады. І клапаціўся, каб ён заўсёды меў уласны веласіпед.

### ПА "ТРЭНІРОЎЦЫ"

З пасёлка Белаярскі вылецець было немагчыма. Раптам пасля марозу наступіла адліга, тэмпература паднялася да нуля, і над сібірскім гарадком вісеў густы туман. У дашчатай будыніне, якая гучна называлася "Аэрапортам", тоўпіўся народ. Тут былі бурыльшчыкі і зваршчыкі, цяжарная жанчына, якая крычала, што ў пасёлку няма ніводнага гінеколага, а ёй трэба раджаць.

— Не памрэш, — па-філасофску суцяшаў яе хмуры дзяжурны ў бруднаватым лётным фрэнчы. — Родзіш, нікуды не дзенешся. Мяне маці ў баразне нарадзіла.

На трэці дзень і дзяжурныя, і касіркі пазнікалі. Добра, што яшчэ ў нас было месца ў гатэлі, і мы пасля дзённага дзяжурства ў паўпустым аэрапорце вярталіся да сваіх прусакоў, тлустых і флегматычных, якія густымі гронкамі віселі на сценах нашага часовага жытла.

Трое салдат, няголеных і памятых, відаць, з аэрапорта нікуды не выязджалі, таму будыніна гэта стала для іх адзіным месцам, дзе можна было схавацца ад золкага вільготнага ветру.

— Адкуль? — аднойчы запытаў я, даючы прыкурыць худзенькаму даўгашыяму салдацiку.

— Ерэван. Дэмбель, — сказаў ён, і раптоўная слязінка пацякла па няголеным твары.

— Хто на Бярозава? — напаўголаса сказаў раптам, падышоўшы да мяне, хлопец у лётным бушлаце. — Па тракту зверху, і паляцім.

Мы борздзенька кінуліся за ім, крочачы след у след па лётным заснежаным полі, па раскіслай каляіне, у якой булькала вада.

— Цыгарэткай не пачастуеш? — сустрэў мяне другі лётчык ля трапа "Мі-8".

Я дастаў сваё "Палессе".

— Ого, якія гэта, беларускія? І камандзіру адну! — Ён спрытна стрыкнуў запальнічкай, паднёсшы агеньчык і мне. — Камандзір, камандзір, частуйся беларускімі, — убачыўшы, што падыходзіць трэці, весела выгукнуў ён.

Камандзір уважліва паглядзеў на мяне, узяў цыгарэту, нетаропка размяў яе ў пальцах і сур'ёзна, з хмурай пагрозай, сказаў падначаленаму, паказваючы на мяне:

— Гэтага не брацЬ. Курыць тут, каля борта.

— Прабачце, я не ведаў, што няможна, — залепятаў я, бо хлопцы мае ўжо сядзелі ў машыне.

— Ах, не ведаў? Тым больш! — І ён, кінуўшы пад ногі недакурак, пасунуўся ў пашчу верталёта.

Усмешку з твару лётчыка, што застаўся, як ветрам здзьмула. Ён варожа зірнуў на мяне і пайшоў быў за камандзірам. У тры скокі я абагнаў яго перад самымі дзвярыма і, ускочыўшы ў салон, абедзвюма рукамі ўчапіўся ў жалезныя парэнчы.

Ды пра мяне ўжо ніхто не памятаў. Дзверы з лязгатам зачыніліся, і мы пачалі ўзлятаць.

Акрамя нас, трох-двух журналістаў і лектара-міжнародніка, у салоне было двое нейкіх рабацяг з вялікім пустым малочным бітонам, і тоўстая нафарбаваная кабета, — як аказалася, загадчыца сталовай. Яна разам з грузчыкамі ляцела ў Бярозава пей смятану. А ў самым кутку сядзеў яшчэ нейкі хлапец у акулярах.

На поўначы цямнее хутка, і неўзабаве ў ілюмінатар можна было ўбачыць толькі цьмяныя абрысы чэзлай тайгі і рэдкія агеньчыкі буравых. Да Бярозава ад Белаярскага было ўсяго дзевяноста кіламетраў, але мы ляцелі ўжо трэцюю гадзіну.

Раптам верталёт пайшоў на зніжэнне і завіс над нейкай бетоннай пляцоўкай. З прыадкрытага люка ў цемру палялі тугі брызентавы мех, і мы зноў паляцелі.

— Відаць, з курсу збіўся, — крыкнуў мне на вуха хлопец у акулярах.

"Нічога сабе, — падумаў я, — гэтага толькі не хапала". Я раптам уявіў, як мы будзем сядзець у тайзе, галодныя і бездапаможныя, чамусьці ўзгадаў, як у такіх выпадках ядуць нават паясныя рамяні, і стала ніякавата. Ды неўзабаве паказаліся агні аэрапорта.

— Усё, прыехалі, — сказаў, выходзячы з лётчыцкай кабіны, той, хто прасіў у мяне закурыць. — Бярозава не прымае.

Мы вярнуліся ў гатэль. Прусакі глядзелі на нас нахабнымі вясёлымі вачыма, нібы здзекаваліся.

— Нічога, хлопцы, не бядуйце, — сказала нам з раніцы пакаёўка. — Тут у галоўнага інжынера трэста ў суботу ў Бярозаве ў сына вяселле. Вось ён дакладна паляціць. Так што дамаўляйцеся з ім.

Пайшлі да галоўнага. Выслухаўшы мой блытаны маналог, ён лаканічна адсек:

— Добра. У суботу ў адзінаццаць. І не спазняцца.

У суботу надвор'е не палепшала, але мы ўжо а палове адзінаццатай былі ў аэрапорце. Крыклівай цяжарнай жанчыны ўжо не было, пэўна, нарэшце, нарадзіла. Салдацікі яшчэ больш схуднелі і абраслі.

Галоўны інжынер паклікаў нас з "Уазіка". Коратка павітаўшыся за руку з кожным, ён выставіў з-пад свайго сядзення звычайны эмаліраваны бітончык, у якім традыцыйна ў вёсках носяць малако, і алюмініевы кубак.

— Піце, — коратка сказаў ён. — А то не вазьму. — І працягнуў кожнаму па цукерцы, якая ў нас называлася "школьная".

Гэта быў спірт. Разведзены або "піццявы", як казалі тут. Навучаны горкім вопытам не задаваць лішніх пытанняў, я выпіў, услед за мной і сябры. "Уазік" падкінуў нас проста да трапа, і мы былі на знаёмым борце.

Машына ляцела над самымі вяршалінамі карлікавых соснаў. Да зямлі было метраў 50—60. Толькі тады я зразумеў, чаму паіў нас галоўны. Верталёт ляцеў па так званай "трэніроўцы", гэта значыць, у невыносных лётных умовах, калі на борт браць каго-небудзь катэгарычна забараняецца. Але вяселле — справа святая, а галоўны інжынер — Бог, цар і воінскі начальнік, таму праз гадзіну мы былі ў Бярозаве.

Прусакі засталіся начаваць без нас...

Гэта было ў Цюменскай вобласці ў далёкім ужо 82-ім годзе, калі беларуская камсамольская арганізацыя мела шэфства над ударнымі будоўлямі нафтаправода "Урэнгой—Памары—Ужгарад". Чаго насіла туды нас, я да гэтага часу не разумею, ды гэта сёння ўжо не мае ніякага значэння.

### РАДНЯ

Мой цесць, Іван Георгіевіч, быў хворы на эпілепсію. "На падучую", — як казалі ў вёсцы. Ён быў дужы, каржакаваты мужчына, і толькі ў час прыступаў, як распавядалі, станавіўся бездапаможны і кволы, дні тры выходзячы потым з гэтага стану. Мае швагры, яго сыны, гаварылі, што хвароба гэтая прычапілася да яго, калі працаваў сплаўшчыкам на Прыпяці. Аднойчы рассыпаліся бярвенні, а ён ці то моцна напужаўся, ці то стукнула хлыстом па галаве. Так і стаў з таго часу інвалідам, рабіў толькі ва ўласнай гаспадарцы.

У мой першы прыезд — пасля нашага з жонкай вяселля — у вялікае палескае сяло я запомніў, як ён чысціў яблыкі на сушку. Ножык у дужых вялікіх руках выглядаў тоненькай драцінкай. Спрытна і хутка цесць абіраў антонаўку, разразаў яблык на некалькі кавалкаў і кідаў у кош. Потым цешча раскладвала лустачкі на вялікія бляхі і клала ў печ. Па хаце плыў салодкі яблычны водар.

Цесць быў пахмурны, засяроджаны, і ажывіўся толькі падчас абеду, калі ў гонар прыезду дачкі з зяцем цешча паставіла на стол прыпацелую пляшку самагонкі.

— Бацьку піць не давай, — шапнула перад гэтым яна мне. — Сабе налівай паболей.

Дзе тут было "не давай"! Я, упершыню гэтак блізка і па-свойску апынуўшыся ў палескай вёсцы, быў крыху прыгаломшаны. І незвычайнасцю страў: амлет, які ляжаў на патэльні пад тоўстым слоем расплаўленага тлушчу, духмяная свініна са слоіка, сушаная ў печы гарачая рыба. За сталом сядзелі баба Тэкля, цесцева маці — дзевяностагадовая худая маршчыністая старая з немігаючым, скіраваным некуды ў сябе позіркам, швагры — пятнаццацігадовы Міця і дванаццацігадовы Васіль, жонка і цешча — увішная вясковая кабета, якая з нейкай цікаўнай насцярожанасцю пагладала на мяне — гарадскога, чарнявага, не тутэйшага з выгляду, з белымі, спешчанымі рукамі, непрыдатнымі да мужчынскай сялянскай працы. Я, журналіст, быў для яе "начальнік", і цешча прыкметна хвалявалася, стараючыся знайсці патрэбную атмасферу сямейнага, агульнага, бо я быў першы зяць, які прыехаў да яе сюды, на Палессе.

Пасля абеду мы з цесцем выйшлі з хаты, прыселі на ганак і закурылі. Ён пачаставаў яго сваёй "слабой" гарадской цыгарэтай, ён з задавальненнем пускаў дым. Відаць, ад выпітага ён крыху павесялеў, палагаднеў. Пачаў расказваць пра далёкую Перм. Там, у сорак чацвёртым, калі ён трапіў пасля вызвалення ад немцаў Беларусі ў войска, ён праходзіў тэрміновую службу. Пакуль быў у "вучэбцы", вайна скончылася, і даслужваў цесць там, на далёкім Урале. Гэта быў першы і апошні раз, калі ён выязджаў з роднага Палесся, і цесць са смакам расказваў пра вайсковую службу, ужываючы раз-пораз паўзабытыя рускія словы.

Потым ён павёў мяне ў сад. За плотам, у суседскім двары, бегалі, гуляючы ў хованкі, падшыванцы.

— Што вы раскрычаліся, як жыды ў школе? — прыкрыкнуў на іх цесць.

— Іван, — аднекуль з двара раптам адгукнулася цешча, — не распускай язык.

Цесць недаўменна паглядзеў у яе бок, дастаў з кішэні штаноў пакамячаны пачак "Прымы", працягнуў мне. Мы закурылі яшчэ раз.

— Вось гэты сад садзіў мой бацька, — сказаў цесць. — Ён у рускім флоце служыў, потым вярнуўся. А калі мы пад Польшчай былі, знайшлі паліцыянты, што ён на агародзе тытунь высадзіў. І пабілі яго, ды так моцна, што потым год пахварэў і памёр. А сад во жыве...

Быў канец жніўня. Год, відаць, выдаўся яблычны, і мы разам праводзілі вачыма тугі і крамяны плод, які зрываўся з дрэва і падаў на траву.

— Ты слухай, што я табе скажу. Сёння гэты сад во, і хата, значыць, і ўсё, што тут ёсць, і тваё таксама, — зноў загаварыў цесць. — Ты, значыць, будзь, як дома. І нічога не думай такога. Мы ж цяпер радня.

Ад гэтых яго бясхітрасных слоў у мяне раптам нешта зашчымела. Я ўспомніў свой Полацк, і свайго бацьку, невысокага, з адной рукой, бо другую ён пакінуў на фронце, маці, ціхую і хваравітую, з разумнымі і заўсёды сумнымі вачамі.

— Вось я і дажыў, сынок, — сказаў неяк перад нашым ад'ездам бацька, ці то з радасцю, ці то са скрухай. — Ты з хаты з'язджаеш. Едзеш, значыць, да Івана, свата майго. Іванаў у нас яшчэ ў радні не было.

Я досыць калюча зірнуў на яго, і ён асекся, перавёў размову на іншае. Ён ведаў, што не хачу і не буду гаварыць на ўсялякія такія тэмы, і даўно з гэтым змірыўся.

Ды сёння цесцева "будзь як дома" зусім незвычайна кранула, нібыта нейкую патаемную струну зачапілі гэтыя звычайныя словы.

Больш мы ніколі ні пра што такое з цесцем не гаварылі. Я ездзіў з ім на сенакос і на рыбу, глядзеў, як ён плёў кашы, слухаў яго няхітрыя расповеды, часам выпіваў з ім чарку. З таго першага дня між намі ўзнікла дзіўная згода, нібыта ведалі адзін аднаго ўсё жыццё.

І я, на шчасце, ніколі не бачыў яго прыступаў. Нібыта Бог бярог. Паехалі аднойчы з Васілём на дзень у Лунінец, а ў гэты час яго і скруціла. Калі мы вярнуліся, ён ужо спаў, а з раніцы, як звычайна, чысціў яблыкі, і выглядаў як заўсёды.

Ён яшчэ паспеў звадзіць у сад і маю малую Олю. Яе тоненькая ручка патанала ў яго загарэлым магутным кулаку, яна глядзела на яго знізу ўверх сваімі чорнымі бусінкамі даверліва і спакойна. Дзеці заўсёды адчуваюць праўду.

Мой цесць памёр нечакана. У гасцях, на вяселлі. Цешча расказвае, што толькі каўтнуў першую чарку, як раптам моўчкі паваліўся з лаўкі і заціх. Толькі ў вачах застылі здзіўленне і спалох.

Вясковыя могілкі ў нашай палескай (цяпер і ў маёй) старане называюць Хвайкі. Сосны і елкі, ды іголка пад нагамі... Ціха і ўтульна. Калі мы хавалі цесця, бацюшка, які адпяваў, паднёс цалаваць крыж і мне. Я дакрануўся вуснамі да халоднага металу, і раптам успомніў, што цесць абяцаў паказаць мне іншыя могілкі — месца, дзе расстралялі дзевяцьсот вяскоўцаў — вязняў гета. Так мы з ім туды і не схадзілі. А знайшлі выпадкова толькі потым, калі гулялі па ваколіцах разам з Васілём, ягоным сынам і маім шваграм.

 ЧАСАПІС

## Нацыянальны мастацкі музей

ПРАПАНУЕ

**У Нацыянальным мастацкім музеі ў 1999 годзе можна праслухаць наступныя публічныя лекцыі:**

**1. МАСТАЦТВА ЗАХОДНЯЙ ЕЎРОПЫ XVIII—XIX стст.**

**30 студзеня — мастацтва Францыі 1-ай трэці XIX ст.**

**6 лютага — мастацтва Францыі сярэдзіны XIX ст.**

**13 лютага — мастацтва Францыі 2-ой паловы XIX ст.**

**20 лютага — мастацтва Англіі XIX ст.**

**13 сакавіка — мастацтва Іспаніі і Італіі XIX ст.**

**Цыкл вядзе вядучы навуковы супрацоўнік А. ШАПАШНІКАВА.**

*Пачатак у 16.00.*

**2. ВЫЯЎЛЕНЧАЕ МАСТАЦТВА РАСІІ.**

**31 студзеня — рускія мастакі-партрэтысты XVIII ст.**

**7 лютага — рускае мастацтва 1-ай паловы XIX ст.**

**Лектар: вядучы навуковы супрацоўнік Н. КАЛАШНІК.**

**14 лютага — дэмакратычныя тэндэнцыі рускага выяўленчага мастацтва 2-ой паловы XIX ст.**

**21 лютага — выяўленчае мастацтва Расіі мяжы XIX—XX стст.**

**Лектар: вядучы навуковы супрацоўнік Т. РЭЗНІК.**

*Пачатак у 16.00.*

**3. НА ПАРОЗЕ МАСТАЦТВА XX СТАГОДДЗЯ.**

**28 лютага — імпрэсіянізм.**

**14 сакавіка — постімпрэсіянізм.**

**Лектар: ст. навуковы супрацоўнік С. ПРАКОП'ЕВА.**

**21 сакавіка — сімвалізм у заходнееўрапейскім жывапісе.**

**28 сакавіка — сімвалізм у жывапісе Усходняй Еўропы.**

**25 красавіка — перадумовы стылю мадэрн і мадэрн у архітэктуры Заходняй Еўропы і Расіі.**

**16 мая — графіка і дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва эпохі мадэрн.**

**Цыкл вядзе: ст. навуковы супрацоўнік І. КАРАНЕЎСКАЯ.**

*Пачатак у 16.00.*

**4. МАСТАЦТВА КРАІН СВЕТУ.**

**20 сакавіка — архітэктура Кітая.**

**27 сакавіка — скульптура Кітая.**

**24 красавіка — жывапіс кітайскага сярэднявечча.**

**15 мая — архітэктура і скульптура старажытнай Індыі.**

**22 мая — жывапіс Аджанты.**

**Цыкл вядзе ст. навуковы супрацоўнік А. СЯНКЕВІЧ.**

*Пачатак у 16.00.*

**5. ЛЕКТОРЫЙ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І БАЦЬКОЎ.**

**Вандроўкі па Італіі (для дзяцей 4—7 класаў).**

**14 лютага — Венецыя.**

**28 лютага — Фларэнцыя.**

**14 сакавіка — Рым XV—XVIII стст.**

*Пачатак у 14.00.*

**Цыкл вядзе загадчык сектара школьнай працы В. БРЫГАДНАЯ.**

*Адрас музея: вул. Леніна, 20. Тэл. 227-71-63.*

*Білеты (уваходныя) прадаюцца ў касе музея.*

## "Змена" запрашае

**З 1 па 5 лютага кінатэатр "Змена" запрашае ўсіх жадаючых паглядзець двухсерыйны мастацкі фільм "Знак бяды" паводле аднайменнай аповесці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.**

**Фільм створаны вядомым кінарэжысёрам Міхаілам Пташуком. Уражваюць сваёй праўдзівасцю вобразы галоўных герояў у выкананні Ніны Русланавай, Генадзя Гарбука, Уладзіміра Ільіна, Віталя Быкава, Аляксея Булдакова, Уладзіміра Гасцюхіна.**

**Паглядзець жа гэтую мастацкую стужку можна будзе штодня а 12 гадзіне. Па просьбе калектываў, школ, навучальных устаноў ёсць магчымасць арганізаваць дадатковыя сеансы. Адміністрацыя кінатэатра зараз рупіцца пра тое, каб на сустрэчу з кінагледачамі прыйшлі цікавыя людзі, якія мелі дачыненне да фільма "Знак бяды".**

*За дадатковай інфармацыяй звяртайцеся па тэлефоне 235-39-03. Нагадваем адрас кінатэатра "Змена": г. Мінск, вуліца Даўгабродская, 4.*

АРХІВЫ

# Ля вытокаў утварэння "Узвышша"

1926 ГОД у літаратурным жыцці Беларусі адметны шэрагам расколаў ва Усебеларускім аб'яднанні паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк", якое яшчэ нядаўна здавалася адзіным і згуртаваным. Расколы выявіліся ў выхадзе з аб'яднання груп літаратараў са сваімі эстэтычна-мастацкімі платформамі і стварэнні на іх грунце новых творчых суполак. Першай у маі 1926г. заявіла аб самавызначэнні як "узвышэнскай мастацкай школы беларускай пралетарскай паэзіі" (выказванне крытыка і літаратуразнаўцы Адама Бабарэкі) група паэтаў, якая назвала сваё аб'яднанне "Узвышшам". У яго ўвайшлі А. Бабарэка, З. Бядуля, П. Глебка, У. Дубоўка, С. Дарожны, М. Лужанін, Я. Пушча і інш. Следам за "Узвышшам" з'явілася пралетарска-сялянская беларуская літаратурная суполка пад назвай "Пробліск". Самастойнае арганізацыйнае афармленне яна абгрунтоўвала нязгодай, з аднаго боку, з метадамі працы "Маладняка" — не адпавядалі яго прызначэнню як літаратурна-мастацкай арганізацыі, дзяленнем яго членаў на "камандзіраў" і "радавых", "празябанне" апошніх, з другога, — з "чыста фармальным мастацкім ухіленнем "Узвышша", тэндэнцыяй яго развіцця да "вузкаакадэмічнай замкнёнасці". Чарговым творчым аб'яднаннем стала "Літаратурна-мастацкая камуна". Пісьменнікі старэйшага пакалення ў 1927 годзе згрупаваліся вакол Я. Купалы і Я. Коласа ў літаратурную арганізацыю "Полымя".

Тагачасныя вульгарна-сацыялагізаваныя крытыкі, у тым ліку і з улоння "Маладняка", адметныя ўльтрарэвалюцыйнай палітызаванасцю, адразу ж "растлумачылі" расколы сацыяльна-класавай дыферэнцыяцыяй беларускага грамадства ва ўмовах нэпа, выхадам са складу "Маладняка" тых, хто падпаў пад уплыў кулацтва і нацыянал-дэмакратычнай ідэалогіі. Узвышэнцы адказалі "Камунікатам", які абвяшчаў платформу новага аб'яднання: "Мы ў сваёй літаратурнай дзейнасці напорна ішлі і ідзём па пралетарскаму шляху развіцця беларускай літаратуры і з гэтага шляху ніякія злыдні нас не саб'юць. Іншага шляху мы не ведалі, не ведаем і не мыслім".

Больш стрыманыя на пачатковым этапе былі ацэнкі ў афіцыйных партыйных дакументах. Так, у справаздачы ЦК КП(б)Б X з'езду (3—10 студзеня 1927 г.) адзначалася, што бюро ЦК на просьбу літаратараў аб выхадзе з "Маладняка" адказала станоўча, бо адмова павяла б да павялічвання ўнутраных супярэчнасцей у аб'яднанні і перашкодзіла б яго далейшаму росту. Адносна "Узвышша" гаварылася: "Група "Узвышша" каштоўная і значная не таму, што яна займае ў беларускай літаратуры вялікае месца. Гэта пачынаючыя таварышы, сярод іх ёсць каштоўныя літаратары і паэты". Неабходнасць увагі да гэтай плыні тлумачылася ў справаздачы тым, што яна "адлюстроўвае пэўнае нарастанне ідэалогіі, якая адпавядае росту дробнабуржуазных элементаў у БССР, што не ідуць у поўнай меры пад кіраўніцтвам пралетарыяту".

Аднак на мяжы 20—30-х гадоў, калі беларускі нацыянал-дэмакратызм быў абвешчаны галоўнай небяспекай у грамадстве і для партыі, а агітацыйна-прапагандысцкія сродкі барацьбы з ім заменены мерамі "па лініі ДПУ", "пастулаты" вульгарна-сацыялагізаванай крытыкі сталі афіцыйнай палітычнай лініяй. Напрыклад, адзін, па ацэнцы Антона Луцкевіча, з яе "егермайстраў" Арэст Канакоцін у вялікім артыкуле пад назвай "Абвастрэнне класавай барацьбы ў беларускай літаратуры ў перыяд сацыялістычнай рэканструкцыі", які быў змешчаны ў часопісе "Бальшавік Беларусі" (NN 8—9) за 1930 г., пісаў, маючы на ўвазе "Узвышша": "На літаратурным фронце контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм выступаў праз сваіх агентаў, якіх ён завербаваў з меней устойлівых у класавых адносінах прадстаўнікоў беларускай культуры ці проста пасылаў сваіх агентаў у шэрагі беларускіх літаратурных аб'яднанняў". З абвастрэннем класавай барацьбы гэтыя агенты перайшлі ад "скрытых замаскіраваных вылазак" да "адкрытага наступлення супраць пралетарскай дыктатуры", стаўшы на антысавецкія пазіцыі.

Пункт погляду на тое, што ўзвышэнцы ўяўлялі сабой прыхаваную антысавецкую апазіцыю, выказаў у кнізе "Сопротивление советизации в белорусской литературе. 1917—1957" (Мюнхен, 1958 г.) і былы актыўны член аб'яднання Антон Адамовіч, які пасля Айчыннай вайны эмігрыраваў на Захад. Пры гэтым ім ігнаруецца тая акалічнасць, што пэўная апазіцыйнасць, якая сапраўды мела месца ў дачыненні да нарастання і ідэолага-палітычнага дыктату, развівалася ў рэчышчы "рэвалюцыйна-рамантычнага накірунку" пралетарскай, па вызначэнні тых часоў, літаратуры.

Толькі з 60-х гадоў, па меры таго як адкрываліся архівы і спецсховы, друкаваліся праўдзівыя мемуары, малюнак літаратурнага жыцця другой паловы 20-х гадоў пачаў праясняцца і набываць рэальныя абрысы. У гэтай сувязі цікаўнасць уяўляюць матэрыялы з Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (фонды былых структур Кампартыі Беларусі), якія звязаны з папярэднімі крокамі па ўтварэнні літаратурна-творчага аб'яднання "Узвышша". Сярод іх ліст паэта Уладзіміра Дубоўкі "У Цэнтральнае бюро Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк" ад 26 красавіка 1926 г. з пратэстам супраць разносных рэцэнзій і абвінавачванняў у контррэвалюцыйнасці ў друку; заява за подпісамі У. Дубоўкі, Я. Пушчы, К. Чорнага, А. Бабарэкі, З. Бядулі, К. Крапівы "У бюро Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі (б) Беларусі" ад 26 мая з просьбай аб дазволе стварыць літаратурна-мастацкую групу і выдаваць часопіс; ліст старшыні ЦБ "Маладняка" М. Чарота і літаратурнага сакратара А. Дудара "У бюро Цэнтральнага Камітэта КПБ" (без даты), прысланы як адказ на заяву-просьбу ініцыятараў стварэння новай літаратурнай групоўкі.

Далей друкуецца другі з гэтых дакументаў.

У Бюро Цэнтральнага камітэту Камуністычнай партыі (б) Беларусі

Дарагія таварышы!

Мы, ніжэйпадпісаныя, лічым неабходна патрэбным звярнуць Вашу ўвагу на наступныя факты з літаратурнага жыцця нашае Савецкае краіны.

1.

У 1922—1923 гг., калі большасць маладых рэвалюцыйных пісьменнікаў пачынала сваю працу, на камандных высотах літаратурных знаходзіліся пісьменнікі старэйшага пакалення, т. зв. адраджэнцы. Не ставячыся варожа да рэвалюцыйнай моладзі і яе ідэалаў, яны ў той жа час не мелі да яе і вялікай прыхільнасці.

Дзеля мэты: а) загартавання маладых пісьменнікаў у пралетарскай ідэалогіі; б) выяўлення новых мастацкіх сіл; в) правядзення належнае агітацыі ў масе чытачоў — была ўтворана літаратурная група, якая, пачынаючы ад 1924 г., атрымала назву "Усебеларускае аб'яднанне паэтаў і пісьменнікаў "Маладняк".

На працягу 1924—25 гг. "Маладняк" правёў значную працу ў памянёным кірунку: па ўсіх акруговых гарадах былі створаны філіі "Маладняка", а ў некаторых і раённых гурткі. Лік сяброў узрос ад 5—10 да 100—200 асоб. Філіі і гурткі праз свае выступленні і даклады, а таварышы Менскае філіі сваімі творамі, праз дапамогу часопісаў і выездамі на перыферыю раскалыхалі масы чытачоў, асабліва рабоча-сялянскую моладзь і працоўную інтэлігенцыю.

Погляды чытача значна змяніліся: апрача формы, ён пачаў вымагаць ад мастацкага твору і зместу, які б грунтаваўся на матэрыялістычным светаглядзе.

У адносінах да ўплыву на пісьменнікаў старэйшага пакалення можна за гэты кругабег адзначыць вось што:

а) старыя пісьменнікі змушаны былі пераглядзець некаторыя падставы свае творчасці;

б) выявіць у больш-менш яскравай форме свае адносіны да сваіх паслядоўцаў (з большага — паслядоўцаў у храналагічным сэнсе).

Найбольш шчыра адгукнуўся пры гэтым народны паэт Рэспублікі Янка Купала, асабліва ў вершы "Арляняты".

Якуб Колас, які мог лічыць сябе пакрыўджаным маладнякоўцамі, асабліва ў часе святкавання юбілею Янкі Купалы, зусім зразумела, адгукнуўся на гэта больш сціпла: прысвяціў моладзі сваю паэму "Сымон Музыка".

Калі дадаць да ўсяго гэтага сталую лінію, якую праводзіў праз увесь час у галіне літаратурнай Цэнтральны Камітэт Камуністычнае Партыі (б) Беларусі, дык можна сказаць, што задачы, пастаўленыя ў 1922—23 гг. былі, з большага, здзейснены.

2.

У часе маладнякоўскага з'езду (25—29/XI-1925 г.) былі зроблены тыя ці іншыя падагуленні не толькі працы "Маладняка", але і літаратурнага жыцця наогул.

Члены бюро Цэнтральнага Камітэту Камуністычнае Партыі (б) Беларусі тт. Крыніцкі, Чарвякоў, Ігнатоўскі далі ў сваіх прамовах:

а) ацэнку праробленай працы;

б) выяўленне недахопаў;

в) дырэктывы на наступны час.

Пагадзіўшы іх высока-аўтарытэтныя прамовы і парады з матэрыяламі літаратурнай дыскусіі пры ЦК РКП(б) і рэзалюцыямі ЦК РКП(б) у справах літаратуры, мы зрабілі для сябе і сваёй далейшай працы адпаведныя вывады, а менавіта:

а) умацаванне савецкіх рэспублік, канчатковае выяўленне сімпатый працоўнай інтэлігенцыі — дазваляе літаратурным арганізацыям спыніць **агітацыю** за пралетарскую літаратуру, а перайсці да **прапаганды**;

б) **прапаганда** вымагае ад кожнага пасобнага таварыша належнае падрыхтоўкі і сталай працы над сваёй творчасцю, над якасцю мастацкай прадукцыі;

в) наладжанасць працы палітычна-асветных устаноў пазбаўляе літаратурныя арганізацыі неабходнасці займацца палітычна-асветнай справай;

г) у звязку з гэтым адпадае курс на **масавыя** літаратурныя арганізацыі, а паўстае патрэба ў працы **сталых** літаратурных арганізацый, у працы якіх удзел павінны трымаць сапраўды таленавітыя адзінкі;

д) у звязку ж з усім сказаным, маладыя пісьменнікі павінны звярнуць усю сваю ўвагу на адукацыю марксісцкую, літаратурную і тэарэтычную.

Аднача́сна павінны быць зменены і метады працы ў адносінах да старэйшых пісьменнікаў: уважлівыя адносіны, дапамога ў максімальным скарыстанні іх Камуністычнай Партыяй.

Думалася, што да гэтага ўсяго можна будзе прыйсці паступова, паступова ж мяняючы метады працы.

А што датычыцца канцэнтрацыі мастакоў па фармальна-мастацкіх кірунках (пры адзінай пралетарскай ідэалогіі) лічылася мэтазгодным прыступіць да яе не раней, чым у 1927 г. (гл. артыкул т. Дубоўкі "Маладнякоўскія шляхі", "Савецкая Беларусь" за 16 снежня 1925 г.).

3.

Жыццё давяло, што новае кіраўніцтва "Маладняка", вылучанае са свайго складу новым Цэнтральным бюро, а менавіта: тт. М. Чарот, А. Дайлідовіч-Дудар, А. Александровіч, А. Вольны і М. Зарэцкі пералічаных вышэй задач не здзейснілі. Нават наадварот — дапусцілі на працягу 6 месяцаў цэлы шэраг памылак.

Гэтыя памылкі мы класіфікуем наступным чынам:

1. Дырэктывы нашых правадыроў — членаў Бюро Цэнтральнага Камітэту Камуністычнай Партыі (б) Беларусі на 1-м маладнякоўскім з'ездзе, накіраваныя да стварэння **сапраўднай** беларускай пралетарскай літаратуры, **не выконваліся і не выконваюцца.**

2. Праводзіцца цкаванне, нейкі тэрор паасобных таварышаў, бясспрэчна здольных, бясспрэчна адданых ідэям Камуністычнай Партыі, аб чым яны даводзяць сваёй творчасцю.

Пры здзяйсненні гэтага тэрору названыя "правадыры" "Маладняка" як панцырам прыкрываюцца аўтарытэтам партыі.

**3. Беларуская пралетарская літаратура вядзецца не да росквіту, а да заняпаду.**

Да сказанага мы дадаем некалькі тыповых фактаў:

1. Кіраўніцтва "Маладняка" на чале з М. Чаротам, не адышло ад агітацыі да прапаганды ідэй пралетарскае літаратуры. Ізноў і ізноў паўтараюцца траскучыя фразы накont "камандных высот" і г. д. і г. д. Падобная, прымітыўная ў даны момант, тактыка нічога канкрэтнага не дае, а толькі даводзіць, што выканаўцы яе не з'яўляюцца дыялектыкамі. Гэтая тактыка нясе ў сваім ажыццяўленні суцэльную шкоду для нашае агульнае справы. "Маладняк" пачынае хутка траціць набыты ў працэсе цяжкай працы аўтарытэт.

2. Якасць мастацкай прадукцыі большасці маладнякоўцаў ("прапаганда **фактамі** з'яўлення мастацкіх твораў") ані чуць не паляпшаецца. Патуранне самім сабе і сабе падобным выклікае з'яўленне, можна сказаць, не мастацкіх, а самагонных твораў.

3. Мы не бачылі, наколькі выконваюцца сучасным кіраўніцтвам "Маладняка" дырэктывы адносна змены адносін да старэйшых пісьменнікаў, але бачым, што на падставе нейкай для нас незразумелай прычыны знаходзяць сабе месца варожыя адносіны сучаснага кіраўніцтва "Маладняка" **да членаў сваёй арганізацыі.**

Так, ад літаратурнай старонкі "Савецкай Беларусі" зусім адаганы маладыя і выдатныя паэты, якія знаходзілі месца для сваіх твораў у ёй раней (Серада, Глебка, Лужанін і г. д.).

Паасобныя таварышы з кіраўнічай групы праводзяць форменнае цкаванне тых выдатных маладых пісьменнікаў, якія маюць "смеласць" не згаджацца з іх поглядамі на мастацтва і г. д. Зарэцкі, напрыклад, на сходах і выступленнях вінаваціць усіх нязгодных з яго "поглядамі" ў ідэалагічных

вывіхах.

А. Александровіч ідзе яшчэ далей: нязгодных з яго поглядамі ён не толькі вінаваціць у контррэвалюцыі, але палохае фразамі: "мы вас знішчым" (канкрэтна — выпадак меў месца ў адносінах да Я. Пушчы на публічным сходзе).

А. Дудар апэцыялізаваўся ў выступленнях супраць т. Дубоўкі. Выконваючы дырэктывы сваіх "правадыроў" і сам разыгрываючы "правадыра", ён заняўся лячэннем "ідэалагічна хворых".

Лячэнне заключаецца ў тым, што ён (гл. "Савецкая Беларусь" за 6 студзеня 1926 г. і "Маладняк" N 11) бярэць цытаты з вершаў рэвалюцыйных, накіраваных супраць буржуазнай Польшчы, і затым даводзіць, што Дубоўка ў гэтым вершы выступае... супраць рабочых і сялян.

Гэткі крымінальны ўчынак спатыкае прыхільныя адносіны з боку членаў сучаснай кіраўнічай групы "Маладняка" на чале з М. Чаротам (якія не маглі не ведаць аб змяшчэнні гэнай паскуднай заметкі без жаднай* увагі ад рэдакцыі, на старонках часопіса ЦК КПБ і ЦК ЛКСМБ).

4.

Як зусім нармальны і зразумелы вынік з усяго сконставанага, ніжэйпадпісаныя таварышы лічаць сваю далейшую працу ў складзе "Маладняка" немэтазгоднай. Змена кіраўніцтва, на якую мы маглі б прэтэндаваць і якую маглі б матываваць, вялікага змякчэння не прынясе. Будзе паўтарацца старая народная прыказка пра двух катоў, якіх пасадзілі ў адзін мяшок; на версе то той, то другі...

Адзіны выхад са становішча мы бачым у стварэнні самастойнай літаратурна-мастацкай групы, у далейшым — літаратурнага кірунку.

5.

Як ужо зазначалася, стварэнне літаратурна-мастацкіх кірункаў мелася на ўвазе праз год-два. Немагчымасць супольнай працы з сучасным кіраўніцтвам "Маладняка", да якой (супольнай працы) мы праз увесь час імкнуліся, прымушае нас фарсіраваць падзеі.

**Праэктуемая** намі група ўтвараецца на грунце адзінай пралетарскай ідэалогіі. Не абцяжарная філіямі, гурткамі і г. д., у складзе ўсяго 8—10 сяброў, яна будзе лепш забяспечана партыйным кіраўніцтвам і дасць больш сталыя вынікі, чымся пры сучасным становішчы, у нервовых абставінах, у цкаванні...

6.

Выходзячы з паданага на Вашу ўвагу мы звяртаемся да Вас з просьбаю:

1. Дазволіць нам, ніжэйпадпісаным, утварэнне новай літаратурна-мастацкай групы.

2. Дазволіць нам выданне 2-х месячнай ці 3-х месячнай часопісі (тэорыя літаратуры і крытыкі).

Спадзяёмся, што папярэдняя наша праца з'яўляецца выстарчаючым залогам таго, што і далейшая праца будзе плённай і карыснай для мэты ўтварэння сапраўднай беларускай пралетарскай літаратуры.

З таварыскім прывітаннем да Вас

*Ул. Дубоўка (падаў заяву аб выходзе з "Маладняка" 26/IV-26 г.), Я. Пушча (Плашчынскі), К. Чорны (М. Раманоўскі), А. Бабарэка, З. Бядуля (далучаюся да п. 6), Крапіва (Атраховіч)*

*26 траўня 1926 г.*

*г. Менск*

P. S. У заяве асобнага тлумачэння патрабуе яе пяты пункт. У лісце Уладзіміра Дубоўкі ў ЦБ "Маладняка" ад 26 красавіка 1926 г. прыводзяцца прыклады "разбору" паэтычнага зборніка паэта "Крэдо" ў часопісе "Маладняк":

"Што датычыцца верша "Далёкае мы любім надта", дык павінен адзначыць, што ён разабраны такім шляхам, што аўтар заметкі падлягае ўвазе судзебных органаў у адпаведнасці з артыкуламі 175 і 179 Крымінальнага Кодэксу РСФСР ці адпаведнымі артыкуламі Кр. К. БССР.

Сапраўды, верш, як аб гэтым сведчыць і тлумачэнне ў канцы зборніка, і сам змест яго, гаворыць пра беларускага паўстанца Янку Глушку, расстралянага польскімі панамі. Верш з'яўляецца вострым пратэстам супраць культурна-нацыянальнага і сацыяльнага ўціску, які адбываецца ў Заходняй Беларусі. Верш накіраваны супраць польскіх паноў. Верш быў надрукаваны ў "Савецкай Беларусі", перадрукаваны "Маладым аратым" і ў "Чырвонай змене".

І вось аўтар заметкі, з міласцівага патурання трох рэдактараў, даводзіць, што Дубоўка ў гэтым вершы выступае супраць рабочых і сялян. Гэта ўжо не дэмагогія, а выразны крымінальны ўчынак, "заведомо ложный донос" па юрыдычнай тэрміналогіі (арт. 179)".

Адзначым, што нататка, на якую спасылаецца паэт, надрукавана за подпісам "Я. Ч.", а тры "міласціва патураючы" яе аўтару рэдактары — А. Александровіч, Адзінец і С. Гесен.

**Расціслаў ПЛАТОНАЎ,**
**Яўгенія ФАЛЕЙ**

*Так у тэксце

КІНО

# Творчая Мека — "Беларусьфільм"

Здымалася дзіўнае кіно: доўгія, цёмныя калідоры "Беларусьфільма" зрабіліся ўтульнымі і светлымі. Шэрыя, панурыя твары нашых рэжысёраў — вясёлымі і добразычлівымі. "Усміхайцеся, спадары, усміхайцеся. Мы здымаем кіно", — падбадзёрваў усіх мястачковы барон Мюнхгаўзен — С. Лук'янчыкаў...

Тое, што адбываецца на кінастудыі "Беларусьфільм", нагадвае фантастычную гісторыю: летась наша кінастудыя здолела выпусціць пяць іграх поўнаметражных карцін. Гэта ў той час, калі паўсюль — мёртвыя кінастудыі ("Ленфільм", "Арменфільм", "Грузія-фільм" і г.д.), жудасны крызіс ідэй. "Беларусьфільм" здаецца прывідным аазісам. Нездарма нашу кінастудыю параўноўваюць з творчай Мекай. "Кіно — гэта цудоўны спосаб расказаць пра жыццё, канкурыраваць з Госпадам Богам", — казаў некалі славуты Ф. Феліні. Сёння ў павільёнах "Беларусьфільма" паспяхова канкурыруюць з Богам рэжысёры розных пакаленняў і рознага паходжання. Ужо пятую стужку зняў на нашай студыі амерыканскі рэжысёр М. Голан.



*Аператар Т. ЛОГІНАВА на здымках "Кветкі для пераможцаў" паводле "Трох таварышаў" Э. Рэмарка.*

З пяці беларускіх стужак мінулага года — дзве дэбютныя. Вучаніца Турава В. Марчанкава сваю першую работу ў кіно зрабіла ў жанры дэтэктыва (Вольга імкнецца адрадзіць чысты жанр у беларускім кіно). Аднак у яе стужцы "Забіць відачынца" занатаваліся элементы філасофскага фільма, таму вузкая дэтэктыўная фабула толькі перашкаджала аўтарскаму роздуму. Другая дэбютантка — А. Тафіменка паспрабавала сябе ў дзіцячым кіно. Лічу: паспрабавала няўдала, бо эксцэнтрычная асоба рэжысёра засланіла галоўнага героя яе твора — хлопчыка-інваліда. У выніку пра незадаволенасць дэбютанткі ведаюць усе, а пра яе стужку "Падзенне ўверх" — адзінкі. Кароткаметражная стужка "Як Колька і Пецька ляталі ў Бразілію" — дэбют у дзіцячым кіно Р. Грыцковай (Рэната — аўтар цудоўных дакументальных стужак "Сямейны блюз пад гукі акарыны", "Хутка лета мінецца"). Здымаць Р. Грыцкову натхнілі дзіцячыя апавяданні Д. Хармса. Наогул летась жанчыны-рэжысёры былі вельмі актыўныя. Нават з тых беларускіх карцін, якія былі зроблены ўжо сталымі майстрамі, — М. Касымавай ("Маленькі баец"), В. Дудзіным ("Тры жанчыны і мужчына"), Б. Шадурскім (рабочая назва фільма "Выратуйце нашы душы"), — адна стужка належыць жанчыне-рэжысёру.

Прэм'ерны паказ стужкі В. Дудзіна адбыўся амаль напярэдадні Новага года. Лірычная камедыя "Тры жанчыны і мужчына" (аўтар сцэнарыя В. Мярэжка) належыць да так званага "народнага кіно". У адрозненне ад маскоўскіх калег Пятра і Валерыя Тадароўскіх, занепакоеных філасофіяй любоўнага трохкутніка, В. Дудзіна зацікавіў любоўны "квадрат". І, дарэчы, не ўпершыню. Сюжэт даўнішніх "Развітальных гастроляў" таксама будуецца на любоўным "шматкутніку" — чатыры актрысы і рэжысёр. А вось карціна Б. Шадурскага, дзе галоўнымі героямі зрабіліся "маленькія байцы" з дзіцячай калоніі, аптымізму не выклікае.

Добрая традыцыя экранізаваць класічныя літаратурныя творы захавалася на "Беларусьфільме" і дагэтуль. Некалькі гадоў Б. Берзнер здымаў навелы О"Генры (атрымалася забаўляльная камедыя "Справы Лахоўскага") . У 1998 годзе малады беларускі рэжысёр А. Ганчаронак распачаў здымкі па творы Ф. М. Дастаеўскага "Пакорлівая" (на жаль, праца над фільмам пакуль спынілася). Працягвае рыхтавацца да здымак кінаэпапеі "Момант ісціны" па



*Рабочы момант здымак фільма "Падзенне ўверх".*



*Здымаецца фільм "Пакорлівая".*

рамане У. Багамолава рэжысёр М. Пташук. А чым чорт не жартуе, пакуль Бог спіць, можа, і здолеем пераплюнуць М. Міхалкова і яго "Сібірскага цырульніка"? Дарэчы, больш за палову свайго фільма (мантаж, агучванне) Міхалкоў рабіў на Захадзе. Аднак не ўсе расійскія рэжысёры такія пераборлівыя. Д. Астрахан, М. Лебедзеў, Я. Мацвееў, А. Сурын, А. Грамацікаў пагадзіліся і на танныя паслугі "Беларусьфільма". Пладавіты рэжысёр Д. Астрахан летась здымаў на студыі аж дзве стужкі — "Падары мне месяцовае святло" і "Скрыжаванне". Звычайна ў фільмах Астрахана беларускія акцёры іграюць ролі другога плана. Стужка "Скрыжаванне" — доўгачаканае выключэнне: адну з галоўных роляў сыграла маладая актрыса з Мінска А. Лягчылава. Наогул, беларускія кінематаграфісты ахвотна дапамагаюць расійскім калегам. Вядомы наш аператар Т. Логінава летась працавала сумесна з А. Сурыным. Аператар Ю. Марухін удзельнічаў адразу ў здымках дзвюх стужак: "Тры жанчыны і мужчына" і "Разрываючы цішыню" М. Голана.

Думаю, творчай Мекай студыя "Беларусьфільм" застанецца надоўга. Прынамсі, беларускім рэжысёрам хваляваццa нельга — беларускае кіно амаль цалкам спансіруе дзяржава (у 1998 годзе з дзяржаўнага бюджэту на кінематограф выдзелена на 2,8% больш сродкаў, чым на іншыя віды мастацтва). Бо, нягледзячы на тое, што попыт на нашы стужкі невялікі, акупляльнасць іх вельмі нізкая, сёлета "Беларусьфільм" здольны зрабіць адну стужку на свае грошы. Калі казаць пра нацыянальныя планы студыі, то сёлета плануецца запуск другой часткі "Маленькага байца" і некалькі сумесных расійска-беларускіх праектаў: здымкі фільма "Рэйнджэр з атамнай зоны" (рэж. В. Нікіфараў) і экранізацыя раманаў А. Марынінай.

...Здымалася дзіўнае кіно: доўгія, цёмныя калідоры "Беларусьфільма" зрабіліся ўтульнымі і светлымі. Шэрыя, панурыя твары нашых рэжысёраў — вясёлымі і добразычлівымі. "Усміхайцеся, спадары, усміхайцеся. Мы здымаем кіно", — падбадзёрваў усіх мястачковы барон Мюнхгаўзен — С. Лук'янчыкаў. Чуллівыя — білі ў ладкі, незадаволеныя фантазіямі барона развažалі: "Раней былі паліцы забароненых фільмаў, цяпер — нікому непатрэбных". Стоп. А гэта ўжо — іншая гісторыя.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

**Літаратурны музей Янкі Купалы смуткуе з прычыны заўчаснай смерці старшыні Беларускага саюза жанчын, намесніка Старшыні Савета Рэспублікі, шчырага сябра музея Янкі Купалы — Тамары Мікалаеўны ДУДКО. Выказваем глыбокае спачуванне родным, блізкім і сябрам Тамары Мікалаеўны.**

**Сябры творчай суполкі "Пагоня" смуткуюць і выказваюць шчырае спачуванне родным і блізкім з прычыны раптоўнай смерці Міхася РАЙЧОНКА, рупліўца на ніве беларускага Адраджэння, літаратара, старшыні культурна-асветніцкага цэнтра імя Язэпа Драздовіча.**

